# Пуня ў вёсцы Квачы



Зчарговай роварнай вандроўкі прывёз дадому... цэлую пуню.

Не раўнуючы, спыніўся перад дзіва-будовай як спыняюцца перад велічным храмам. Штосьці было ў ёй ад неба і хмары, ці, можа, ад вяршыні марскога айсбергу.

Кінулася ў вочы не адразу. Нібыта схаваная ад прагнага вока, яна танула ў глыбіні вясковага двара, выглядаючы гіганцкім нарогам...

Слова *пуня*, падказвае вікі-слоўнік, – запазычаньне ад латышскага слова *«pupe»*. А яшчэ, па-нашаму, *сенніца* (сюды пераважна звозілі сена з вакольных лугоў), *клуня, хлеў, стадола, ток*. І тое, мабыць, яшчэ не ўсё. Што ні назва – аповед, эмоцыя, вобраз. А перадусім рукастая праца дойлідаў, якія шырока-высока стварылі гэты помнік-шэдэўр.

Колькі ж яму? Сто гадоў сама меней. Пэўна, дрэва ў зрубе яшчэ звініць, ярчэе. А вось саламяная страха, мабыць, даўно саступіла чорна-пергамінавай.

*З паклонам,* В.Д. (тэкст, фота)

## ПУНЯ

Пуня – гэта не проста
З нейкіх вяршалін зруб,
Па-над якім рыжэе
Страхі саламянай чуб,

Шчыт забіты дошкамі
Або заплецен лазой,
Дзверы, ў якія можна
Уехаць падводай любой;

І на памост сасновы
Сена пласты звярнуць,
Змарыўшыся пасля працы,
У леце духмяным заснуць.

Пуня – гэта гербарый
Ўсіх траў і кветак зямлі,
Якія пад сонцам квітнелі,
Пад маладзікамі раслі.

Гэта – такая святыня,
Дзе на працягу вякоў
Вяселлі усе спраўляліся
Пад перазвон камароў,

Пад шчабятанне ластавак,
Дзе іх любімы дом,
Пад звон ападаючых зораў
І гулкіх ліўняў гром.

Пуня... Ды што казаць тым,
Хто ў ёй ніколі не быў,
Не дыхаў водарам сена,
Ніводнага сну не сасніў.

1961

*Максім Танк*

# Нясвіжскія каеты



*Гісторыя…*
*Яна шануе кожную асобу,*
*І кожны штрых, і летапіс, і дату...*
Кастусь Жук, Затур'я.

*Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс. Першы год выдання*

**№ 2 КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2019 г.**

## У НУМАРЫ:












*Стар. 2. Ліст у рэдакцыю.*

*Стар. 3. Наш наступны крок да чытача.*

*Стар 8. 100 дубоў для Жылкі.*

*Стар. 17. Андрэй Мяцельскі.*

*Стар. 18. 45 гадоў Карцэвіцкай школе.*

*Стар 21. Атамная рэпетыцыя.*

*Стар 25. Студзёнскія гісторыі.*

*Стар. 32. Іосіф Макрэцкі.*

*Стар. 39. Даніна памяці.*

*Стар. 47. Запозненае прызнанне.*

*Стар. 64. Дзяржава волатаў.*

*Стар. 67. Пра Сымона Буднага.*

*Стар. 69. Кот, па якім сумуюць Нясвіж і Парыж.*

*Стар. 74. Меткі русізацыі Нясвіжа.*

**Дызайн вокладкі Валерыя Дранчука.**

Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Нясвіжчыны дасылаць іх на E-mail: kajety@list.ru

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў

На правах электроннага рэсурса

Заснавальнік:
Нясвіжская раённая арганізацыя Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"

Рэдкалегія:
Дранчук Валер,
Качановіч Леанід,
Плакса Наталля,
Суднік Станіслаў

Тэхнічны рэдактар
Суднік
Станіслаў Вацлававіч

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
kajety@list.ru

АДРАС САЙТА:
http//nslowa.by
http//pawet.net
http//kamunikat.org
http//belkiosk.by

9,75 друк. аркушаў

Часопіс падпісаны да друку 25.06.2019 г.

# *"З першага нумара відаць, што лісты "каетаў" выйдуць за межы афіцыйных схемаў і традыцыйных догмаў"*

"Што за **"каеты"**? Недзе чула гэтае слова…"

І вось ва ўяўленні, раптам, паўстае мая бабуля, якая пражыла за сто гадоў. Ад яе чула гэтае слоўка! Цікава! Адгортваю "вокладку". І першыя словы, на першай старонцы:

*Адшумелі стагоддзі над краем,*
*Твар змяніўся самое зямлі…*

Дзякую ў думках аўтару за "Люцыянаву таполю". Пранікнёна! Добры пачатак агляду гістарычнага ландшафта вядомай і невядомай Нясвіжчыны. Якія адчуванні былі далей - памятаю слаба, бо чытанне было актыўным, "з поўным пагружэннем" у змест старонак.

Як настаўнік, збіральнік гісторыі суседняга Стаўбцоўскага раёна, бачу і разумею каштоўнасць усіх раздзелаў часопіса - "Каляндар", "Навіны", "Юбілеі", "Радзівілы", "Даследаванні", "Успаміны". Усё гэта вельмі патрэбна для разумення таго, якое асаблівае месца займае наш край на гістарычнай карце Беларусі. З артыкулаў, дзе падзеі падаюцца ад імя іх сведкаў, бачыш гістарычна выразную карціну малой радзімы, апраўленую падрабязнасцямі і дэталямі мінулага. Каштоўна тое, што выкарыстоўваюцца матэрыялы і даследаванні школьных краязнаўчых музеяў, якія зараз, у большасці сваёй, у заняпадзе.

Мне асабіста найбольш цікавымі падаліся "Успаміны". У той час, калі сёння мінулае часцяком залішне азмрочваецца ці, насупраць, паэтызуецца, Вікторыя Жукевіч-Дзівота здолела праўдзіва і шчыра паказаць повязь гадоў праз лёс свайго бацькі. Вось яна - адкрытая душа простага чалавека ў сардэчнай споведзі. Вось яна - гісторыя, якая ажывае, рухаецца, захапляе ўяўленне сваімі разнастайнымі фарбамі, сюжэтамі, карцінамі з жыцця родных, землякоў. Вялікая падзяка аўтару. Будзем чакаць працягу.

У "Нясвіжскіх каетах" нечакана "засвяцілася" і Стаўбцоўшчына (нататкі Уладзіслава Абрамовіча), за што асобная ўдзячнасць ад суседзяў. А наогул, на старонках часопіса прасочваецца шмат стаўбцоўска-нясвіжскіх паралеляў. Знаёмыя прозвішчы, месцы падзей, нават асобы. У адным ваяводстве колькі гадоў жылі, па адных шляхах рухаліся, па агульным друку навіны адсочвалі…і шмат чаго яшчэ.

Рэдкалегія, у склад якой уваходзяць такія цудоўныя асобы, дакладна адчула патрэбу ў неабходнасці мастацкага слова. Радзел "Гісторыя мастацкім словам" - вельмі цікавы і да месца.

І апошняе. Электронны варыянт - гэта сучасна, інфарматыўна і адпавядае рэаліям. Ёсць чаму па-добраму пазайздросціць. Пажадаю "Нясвіжскім каетам" натхнёнай працы, як мага больш адданых чытачоў. З першага нумара відаць, што кожны ліст выдання пойдзе ў жыццё па-за межамі афіцыйных гістарычных і мастацкіх схемаў, традыцыйных догмаў і будзе штуршком да ўсведамлення нашых агульных духоўных сіл, здольнасцяў кожнага чытача. Шчырыя віншаванні ад стаўплянаў з выхадам першага нумара! Так трымаць і надалей!

***Л. С. Назаранка,***
***Стоўбцы.***

# *Наш* НАСТУПНЫ КРОК ДА ЧЫТАЧА



***Ратушная плошча ў Нясвіжы.***
**Фота:** Валер Дранчук

ІНІЦЫЯТЫВА рэдкалегіі нашага часопіса, зацікаўленай грамадскасці горада і раёна - **знайсці новых чытачоў, пашырыць кола сяброў ТБМ, пачуць прапановы, абмяняцца думкамі, а таксама запрасіць да размовы кіраўніцтва мясцовай вертыкалі** - не знайшла падтрымкі ў раённых ідэалагічных начальнікаў. Тым часам, нягледзячы на пэўныя перашкоды, зладжаны чарговы, другі нумар выдання.



«Маючы ключы ад народнай маёмасці, улада пакінула грамадскасць, **зацікаўленую гісторыяй, культурнай спадчынай роднага краю,** сам-насам з праблемай памяшкання. Праблема вырашальная, іншая справа – с т а ў л е н н е адміністрацыі»

Як вядома, райвыканкам - галоўная адміністрацыйна-ўладная адзінка ў раёне - не дазволіў актывістам раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы, аўтарам і чытачам новага электроннага часопіса “Нясвіжскія каеты” сабрацца ў гісторыка-краязнаўчым музеі (як варыянт - бібліятэка), каб правесці тут прэзентацыю выдання з нагоды першага нумара.

Улада, маючы ключы ад народнай маёмасці, пакінула грамадскасць, зацікаўленую гісторыяй, культурнай спадчынай роднага краю, сам-насам з праблемай памяшкання.

Скажам адразу, праблема не тупіковая, вырашальная, іншая справа – стаўленне ўлады.

Можна гэтаму здзіўляцца, можна не здзіўляцца, але нельга маўчаць, пакідаць без увагі. Чаму адміністрацыя пайшла на такі крок, паспрабавала, вобразна кажучы, накінуць замок на грамадскую ініцыятыву, дый на пашырэнне адукацыйна-інфармацыйнай прасторы ў раёне?

І ці першы гэта выпадак? На жаль, не першы.

Дагэтуль застаецца замкнёным (лепш сказаць, арыштаваным і змешчаным у “ізалятар”) папярэдняе ініцыятыўнае выданне – літаратурны альманах ***“Нясвіжскі ўток”*** (2017). Што ў ім напалохала раённа-адміністрацыйных цэнзараў, асобнае вялікае пытанне.

Але факт ёсць факт: у кабінетах райвыканкама сядзяць палітрукі з “адпаведным” мысленнем - гэта можна чытаць народным масам, а гэта нельга ці непажадана.

Падобны лёс напаткаў і маляўнічы каляндар ***“Невядомая Нясвіжчына”*** (2019), здавалася б, наскрозь асветніцкі, пазнавальны, ілюстрацыйны. Што праўда, арыштаваць наклад не ўдалося, усе да аднаго асобнікі трапілі ў рукі карыстальнікаў без кабінетнай чыткі. А што да прэзентацыі выдання ў тым жа будынку (музеі), ключы ва ўласнай кішэні да апошняга дня пратрымаў галоўны ідэолаг Балцянкоў - на ўсе напамінкі, хаваючы сумленне, нахабна адказваў: “Яшчэ не паглядзеў...” (гэта значыць, не паглядзеў каляндар на... “адпаведнасць”).

Калі ўжо так, дык хто ж вы, як не цэнзар, спадар Балцянкоў? Але адна справа, калі са свежым нумарам да цябе прыбягае рэдактар “Нясвіжскіх навінаў” (орган райвыканкама), і зусім іншая, калі выданне ладзіцца сіламі грамадскасці, за свой кошт і дзеля сваіх праграмных мэтаў, якія, вядома ж, могуць і не супасці з уладна-рэжымнымі ці іх нашмат апярэджваць. Як кажуць, дзве вялікія розніцы.

Але вернемся да “Каетаў”.

Арганізатары прэзентацыі гэты раз звярнуліся ў райвыканкам пісьмова. Так і так, просім дазволу, запрашаем да ўдзелу.

У напружанай доўгачаканасці, але ў рэшце рэшт атрымалі пісьмовы адказ, які яскрава пасведчыў: канторскія кручкатворы ў прыродзе жывуць і не гаруюць - іх род нязводны. Ды дзе! На Ратушнай, 1 у самым Нясвіжы.

Вось ключавая цытата для тых, хто прышчэплены ад заразы цынічнага занудства:

*“...правядзенне мерапрыемства ў бібліятэцы ці музеі магчыма пасля вывучэння гістарычнай дакладнасці матэрыялаў часопіса, які прэзентуецца, уключэння мерапрыемства ў план работы, распрацоўкі сцэнарнага плана і прызначэння адказнага за мерапрыемства (...)”.*

Гэта не ўсё. Дадаецца яшчэ цэлы спіс працэдур для “ўрэгуля-вання пытання”.

Звяртаюся да аўтараў глыбока-думнага ліста. Не крыўдуйце, што я таксама гляну на “адпавед-насць” і вынесу вашай супольнай працы свой вердыкт і дыягназ: ШТО гэта, як не ПСІХАПАТЫЧНЫ ЗДЗЕК!? ШТО – як не абраза цэлай грамады, калектыву людзей? Не мяне, асобна ўзятага аўтара, хто

**«** ***Не ад здаровых старанняў прыспела думаць, што яны, людзі, каб зладзіць сустрэчу ў культурніцкім асяродку, не заслужылі гэтага ці марна-нясталыя ў сваіх парываннях***

разам з сябрамі чакаў сустрэчы, не асобна ўзятай спадарыні Плаксы, якая пісьмова звярнулася да вас ад імя Таварыства, не спадара Судніка, які з раздрукаваным асобнікам, загадзя і надзвычай пачціва, жадаючы разумення і дыялогу, паінфармаваў вас пра новы часопіс... Куды больш: гэта абраза вялікай групы людзей, шматлікіх прадстаўнікоў грамадства.

Пэўна ж, не ад здаровых пільных старанняў прыспела вам думаць, што яны, людзі, каб зладзіць сустрэчу ў культурніц-кім асяродку, не заслужылі гэтага ці марна-нясталыя ў сваіх парываннях, або, прабачце за пафас, яднаюцца ў інтарэсах, якія вам падаюцца сумнеўнымі ды небяспечнымі, супярэчаць нібыта вашым, дзяржаўна-уладным...

Што яднаюцца - гэта факт. І факт неаспрэчны. Але яднаюцца пад сцягам Айчыны, Бацькаў-шчыны, вакол нашай - НЕ ЧУЖОЙ! - гістарычнай спадчыны і святой роднай мовы...



***Бюст Якуба Коласа ў нясвіжскім «пантэоне».***

Пейзажны парк рэзідэнцыі Радзівілаў. Нясвіж, 2019

**Фота:** Валер Дранчук

Ці не гэта палохае вас? Якая ж іншая боязь точыць ваш мозг, каб адмовіць у праве на сціплае памяшканне? І хоць "ключы", безумоўна ж, у вас і пад вашым «кантролем», але, можа стацца, чарговы раз іх ніхто й не папросіць. І пытанне будзе паспяхова "ўрэгулявана"...

"Прэзентацыя без права на дазвол" з боку ўлады стала, як бачым, дэманстратыўным сведчаннем (гарантыяй?) іншага права - права на НЕдазвол. Таму і шчырые кабінетны падпанак, паглядаючы на вежу Ратушы ў сваім акне, - каб мы, сярмяжная грамадскасць, карысталіся менавіта гэтым адзіным «правам».

Дарэчы, аўтары адказу спасылаюцца на "дзеючае заканадаўства". Аднак, прыкрываючыся законамі, матывуюць адмову павучальна бюракратычнымі маніпуляцыямі кшталту "вывучэння гістарычнай дакладнасці". Скажыце: ну каму няясна, неўразумела - што ў краязнаўстве, у гістарычных дыскурсах не бывае апошняй кропкі? На тое і прэзентацыя - выслухванне пазіцый, сустрэчныя довады, рух наперад у асэнсаванні розных напрамкаў.

Бянтэжыла публікацыя да 100-годдзя Нясвіжскага паўстання (1919-2019)? Разумею, разумею... Але спроба накінуць замок на юбілейную дату (ды якую!), на інтэрпрэтацыю далёка-туманных ад нас падзей, на грамадзянскую памяць пра расстраляных землякоў-герояў, як гэта робіць сёння раённая ўлада, – ці не ёсць стыль і метад папярэднікаў сталінскай "масці". Хто не бачыў, пасведчу: на помніку паўстанцам тэкст з інфармацыяй няшчадна выдрапаны бальшавіцкай цэнзурай. Цвёрда-каменны аргумент, хіба не!

Здавалася б, той бяды, што ўлады не прымаюць грамадскі прадукт. Аднак... Не прымаюць, бо ён не з іхняга цеста! Не па іхніх "адпаведных" рэцэптах! Не на іх замову! Самастойнасць ініцыятывы, што вымыкае з-пад кантролю адміністрацыі, - раздражняе і палохае шматлікіх нашчадкаў тае самае, рыжа-вусатай "масці".

Як нядаўна (і даўно) напалохалі Курапаты. На выварочванне святых Крыжоў, што ўчыніла і працягвае чыніць сваю чорную справу ўладная "масць", першы і самы дакладны водгук я пачуў ад **Святланы Алексіевіч**. Дазволю працытаваць яе словы: *"Гэта наступ на ўсю грамадзянскую ініцыятыву. Курапаты былі сымбалем народнай самастойнасці, народнай памяці. Гэта ўсё формы свабоды, а дзяржава не хоча мірыцца ні з якай свабодай..."*

Што адбылося ў месцы найвялікшай трагедыі, тое адбываецца амаль паўсюль, па ўсёй Беларусі, прынамсі, дакладна там, дзе ёсць ініцыятыва.

Кручкатворны бяздушны здзек замест ветлівага "насустрач", што так неабачліва дазволіла сабе раённая ідэалагічная варта, – гэта і ёсць рэпрэсіўны водгук улады на грамадскую ініцыятыву, на праяву грамадзянскай свабоды. Не справядлівым законам кіраваліся яны, а страхам залежных мясцовых клеркаў, выканаўцаў ілжы, няздольнасцю трымаць годны дыялог з грамадствам і яго актывістамі.



***Самастойнасць ініцыятывы, што вымыкае з-пад кантролю ўлады, - раздражняе і палохае шматлікіх нашчадкаў рыжа-вусатай масці***

СВОЙ другі нумар мы ладзім не насуперак (хто б там не быў), а НАСУСТРАЧ – зацікаўленаму карыстальніку і чытачу, нашым аднадумцам і няўрымслівым апанентам, нашым дарадцам і шматлікім сябрам Таварыства, якія чытаюць і, спадзяёмся, будуць чытаць нас не толькі ў Нясвіжы, але і далёка за межамі. Тое, што нас аб'ядноўвае, - гісторыя краю, родная мова, прырода, надзённыя клопаты, – будзе заўсёды адлюстроўвацца на старонках "Каетаў".

Пішыце, абмяркоўвайце, заставайцеся з намі.

**Валер Дранчук,**
адзін з ініцыятараў часопіса,
сябра рэдакцыйнай калегіі

## Да 120-годдзя Уладзіміра Жылкі

# 100 дубоў для Жылкі

### Гарадзея - Макашы Фотарэпартаж

Сёлетняй вясной на Нясвіжчыне быў дадзены старт святкаванню юбілея паэта-земляка Уладзіміра Жылкі (1900 - 1933). Ён нарадзіўся ў вёсцы Макашы, вучыўся ў Гарадзеі і Міры. Жорсткія выпрабаванні сталінскіх крывавых рэпрэсій скончыліся для паэта трагічна, ён памёр далёка ад родных мясцін, у заволжскім горадзе Уржуме. Там і застаўся...

**ГАРАДЗЕЯ**

11 красавіка сябры ТБМ Нясвіжа сумесна з гарадзейцамі і мясцовай школай (актыўным арганізатарам выступіў Леанід Качановіч, памочнік дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Алены Анісім) зладзілі неверагодна моцную прыгожую акцыю - "100 ДУБОЎ ДЛЯ ЖЫЛКІ".

Пасля кароткага мітынгу са словамі пажаданняў, дзе з вуснаў маладых прагучала і лірычнае слова паэта, дзясяткі ўдзельнікаў выйшлі на бераг ракі Ушы, каб на 5 гектарах рачной поймы закласці (пасадзіць) пейзажны парк выключна з дубоў.

Акцыя ўдалася на славу.



***Сябар ТБМ, распарадчык і адзін з арганізатараў зялёнай акцыі, майстар ЖКГ Леанід Качановіч***






***Гарадзея. Слова прывітання ад Алены Анісім***



***Гарадзея. Каманда юніёраў мясцовага футбольнага клуба перад пачаткам акцыі***





***Гарадзея. Удзельнікі акцыі рушылі на працоўны аб'ект. Панарама з выглядам на стадыён і пойму Ушы***





***Гарадзея. Камень, на якім неўзабаве з'явіцца шыльда з надпісам "Дуброва. Пасаджана ў рамках акцыі ТБМ "100 дубоў для Жылкі".***
***На другім плане пойма Ушы і панарама з выглядам на вёску Макашы***

**МАКАШЫ**



***Макашы. Чынны ўдзел у акцыі ўзялі таксама настаўнікі і вучні мясцовай Астроўскай школы (у цэнтры дырэктар школы Алена Крупец)***



***Макашы. Два дубкі пасаджаны перад хатай, у якой нарадзіўся паэт***

Праз тыдзень, акурат у Чысты чацвер, колькі дзясяткаў дубоў былі пасаджаны і ў вёсцы Макашы - непадалёк ад хаты паэта, у маляўнічай пойме Ушы.

Балюча згадваць, што хата, у якой Уладзімір Жылка нарадзіўся і пражыў свае першыя 14 гадоў (амаль палова жыцця!), яшчэ цалкам прыдатная для мемарыяльнага музея, дагэтуль не выкупленая ні дзяржавай, ні грамадствам для папулярызацыі імя і спадчыны "тонкага лірыка, перакладчыка і літаратуразнаўцы". Да гэтага часу няма на Нясвіжчыне ніводнай вуліцы, ніводнай установы адукацыі, ніводнай установы культуры, што ўшаноўвалі б яго імя.

Да юбілейнай даты, што ўвесну 2020, ёсць яшчэ час.

***Наталля Плакса.***

*(Гл. дадаткі.)*

*Дадаткі*

# Уладзімір Адамавіч Жылка

**Уладзімір Адамавіч Жылка** (27 траўня 1900, в. Макашы, Наваградскі павет, Менская губерня, цяпер Нясвіжскі раён, Менская вобласць - 1 сакавіка 1933, Уржум, Кіраўская вобласць, РСФСР; Псеўданімы: Вл. Ж.; Вал. Жыл.; Вл. Ж.; І. Жылка; Л. Макашэвіч; Макашэвіч; Л. Макашэвіч; У. Ж.; Ул. Ж.) - беларускі паэт, перакладчык, крытык.

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў Гарадзеі. Скончыў гарадское вучылішча ў Міры (1914), разам з бацькамі пераехаў у Менск. Падчас Першай сусветнай вайны сям'я была ў бежанцах у Тульскай губерні. Скончыў 3 класы Багародзіцкага агранамічнага вучылішча (1915-17), у сакавіку 1917 г. вярнуўся разам з бацькам у прыфрантавы Менск, вучыўся ў сельскагаспадарчай школе.

У кастрычніку 1919 - сакавіку 1920 гг. працаваў настаўнікам у 21-й менскай беларускай пачатковай школе, зблізіўся з беларускім вызвольным і культурна-асветным рухам, наведваў клуб "Беларуская хатка", пазнаёміўся са старшынём Беларускага тэатральнага таварыства Ядвігіным Ш., а таксама з Я. Купалам, З. Бядулем, М. Чаротам, Л. Родзевічам. У 1919 г. уступіў у партыю беларускіх эсэраў. Надзяляў панскай зямлёй сялян, працаваў аграномам нацыяналізаванага маёнтка пад Менскам, якім загадваў М. Чарот (1918-19), прымаў удзел у антыпольскім падполлі. Друкаваўся ў менскіх выданнях.

Восенню 1920 г. захварэў на сухоты і пераехаў да дзеда ў в. Падлессе Наваградскага пав. Пасля Рыжскага дагавора 1921 г. апынуўся на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Зблізіўся з паўстанцкай групай І. Мікуліча, якая дзейнічала на Нясвіжчыне, пазнаёміўся з былымі членам паўстанцкага ўрада на Случчыне У. Пракулевічам, пісаў для падпольшчыкаў лістоўкі, адозвы, заклікова вершы ("Каваль", "Дзед", "Гімн беларускіх паўстанцаў"), устанавіў сувязь з беларускімі газетамі "Беларускія ведамасці", "Наша думка", якія выдаваў М. Гарэцкі, сябраваў з лідарамі Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыіцыі (БРА) Л. Родзевічам, І. Канчэўскім, А. Канчэўскім, прымаў удзел у падрыхтоўцы легальных выданняў БРА (арыштоўваўся як рэдактар аднаго з іх). Пасля няўдачы паўстання, рыхтаванага на Віленшчыне, Гарадзеншчыне і Беласточчыне ўрадам БНР з тэрыторыі Літвы ў пач. 1920-х гг., рэвалюцыйная сітуацыя ў Заходняй Беларусі паслабела. У. Жылка сустрэў адыход ад узброенага змагання з прыкрасцю, нават адчаем.

Працаваў у Вільні ў беларускай кнігарні. Апекаваў разам з Л. Родзевічам створаную ў Віленскай беларускай гімназіі тэатральную майстроўню. Каб пазбегнуць прызыву ў войска генерала Л. Жалігоўскага, летам 1922 г. выехаў у Літву (Коўня), потым пераехаў у Латвію, пачаў наведваць выпускны клас Беларускай гімназіі ў Дзвінску. Выконваў ролю сувязнога паміж віленскім і ковенскім цэнтрамі беларускага нацыянальна-вызвольнага руху і беларускімі зямляцтвамі ў Прыбалтыцы. У канцы 1922 г. нелегальна вярнуўся ў Вільню, дапамагаў



Л. Родзевічу ў апрацоўцы матэрыялаў для газет "Наша будучыня" і "Новае жыццё".

У лютым 1923 г. выехаў на вучобу ў Чэхаславакію. Паводле рэкамендацыі Л. Родзевіча стаў стыпендыятам Чэхаславацкага ўрада, у 1923 г. паступіў на філалагічнае аддзяленне філасофскага факультэта Карлавага ўніверсітэта. Адзін з ініцыятараў стварэння Арганізацыі беларускага прагрэсіўнага студэнцтва (АБПС), сябраваў з яе старшынём І. Дварчаніным, дапамагаў у выданні органа гэтай арганізацыі - часопіса "Перавясла". У сярэдзіне 1920-х г. зблізіўся з "Саюзам студэнтаў грамадзян БССР", рэдагаваў часопіс "Прамень" (пазней "Новы прамень"). Да 1926 г. жыў у Празе.

У 1926 г. прыехаў у Менск на Акадэмічную канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу. Вырашыў прыняць савецкае грамадзянства (Л. Родзевіч раіў яму вяртацца ў БССР і "смакаваць марксізм", А. Луцкевіч лічыў, што ў Менску больш прастору для асветніка, чым у Вільні). У. Жылка застаўся ў БССР. Загадзя атрымаў пасведчанне аб здачы экзамену за курс гісторыі філасофіі. Выйшаў з партыі эсэраў. У Савецкай Беларусі У. Жылка спачатку працаваў у Інбелкульце, потым у газеце "Беларуская вёска". З 1927 г. загадчык аддзела літаратуры газеты "Звязда", выкладаў беларускую літаратуру ў Менскім музычным тэхнікуме. Быў членам літаратурных аб'яднанняў "Маладняк" і "Узвышша". У 1928 быў выключаны з "Маладняка" за тое, што не набліжаецца да пралетарскай літаратуры, працягваў друкавацца ва "Узвышшы"; з прычыны контрбеларусізацыйнай хвалі

вымушаны пакінуць "Звязду". Працаваў перакладчыкам у Белдзяржкіно, працягваў выкладаць замежную літаратуру ў музычным тэхнікуме. Здружыўся з Я. Пушчам, У. Дубоўкам, А. Бабарэкам.

19.07.1930 г. арыштаваны пад Менскам ДПУ БССР па справе "Саюза вызвалення Беларусі". Пры ператрусе на кватэры ў яго забралі 27 кніг, шмат пісьмаў і рукапісаў. Не прызнаў сябе вінаватым. Пастановай калегіі АДПУ ад 10.04.1931 г. асуджаны на 5 гадоў ссылкі, якую адбываў ва Уржуме Кіраўскай вобл., дзе працаваў загадчыкам гаспадаркі і выкладчыкам літаратуры ў медыцынскім тэхнікуме. Памёр ад туберкулёзу лёгкіх. Пахаваны на мясцовых могілках. Хацеў быць пахаваным у Вільні, горадзе, які вельмі любіў. Рэабілітаваны 19.9.1960 г. Судовай калегіяй Вярхоўнага Суда БССР.

У 1918 г. напісаў свой першы беларускі верш "Покліч" (надрукаваны ў газеце "Беларусь", 25.1.1920). Друкаваўся ў заходнебеларускіх выданнях "Беларускія ведамасці", "Наша думка", "Наша будучыня", "Новае жыццё". У вершах пач. 1920-х г. "Беларусь", "Замчышча", "Мы любім даўнія паданні", "Палімпсест" паэт вылучае дзве супрацьлеглыя сілы, якія спакон вякоў твораць гісторыю: наканаванасць, лёс, "напасці" і свядомая барацьба грамады, што можа павярнуць ход падзей да свабоды, нацыянальнай годнасці і сацыяльнай справядлівасці. Лічыць, што і *"мамэнты заняпаду... распазнаць нас вучаць здраду"* і цаніць вернасць.

У артыкуле "У справе ацэнкі беларускага адраджэння" (1923) У. Жылка называе асновай беларускай вызвольнай ідэі спалучэнне нацыянальнага з сацыяльным. Ён адхіляе адначасна псеўдапатрыятычны тэзіс аб выключнасці нацыі і марксісцкі пастулат аб буржуазнасці нацыянальнай справы. У рэцэнзіі на збор твораў Л. Родзевіча "Беларусь" ухваляе паэзію аўтара, які не апісваў абшар ці "гаспадарскі лад", а паказваў духоўныя каштоўнасці Беларусі.

Рукапісны гісторыка-філасофскі эцюд У. Жылкі "Беларусь-Крыўя" пачынаецца з пастулату, што тэма бацькаўшчыны *"можа быць вырашана толькі ў плоскасці сэрца і волі"*. Беларусь для яго нешта матэрыяльнае, а "Крыўя - гэта творчасць і форма, сутнасць якое - нацыя. Змест - кожнае дасягненне: новы верш, новы навуковы твор... ёсць Крыўя". Суадносіны паміж дзяржавай зямной і дзяржавай Духу - складаная непазбежнасць, паэт дапускае, што адроджаная Беларусь павінна стаць сінтэзам дзяржавы мяча і плуга з дзяржавай Духу.

Аўтар паэмы "Уяўленне" (Вільня, 1923), зборніка вершаў "На ростані" (Вільня, 1924). У цыкле "Вершы аб Вільні" (1926) называе гэты гістарычны цэнтр дзяржаўнасці і вызвольнага руху "беларускай Мекай", а беларускіх патрыётаў прыраўноўвае да ісламскіх вернікаў. У альтэрнатыўным віленскаму цыклу вершы "Альбігоец" перадае трагедыю зняверанай душы, жах ваяўнічага адступніцтва верніка, яго здзек над ідэаламі і святасцямі, якім нядаўна верыў, а тыя не здзейсніліся. Верш гучыць злавесна і прароча, ён стаў у беларускай літаратуры першым сігналам прадчування глабальнай катастрофы, набліжэння ідэалогіі катастрафізму, што неўзабаве прыгняце песімізм маладых мадэрністаў, зламаных крызісам і захопам палітычнай арэны фашысцкімі вандаламі.

У. Жылка выйшаў на прасторы еўрапейскай палітыкі і літаратуры. Яго ўлюбёнымі паэтамі былі старыя рамантыкі Персі Шэлі, М. Лермантаў, А. Міцкевіч, Г. Ібсен, Ф. Цютчаў, неарамантыкі Ш. Бадлер, А. Блок. Неўзабаве У. Жылка пачынае прызнаваць інтуіцыю, але над усім ставіць шчырасць, балючую і страшную, нават апакаліптычную праўду. Ён працягвае верыць у збавіцельную адраджальную моц красы і любові. З гэтай супярэчлівасці паўстаў у 2-й пал. 1920-х г. выдатны цыкл інтымна-філасофскіх "Вершаў спадзявання", дзе пераадольвае песімізм неарамантычных і дэкадэнцкіх плыняў еўрапейскай паэзіі, вылучае і шануе з постмадэрнісцкіх кірункаў авангардныя, што імкнуліся падняць масы і ўтрымаць веру ў сябе і весці на барацьбу за хараство супраць цемры, хаосу. Пра аптымізм яго светаспасцігання сведчаць вершы "Не складаць мне болей песняў", "Хвораму" і інш.

Падчас сваёй дзейнасці ў БССР працягваў плённа працаваць. Публікаваў артыкулы пра месца беларускай культуры ў славянскім свеце, пра творчасць беларускіх паэтаў, рэцэнзію на паэму У. Дубоўкі "Наля", велічальны верш "Антону Навіне" і інш. Супрацоўнічаў з музыказнаўцам Ю. Дрэйзіным, дапамагаў у перакладзе лібрэта і пастаноўцы сіламі студэнтаў оперы "Фаўст". Апошні яго зборнік "З палёў Заходняй Беларусі" (Менск, 1927) стаў прычынай сутыкнення паміж артадаксальна-сектанцкай групоўкай "Маладняка" і беларускімі літаратарамі, зарыентаванымі на сусветную класіку і эстэтычную суверэннасць.

У ссылцы перакладаў еўрапейскіх паэтаў, пісаў уласныя творы (усё напісанае забрана органамі НКУС Уржума і Вяткі). Захавалася дзякуючы Я. Кіпелю паэма "Тэстамент" - філасофска-публіцыстычны твор, грамадзянская споведзь і апраўданне сябе і сяброў, беларускіх патрыётаў, якія без віны сталі ахвярамі палітычных рэпрэсій. Пражытае ён лічыў пяснярскай доляй, з беларуска-мужыцкім гартам і адраджэнскай барацьбой. Маральны імператыў паэтавага развітання з жыццём - вялікадушнасць, якая ідзе ад мудрасці народнай і ад еўрапейскай філасофіі. У. Жылка адштурхоўваўся ад еўрапейскага рамантызму, выкарыстоўваў здабыткі авангардысцкай паэзіі Чэхаславакіі і Польшчы, прадаўжаў распрацоўваць патрыятычна-вызвольную легенду беларусаў, арыентуючыся на Я. Купалу і М. Багдановіча, станоўча ацэньваючы вопыт маладых паэтаў У. Дубоўкі, Я. Пушчы.

Пераклаў "Слова пра Якуба Шэлю" Б. Ясенскага (1932), асобныя творы А. Блока, А. Міцкевіча, Г. Ібсена, Ш. Бадлера, І. Волькера і інш.

**Бібліяграфія:**

Уяўленне: Паэма. Вільня, 1923;
На ростані: Вершы. Вільня, 1924;
З палёў Заходняй Беларусі. Мінск, 1927;
Вершы. Мн., 1970;
Пожні: Вершы, пераклады, крытычныя артыкулы. Мн., 1986;
Лісты Уладзіміра Жылкі да Антона Луцкевіча // Шляхам гадоў: Гіст.-літ. зб. Мн., 1994;
Творы. Мн., 1996;
Выбраныя творы. МФ "Беларускі кнігазбор". Мн., 1998.

***Вікіпедыя.***

# 100 дубоў для Жылкі

І вось ужо ў дзеях і чынах,
У справах будзённых, людскіх
Я ўзрушаным сэрцам няўпынна
Шукаць хараства не прыціх.

***Уладзімір Жылка.***

Кожная добрая справа, мабыць, таму і добрая, што заўсёды мае некалькі карысных складнікаў. Вось і тая, што адбылася нядаўна ў Гарадзеі, аб'яднаўвае розныя накірункі - эстэтычны і гаспадарчы, прыродалюбны і экалагічны, выхаваўчы, літаратурны, краязнаўчы… Спытаеце, а што ж за дзея такая? - Адна з тых трох, якія па даўняй народнай завядзёнцы павінен зрабіць кожны чалавек, - пасадзіць дрэва. Ды не абы-якое, а дуб - самае даўгавечнае на нашай зямлі, сімвалічна-сакральнае для беларусаў.

Вялікая сіла грамады ў простай статыстыцы: калі кожны пасадзіць хоць адзін дубок - атрымаецца дуброва. Так і сталася на гарадзейскім беразе нясвіжскай Ушы, непадалёк ад цукровага камбіната. Дзейная нямала гадоў шматфункцыянальная зона адпачынку "Ціхая затока" займела яшчэ адну мясцінку, дзе жыхары пасёлка цукровараў, навакольных вёсак і прыезджыя змогуць у затульнай цішыні бавіць вольны час, любавацца роднымі даляглядамі.

Ініцыятарам і каардынатарам вялікай падрыхтоўчай работы выступіў Леанід Качановіч - гісторык, краязнавец, майстар па добраўпарадкаванні Гарадзейскай філіі ЖКГ, памочнік дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Алены Анісім. Спадар Леанід удзячны кіраўніцтву і рабочым цукровага камбіната за разуменне і неаднаразовую дапамогу. Горача падтрымаў-ухваліў ідэю, актыўна далучыўся да распрацоўкі эстэтычнай часткі праекта журналіст, эколаг, заснавальнік і аўтар шматгадовай каляндарнай серыі "Маляўнічая Бацькаўшчына" Валер Дранчук, выканаў нават мастацкі план-накід агляднай пляцоўкі з берага ракі. Ад сяброў ТБМ прагучала прапанова ўшанаваць дубровай імя Уладзіміра Жылкі. 14 ранніх гадоў паэта належаць Нясвіжчыне, маляўнічай вёсачцы Макашы, што ад Гарадзеі за некалькі кіламетраў па цячэнні Ушы. 14 гадоў - гэта амаль палова жыцця нястомнага шукальніка красы і пекнаты, бо зямныя яго дарогі вымяраюцца няпоўнымі 33-ма гадамі.

У прызначаны дзень акцыя "100 дубоў для Жылкі" сабрала больш за паўсотню ўдзельнікаў. Прыйшлі-прыехалі, хто з рыдлёўкай, хто з вядром, адзінаццацікласнікі СШ № 2 г.п. Гарадзея са сваім класным кіраўніком, вучні спецшколы-інтэрната з настаўнікам, сябры Гарадзейскай і Карцэвіцкай суполак ТБМ, работнікі ЖКГ, гарадзейскія спартсмены-футбалісты, рабочыя камбіната, жыхары пасёлка. Прыехала павітаць грамаду і далучыцца да супольнай прыцы старшыня ТБМ, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Алена Анісім.

- Як жа было не падтрымаць разумную і надзённую ініцыятыву, - кажа яна, - як жа не парадавацца стваральнай актыўнасці людзей на карысць свайго краю!

У выніку культурна-экалагічнай, краязнаўча -літаратурнай працоўнай акцыі пасаджана акурат 100 дубоў. Кожны ўдзельнік жадаў ім прыжыцца, каб праз год у маладой дужасці галін, зялёных карунках свежай лістоты сустрэць 120-годдзе паэта-земляка (27 траўня - гэта дзень нараджэння Уладзіміра Жылкі - дубы, хоць і позні дрэвы, але ўжо праступяць лісцем).

Сябры ТБМ заклікаюць далучацца да акцыі "100 дубоў для Жылкі". Беларусы! Суайчыннікі! Саджайце прыгожыя і дужыя дрэвы ў гонар паэта, што спавядаў хараство як магутную ўратавальную сілу.

- - - - - - - - - - - - - - -

З надзеяй на падтрымку ў школе № 2 г. п. Гарадзея парупіліся ўжо закласці гадавальнік маладых дубкоў.

*Старшыня Нясвіжскай раённай арганізацыі ТБМ*
***Наталля Плакса.***
***НАША СЛОВА № 16 (1427), 17 красавіка 2019 г.***

# ЧЫСТЫ ЧАЦВЕР У МАКАШАХ

Літаратурна-экалагічная акцыя "100 дубоў для Жылкі", што ўзяла пачатак на гарадзейскім беразе Ушы, прадоўжылася праз тыдзень у прырэчнай вёсцы Макашы, нібыта прыплыла сюды па цячэнні ракі. Добрую справу ахвотна падтрымалі менавіта тут: Макашы - радзіма Уладзіміра Жылкі, тая вёска, што чатырнаццаць першых гадоў жыцця песціла яго, наталяла хараством роднага краявіду, гадавала "песняра змагання і красы".

Захавалася дасёння і хата, у якой ён нарадзіўся. Але агульны збор удзельнікі акцыі прызначылі не каля яе, а ў цэнтры вёскі, каля помніка паэту-земляку. Сардэчныя вітанні гучалі ад старшыні Гарадзейскага сельскага савета Наталлі Цвіркі і кіраўніка гаспадаркі "Нясвіжскія Астроўкі" Васіля Халопіцы. Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Алена Анісім гаварыла пра важнасць грамадскіх ініцыятыў на захаванне нацыянальнай памяці і добраўпарадкаванне бацькоўскіх мясцін. Вядомыя ў Беларусі ўраджэнцы Макашоў прызнаваліся ў сыноўняй любові да роднай вёскі; Часлаў Бука прапанаваў да 120-годдзя здзейсніць паездку ў горад Уржум, да магілы Жылкі. Вучні Астроўскай школы (яны завіталі на чысты чацвер ў Макашы вялікай грамадой са сваім дырэктарам і настаўнікамі) дэкламавалі вершы. Старшыня раённай арганізацыі ТБМ Наталля Плакса заклікала пашыраць межы акцыі, апавяшчаць пра яе не толькі праз друк, але і шляхам "прыватнай дыпламатыі". Прапанавала яна таксама прыняць-зацвердзіць пазнавальны знак Жылкі-паэта - белую лілею. Гэты трапны сімвал пададзены ў адным з яго вершаў:

Душа мая тужлівая -
Лілея між балот.
Яна ўзрасла, маўклівая,
Між багны сонных вод.

Галоўны распарадчык акцыі Леанід Качановіч размеркаваў і скаардынаваў работу без малога паўсотні ўдзельнікаў-энтузіястаў. Працоўных аб'ектаў набралася некалькі - гэта вольнае месца - трохкутнік каля хаты паэта, тэрыторыя ля помніка, пустка за могілкамі, вялікі масіў за вёскай у бок Ушы. Як і ў Гарадзеі, так і ў Макашах спадар Леанід папярэдне правёў вялікую падрыхтоўчую работу; арганізоўваў для яе калі рабочых ЖКГ, калі працаўнікоў сельгаспрадпрыемства, калі сяброў Гарадзейскай суполкі, калі мясцовых жыхароў.

- Сёння пасаджана яшчэ сто дубкоў, - усцешана падсумоўвае Леанід Качановіч, - але праца не скончана. Трэба клапаціцца пра дрэўцы, высыпаць агляднную дарожку, зрабіць лаўкі і альтанку, адрамантаваць студню, усталяваць камяні з радкамі вершаў. Але гэтыя клопаты не палохаюць і не засмучаюць - робім жа дзеля прыгажосці і памяці. Думаю, да Жылкавага юбілею акурат паспеем.

***Вольга Карчэўская,***
*Нясвіж.*
***НАША СЛОВА № 18 (1429), 2 траўня 2019 г.***

# Даследчык Нясвіжа Андрэй Мяцельскі - доктар гістарычных навук



У красавіку 2019 г. даследчык Нясвіжа, загадчык аддзела гістарыяграфіі і метадаў гістарычнага даследавання Інстытута гісторыі НАН Беларусі, Мяцельскі Андрэй Анатолевіч атрымаў ступень доктара гістарычных навук

Нарадзіўся А. Мяцельскі 16 верасня 1960 г. у г. Котбус, Германія. У 1984 г. скончыў гістарычны факультэт Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы. У 1990 г. скончыў аспірантуру Інстытута гісторыі АН БССР. Кандыдацкая дысертацыя абаронена ў 1992 г. - "Гарады беларускага Пасожжа X-XIII стст." (навуковы кіраўнік - д.г.н. П.Ф. Лысенка) па спецыяльнасці 07.00.06 - археалогія.

**Працоўная дзейнасць:**

У Інстытуце гісторыі НАН Беларусі працуе з 1990 г.: 1990-1993 гг. малодшы навуковы супрацоўнік, 1993-1998 гг. навуковы супрацоўнік, 1998-2009 гг. старэйшы навуковы супрацоўнік аддзела археалогіі сярэднявечнага перыяду, 2009-2013 гг. старэйшы навуковы супрацоўнік аддзела гісторыі Беларусі Сярэдніх вякоў і пачатку Новага часу, з 2014 г. старэйшы навуковы супрацоўнік аддзела крыніцазнаўства і археаграфіі.

**Выкладчыцкая дзейнасць:**

Інстытут турызму Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта фізкультуры.

Аўтар больш, чым 200 публікацый, з іх пра Нясвіж:

**Манаграфіі:**

Владельцы старого Несвижа - Минск: "БелЭн. ім П. Броўкі", 2011. - 160 с.

Забытая Альба: очерк истории загородной резиденции Радзивиллов под Несвижем. - Минск: Беларуская навука, 2014. - 128 с.

Владельцы старого Несвижа - Минск: "БелЭн. ім П. Броўкі", 2014. - 2-е издание, дополненное.

**Важнейшыя навуковыя артыкулы:**

Радзівілаўская Альба канца XVI - сярэдзіны XVII ст. // Древняя история Восточной Европы. Сборник научных статей, посвящённых 80-летию профессора Э.М. Загорульского. - Мінск, 2009. - С. 98-111.

Zachodni bastion zamku w Nieswiezu, restauracja i uzytkowanie // Zamki, grody, ruiny. Waloryzacja i ochrona. - Warszawa - Bialystok, 2009. - S. 401-408.

Новыя знаходкі агнястрэльнай зброі з Нясвіжскага замка. // Беларускі гістарычны часопіс - 2012. - № 6. - С. 42-45. (сааўтар Ціхінская В.А.).

Тыпалогія кафлі Нясвіжскага замка XVI-XVIII стст. // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. - Вып. 23. Археалагічныя даследаванні на тэрыторыі Беларусі ў 2009-2010 гадах. - Мінск, 2012. - С. 150-160 (сааўтар Абражэвіч А).

Fortyfikacje zamku w Nieswizu z konca XVI - poczatku XVIII w. // Regiony, rzemiosla, kategorie. Archeologia poznego sredniowiecza i czasow nawozytnych u uwarunkowaniach nowogo ustroju. Archaeologia - Historica - Polona. / Czasopismo Uniwersiteckiego centrum archeologii sredniowiecza i Nowozytnosci przy Uniwersitetu Mikolaja Kopernika. - T. 20. - Torun, 2012. - S. 161-190.

Развитие летней резиденции Радзивиллов в Альбе в XVIII веке // Замкі, палацы і сядзібы ў кантэксце еўрапейскай культуры: зборнік навуковых артыкулаў. - Мінск, 2013. - С. 118-127.

Фортификация Несвижского замка конца XVI-XVIII стст. (по материалам историко-археологических исследований 2001-2011 гг.) // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. - Вып. 25. - с. 93-112.

Стаяў ля вытокаў адраджэння "Гістарычна-археалагічнага зборніка" ў пачатку 90-х гг. XX ст.

**Навуковыя гранты:**

Фонд каралевы Ядвігі Ягелонскага ўніверсітэта (2007 г.), Каса імя Юзафа Мяноўскага (2010 г.)

***Паводле СМІ.***

# ДА 45-ГАДОВАГА ЮБІЛЕЮ КАРЦЭВІЦКАЙ СЯРЭДНЯЙ ШКОЛЫ

Першага верасня 1974 года расчыніліся дзверы новага будынка Карцэвіцкай школы. Былая васьмігодка набыла статус сярэдняй. Такіх прыгожых, прасторных устаноў на той час было толькі дзве на Меншчыне: адна - у Слуцку, другая - у нас, у Карцэвічах. Сталовая і актавая залы раздзельныя, спартыўная зала абсталявана душавымі кабінамі. Класы светлыя, прасторныя, з вялікімі вокнамі. З прымусовай вентыляцыяй, якую можна было пры неабходнасці ўключаць на перапынку.



*Цвітуць каштаны, 1991 г.*

Што тут скажаш, радасць у дзяцей, якія займаліся дагэтуль у розных будынках (а іх было аж чатыры), і ў настаўнікаў, што прыйшлі працаваць у новую школу, біла цераз край, захоплівала дух.

Першым дырэктарам школы быў прызначаны Анатоль Цітавіч Яўзрэзаў, які дагэтуль кіраваў Саскаліпскай базавай школай, а пачынаў сваю настаўніцкую дзейнасць на Нясвіжчыне ў Гарадзейскай сярэдняй школе № 1 пад кіраўніцтвам Сцяпана Адамавіча Крэмеза, вядомага на ўсю краіну педагога, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны. Крэмезаўскую закалку новы дырэктар прынёс і ў нашую школу.

У першы ж год пад кіраўніцтвам Анатоля Цітавіча быў закладзены школьны сад, абсаджаны таполямі стадыён, высаджана каштанавая алея, створаны дэндрарый, адзіны ў Нясвіжскім раёне. Жывая агароджа са спірэі прыгожа абрамляла школьны двор і цэнтральны ўваход у школу (фота).



*У класе, 1981 г.*

Шкада, што на сённяшні дзень амаль нічога з былога хараства ўжо не засталося. Хіба толькі на фотаздымках ды ў сэрцах тых вучняў, якія сваімі рукамі стваралі гэтую прыгажосць. Ніколі не забуду словы з пісьма вучня, які прыслаў віншаванне сваім аднакласнікам у сувязі з 20-годдзем заканчэння школы і спытаў: "Як там мой каштан, трэці ад уваходу ў школу?" Што яму

цяпер адказала б? Няма! Знішчылі! Надта многа лісця кідаў на зямлю, і іх трэба было грэбці. Таму каштаны абпілавалі, а яны не вытрымалі гэтага здзеку - з 43 выжыла толькі 13. Трэці ад уваходу таксама загінуў.

А ў школьных класах кіпела праца па абсталяванні кабінетаў. На канец першага года навучання былі афармлены кабінеты фізікі, хіміі, матэматыкі, геаграфіі і дамаводства. Намаганнямі А.Ц. Яўзрэзава ў кабінет хіміі былі закуплены на кожны стол спецыяльна сфармаваныя парныя скрынкі; у адной знаходзіліся рэактывы ў невялікіх бутэлечках з піпеткамі, а ў другой - штатывы з прабіркамі і іншыя прылады для правядзення доследаў. Карыстаючыся гэтымі камплектамі, вучні маглі праводзіць па заданні настаўніка любыя доследы, згодна з прагарамай па хіміі. Настаўнікі іншых школ вельмі здзіўляліся, што вучні на ўроках хіміі паводзяць сябе стрымана, не спрабуюць без дазволу настаўніка нават раскрыць скрыначку. Усё гэтае абсталяванне працавала аж да 2003 года. А потым, як ў той песні пяецца, пайшло "всё под снос". Сёння ў кабінеце хіміі няма



***Пасля экзекуцыі***

скрыначак з рэактывамі і абсталяваннем, няма вады, якая была падведзена да кожнага стала, няма і кранаў, праз якія яна цякла. Чаму? Адкажу вядомай фразай: "Кадры решают всё".

26 студзеня 1990 года выйшаў закон "Аб мовах у Беларускай ССР". Калектыў Карцэвіцкай СШ зрабіў усё магчымае, каб школа стала флагманам адраджэння беларускасці сярод навучальных устаноў раёна. На той час загадчыкам Нясвіжскага РАНА быў Іван Сцяпанавіч Дараховіч. Ён сам загаварыў па-беларуску, патрабаваў гэтага ад кіраўнікоў школ, а яны ў сваю чаргу - ад калектываў падначаленых ім устаноў. Уся дакументацыя, выкладанне прадметаў, усе агульнашкольныя мерапрыемствы вяліся на беларускай мове. Вучні нашай школы мелі высокія дасягненні ў роднай мове як на раённым, так і на абласным узроўнях. А ў 2000 годзе выпускніца школы Новік Вольга, якая паступала на факультэт журналістыкі БДУ, здавала французскую мову, а вусны і пісьмовы пераклад рабіла на беларускую мову. Прыёмная камісія слухала яе з захапленнем, і адзнака "выдатна" была заслужанай узнагародай. Беларускі дух панаваў у школе аж да змены кіраўніцтва ў 2003 годзе. Пры новым дырэктары наша беларуская школа стала рускамоўнай. Напэўна, гэтаму паспрыяла і змена загадчыка РАНА.

У лютым 1986 года быў адкрыты музей. На той час музеі былі ў многіх школах раёна. Перш за ўсё ў Сноўскай СШ, Нясвіжскай СШ № 3. Але наш музей - асаблівы: у ім былі такія раздзелы, якіх не было больш нідзе. Раздзел "Родны кут я пакінуў… Чыёю мы воляю гнаны?" расказваў пра землякоў, якія сталі ахвярамі сталінскіх рэпрэсій. Раздзел "Літаратурная Нясвіжчына" распавядаў аб людзях, што ўслаўлялі наш раён мастацкім словам. А раздзел "Нашы знакамітыя землякі" быў прысвечаны выдатным дзеячам навукі, культуры і народнай гаспадаркі.



*У школьным музеі*

Сёння ў школе займаецца 85 вучняў з тэрыторыі Карцэвіцкай сярэдняй і з былой Саскаліпскай базавай школаў. Іх аб'яднанне адбылося ў 2003 годзе. Для параўнання скажу, што на 1 верасня 1974 года вучняў было ў тры разы больш. Гэта гаворыць аб тым глабальным працэсе памірання вёсак, які адбываецца ў нашай краіне. Беларусь знаходзіцца на трэцім месцы ў Еўропе па колькасці гарадскога насельніцтва. І хоць вёска Карцэвічы стала аграгарадком, збудавана больш за дзясятак тыпавых домікаў з газам і вадаправодам, але нараджальнасці гэта не дадало. Моладзь не застаецца ў вёсцы. Няма і былога калгаса "Радзіма". Яго аб'ядналі з Нясвіжскай сельгастэхнікай і стварылі ААТ "Нясвіжскі райаграсервіс". Знікла вёска Надзея. У вёсцы Саска Ліпка закрыты клуб і бібліятэка, трактарны і аўтамабільны гаражы, зруйнаваны будынак васьмігодкі. Карцэвіцкі сельскі Савет далучылі да Нясвіжскага.

Зразумела, жыццё нельга павярнуць назад, час не спыніш, але думаць і нешта рабіць, каб жыла беларуская вёска - захавальніца народных традыцый і мовы, каб не пераўтвараліся ў маўклівыя здані вясковыя школы, не пусцела зямля-карміцелька, трэба.

***Ніла Яўгенаўна Бруй,***
*дырэктар Карцэвіцкай сярэдняй школы з 1987 па 2003 г.*

# "Атамная рэпетыцыя"

*29 траўня 2019 года споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння* ***Троську Канстанціну Канстанцінавічу****. Нарадзіўся ён у в. Затур'і Нясвіжскага р-на. Працаваць пачаў у Сейлавіцкай школе настаўнікам фізкультуры, а пасля атрымання вышэйшай адукацыі не адзін дзясятак гадоў працаваў у Сейлавічах настаўнікам геаграфіі, вёў гурткі, у тым ліку - фотааматараў. Падчас службы ў войску трапіў на выпрабаванне атамнай бомбы на Тоцкім палігоне ў Арэнбургскай вобласці Расіі. Пра гэты эпізод з яго жыцця з К.К. Троськам пагутарыў яго вучань, выпускік Сейлавіцкай СШ 1972 года* ***Уладзімір Грыгаровіч****.*



***Троська К.К. у маладосці***

Мой настаўнік Троська Канстанцін Канстанцінавіч быў удзельнікам выпрабавання атамнай бомбы на Тоцкім палігоне ў верасні 1954 г. Вось, што ён распавёў пра гэтую падзею:

*"Я, Троська Канстанцін, быў прызваны ў войска ў снежні 1952 г. Службу праходзіў у вучэбцы ў Жыткавічах па 2-х гадавой праграме артылерыйскай вучэльні. Рыхтавалі грунтоўна. Вывучалі 120-мм артылерыйскую гармату паасобнага зараджання (уладкаванне, дзеянне, абслугоўванне...). У траўні 1954 г. паступіла распараджэнне на выкананне сакрэтнага задання. Падпісалі дакументы пра невыдаванне таямніц на працягу наступных 25 гадоў.*

*Хутка загрузіліся разам з вайсковай тэхнікай на цягнік і рушылі, як потым высветлілася, на Тоцкі палігон. Даехалі хутка, бо было дадзена "зялёнае святло" на рух сакрэтнага састава.*

*На трэція суткі ўжо ўладкоўваліся на новым месцы дыслакацыі. Спякота была неймаверная, а даводзілася будаваць укрыцці для баявой тэхнікі, ставіць намёты, будаваць бліндажы, капаць траншэі.*

*Але ўсе хлопцы маладыя, здаровыя пераадольвалі цяжкасці. Адпачыўшы маглі зноў працаваць з такой жа інтэнсіўнасцю. Ад спякоты камандаванне знайшло "выратаванне" для вайскоўцаў. Прымусілі працаваць з 2-х гадзін ночы да 11 раніцы. Часта пад намётамі, дзе спалі салдаты, з'яўляліся змеі. Іх там была процьма. Разам са мной на палігон патрапілі землякі з Нясвіжскага раёна і г. Нясвіжа: Ярмоленка Анатоль, Чыжэўскі Генадзь, Віктар Драчан, Віктар Качура. А пазней высвятлілася, што там жа побач быў і мой зямляк з суседняй вёскі Андрушы, Таратута Іосіф, які служыў у танкавым падраздзяленні, у тым пекле шмат было розных вайсковых падраздзяленняў. Ужо вядома, што на вучэннях было задзейнічана 40-45 тыс. вайскоўцаў. Усім гэтым дзействам кіраваў і кантраляваў сам маршал Жукаў.*

*За ўсімі гэтымі працамі і іншымі цяжкасцямі армейскага жыцця вочы звярталі ўвагу на прыроду. Размяшчаліся мы на беразе ракі Самара,прытоку ракі Урал. Недалёка быў прыгожы дубовы гай, з якога мы вазілі бярвенне на будаўніцтва бліндажоў. Бачыліся кавуновая палі...*

*Аказваецца, як потым высветлілася, мы прыехалі на рэпетыцыю магчымай атамнай вайны.*

*Прайшло амаль 5 месяцаў з моманту нашага прыбыцця на Тоцкі палігон. І вось яна, гадзіна "Х", надышла.*

*14 верасня 1954 г. у 09:45 паступіў сігнал: "Ва ўкрыцце!". З намі быў палкоўнік Кірдзякоў. Стаяла мёртвая цішыня. Палкоўнік неяк напружыўся, напэўна, больш за нас разумеючы небяспеку становішча і далейшага ходу дзеянняў.*



*Троська К.К. у канцы 1960-х гг.*

*І раптам выбух... Усё затрэслася... Потым стала ціха. Праз некаторы час раздалася каманда: "Да бою!"*

*Планам вярхоўнага камандавання прадугледжвалася пасля атамнага выбуху ўвесці ў бой вайсковыя падраздзяленні: артылерыю, авіяцыю, танкі, пяхоту.*

*Пасля каманды "Да бою" нам неабходна было вокамгненна адстраляцца па меркаваным ворагу.*

*Інтэнсіўнасць стральбы была вар'яцкая. Выпусціць з гарматы 72 снарады за 18 хвілін, у хвіліну - 4 снарады. Тыя, хто прайшоў вайну, казалі, што такой шчыльнасці агню не было нават пры штурме Берліна. У вушах усё звінела і грукатала, пыл, з'едлівы пах пораху і прымешка нейкага горка-саладкавага смаку раздзірала насаглотку.*

*Пасля стральбы пайшлі самалёты, танкі, пяхота... Сапраўдны бой... Потым усё спынілася і стала ціха-ціха. Уся тэрыторыя пакрылася шэрым налётам. У раёне эпіцэнтру пясок храбусцеў пад нагамі, як шкло...*

*Прайшло 65 гадоў, а я ўсё памятаю, як быццам гэта было ўчора."*

***Запісаў Уладзімір Грыгаровіч.***

*Даведка*

## Тоцкія вайсковыя вучэнні

### Тоцкі палігон

Тоцкія вучэнні - савецкія вайсковыя тактычныя вучэнні з ужываннем ядзернай зброі пад кодавай назвай "Сняжок". Былі падрыхтаваны і праведзены пад кіраўніцтвам маршала Г. К. Жукава 14 верасня 1954 года на Тоцкім палігоне ў Арэнбургскай вобласці. Агульная колькасць вайскоўцаў, якія ўдзельнічалі ў вучэнні, дасягала 45 000 чалавек. Задача вучэнняў была ў адпрацоўцы магчымасцяў прарыву абароны праціўніка з выкарыстаннем ядзернай зброі. Тоцкі палігон быў абраны ў сувязі з тым, што рэльеф мясцовасці там нагадвае тыповы рэльеф Заходняй Еўропы - як лічылася, найболей верагоднага месца пачатку Трэцяй сусветнай вайны.

Пасля распаду СССР вучэнні крытыкаваліся за радыёактыўнае апрамяненне 45 000 вайскоўцаў ВС СССР і 10 000 мясцовых жыхароў, а таксама недастатковае інфармаванне асабовага складу і насельніцтвы пра дзеянне і меры абароны ад радыяцыі, што пацягнула рэзкае падвышэнне выпадкаў злаякасных пухлін і захворванняў крыві сярод удзельнікаў выпрабаванняў, храмасомных мутацый, заган развіцця і дзіцячай смяротнасці сярод мясцовага насельніцтва.

### Папярэдняя падрыхтоўка

Першае прадстаўленне прапановы па вучэнні было падпісана Маршалам Савецкага Саюза А. М. Васілеўскім, Б. Л. Ваннікавым, Е. І. Смірновым, П. М. Кругловым, іншымі адказнымі асобамі і накіравана намесніку Старшыні Савета Міністраў СССР Н. А. Булганіну. 29 верасня 1953 года выйшла пастанова Савета Міністраў СССР, якая паклала пачатак падрыхтоўцы Узброеных Сілаў і краіны да дзеянняў у адмысловых умовах. Па асабістым указанні Н. А. Булганіна ў месячны тэрмін усе ўказаныя дакументы былі выдадзены Ваенвыдатам і дастаўлены ў групы войскаў, вайсковыя акругі, акругі супрацьпаветранай абароны і на флаты. Адначасова для кіраўнічага складу арміі і флота быў арганізаваны паказ адмысловых фільмаў па выпрабаваннях ядзернай зброі.

Пачаліся пошукі палігона, на якім можна было б правесці агульнавайсковае вучэнне з ужываннем ядзернай зброі. Быў разгледжаны варыянт правядзення такога вучэння на палігоне Капусцін Яр, але ён быў адхілены. Увесну 1954 года групай генерал-лейтэнанта І. С. Глебава была праведзена ацэнка Тоцкага палігона, размешчанага паміж Куйбышавым і Чкалавым, ён і быў прызнаны прыдатным па ўмовах забеспячэння бяспекі для правядзення вучэння. Правядзенне паветранага ядзернага выбуху ва ўмовах перасечанай мясцовасці Тоцкага палігона мела вялікае практычнае значэнне для ацэнкі ўплыву мясцовасці на паслабленне (або ўзмацненне) паражальных фактараў ядзернага выбуху.

Вайсковае вучэнне на тэму "Прарыў падрыхтаванай тактычнай абароны праціўніка з ужываннем атамнай зброі" было прызначана на восень 1954 года. На вучэннях павінна была ўжывацца атамная бомба РДС-2 магутнасцю 40 кілатон, выпрабаваная на Сяміпалацінскам выпрабавальным палігоне ў 1951 годзе. Кіраўніцтва вучэннем было ўскладзена на Маршала Савецкага Саюза Г. К. Жукава.

Былі пастаўлены наступныя мэты:

Даследаваць уздзеянне выбуху атамнай бомбы па ўчастку загадзя падрыхтаванай абароны, а таксама на ўзбраенне, ваенную тэхніку і жывёл;

Вывучыць і практычна праверыць ва ўмовах ужывання атамнай бомбы:

- асаблівасці арганізацыі наступальных і абарончых дзеянняў частак і злучэнняў;
- дзеянні наступаючых войскаў пры прарыве абарончых палос услед за атамнымі ўдарамі;
- дзеянні войскаў у абароне ва ўмовах ужывання атамнай зброі наступаючым бокам, правядзенне контратакі ўслед за атамным ударам па наступаючых войсках праціўніка;
- арганізацыю супрацьатамнай абароны войскаў у абароне і наступленні;
- метады кіравання войскамі ў наступленні і абароне;
- матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне войскаў ва ўмовах вядзення бою;
- вывучыць адзін з магчымых варыянтаў падрыхтоўкі і вядзення наступлення з пазіцыі непасрэднага судотыку з праціўнікам, без адводу сваіх войскаў з першай пазіцыі на час атамнага ўдару;
- навучыць асабовы склад войска - шарагоўцаў і камандзіраў, - як практычна дзейнічаць у наступленні і абароне ў франтавой паласе пры ўжыванні атамнай зброі сваімі войскамі ці праціўнікам.

**Падрыхтоўчыя працы на палігоне**

Па задуме вучэння для наступаючага боку была пастаўлена задача: прарыў падрыхтаванай тактычнай абароны ўмоўнага праціўніка з ужываннем атамнай зброі, для абараняючагася - арганізацыя і вядзенне абароны ва ўмовах ужывання атамнай зброі. Асноўная ўвага надавалася наступаючаму боку, войскі якога рэальна ажыццяўлялі атамную, артылерыйскую і авіяцыйную падрыхтоўку прарыву абароны і пераадольвалі раён атамнага выбуху. Пры гэтым войскі, якія займалі абарону, былі загадзя выведзены на бяспечнае аддаленне.

Усяго на вучэнне прыцягвалася парадку 45 тыс. чал. асабовага складу (асновай вайсковай групоўкі былі 12-я гвардзейская механізаваная Мазырская дывізія і 50-я гвардзейская стралковая Сталінская дывізія ў складзе 128-га стралковага Гумбінненскага карпуса), 600 танкаў і самаходна-артылерыйскіх установак, 500 гармат і мінамётаў, 600 бронетранспарцёраў, 320 самалётаў і 6 тыс. цягачоў і аўтамабіляў рознага прызначэння. Войскі на вучэнне былі выведзены ў адмыслова распрацаваных штатах у дачыненні да арганізацыі і забяспечаны новым узбраеннем і тэхнікай. Наступленне стралковага корпуса планавалася забяспечыць трыма выбухамі: адной атамнай бомбай сярэдняга калібру і двума штабелямі скрынь з трацілам і бочак з бензінам (імітатары ядзернага выбуху). Рэальную атамную бомбу было вызначана скінуць па батальённым раёне абароны на пазіцыі палкавых рэзерваў. Гэты раён па задуме ўяўляў сабою добра падрыхтаваны вузел супраціву ў глыбіні абароны "заходніх", знішчэнне якога павінна было парушыць устойлівасць усёй абароны супрацьстаялага палка, а таксама падарваць баяздольнасць асноўнай групоўкі іх артылерыі.

Асабовы склад войскаў на час атамнага выбуху выводзіўся з будынкаў і размяшчаўся ў шчылінах і ўкрыццях. На выпадак, калі б выбух быў наземны, а не паветраны, - аварыйная сітуацыя, вучэнне адмянялася, і ўступалі ў сілу адмысловыя мерапрыемствы, распрацаваныя штабам кіраўніцтва.

Для правядзення мерапрыемстваў па забеспячэнні бяспекі насельніцтва раён вучэння ў радыусе да 50 км ад месца выбуху быў разбіты на пяць зон:

У зоне 1 (да 8 км) цалкам выключана знаходжанне мясцовага насельніцтва.

У зоне 2 (8-12 км) за 3 гадзіны да выбуху насельніцтва адводзілася ў натуральныя схованкі, размешчаныя поблізу населеных пунктаў; за 10 хвілін па ўстаноўленым сігнале ўсе жыхары павінны былі легчы на зямлю тварам уніз.

У зоне 3 (12-15 км) за 1 гадзіну да выбуху насельніцтва выводзілася з хат на аддаленне 15-30 метраў ад будынкаў; за 10 хвілін да выбуху па сігнале ўсе клаліся на зямлю.

У зоне 4 (15-50 км) прадугледжвалася абарона насельніцтва толькі ад магчымага моцнага радыёактыўнага заражэння мясцовасці па шляху руху воблака галоўным чынам у выпадку наземнага выбуху.

У зоне 5 (размешчана на поўнач ад цэлі па баявым курсе самалёта-носьбіта ў паласе шырынёй 10 км і глыбінёй 20 км, над якой пралёт носьбіта ажыццяўляўся з адкрытым бомбаадсекам) насельніцтва было вывезена за яе межы ў бяспечныя раёны за 3 гадзіны да выбуху. Жывёла была адагнана ці закрыта ў адрынах.

**Становішча да выбуху**

У дзень вучэння 14 верасня 1954 года, з узыходам сонца было яснае, сонечнае надвор'е са слабым ветрам і нязначнай воблачнасцю на вышыні 1000 м, тэмпература паветра ў ранішнія гадзіны склала +9…+12°. У 9 гадзін 20 хвілін кіраўніцтвам вучэння заслухоўваюцца апошнія даклады пра метэаралагічнае становішча і прымаецца рашэнне на выбух атамнай бомбы. Рашэнне пратакалюецца і зацвярджаецца. Пасля чаго экіпажу самалёта па радыё аддаецца загад скінуць бомбу. За 10 хвілін да нанясення атамнага ўдару быў дадзены сігнал "атамная трывога", па якім усе войскі занялі ўкрыцці і схованкі. Экіпажы танкаў і самаходна-артылерыйскіх установак занялі свае месцы ў машынах і зачынілі люкі.

У 9 гадзін 34 хвіліны самалёт-носьбіт Ту-4 (пілот В. Я. Кутырчаў) з вышыні 8000 м скінуў атамную бомбу РДС-2 магутнасцю 40 кт, выбух якой адбыўся праз 48 секунд на вышыні 350 метраў ад паверхні зямлі з адхіленнем ад цэлі ў 280 м у паўночна-заходнім кірунку.

**Карціна выбуху**

Выбух атамнай бомбы суправаджаўся асляпляльнай успышкай, якая асвятліла мясцовасць ярка-белым святлом. Пасля ўспышкі ў цэнтры выбуху на вышыні 350 м утварылася светлавая вобласць сферычнай формы. Пад уздзеяннем магутнага светлавога выпраменьвання на шырокай плошчы ў раёне выбуху адбылося выпарэнне вільгаці, а таксама парэпанне і драбненне часціц грунту, згаранне арганічных рэчываў. У выніку паўстала рэзкае задымленне і запыленне прыземнага пласта паветра і значнае зніжэнне яго празрыстасці. Працэс ўтварэння нагрэтага запыленага пласту пад уздзеяннем светлавога выпраменьвання выбуху адбываўся да прыходу



***Выпрабаванне ядзернай бомбы падчас ваенных вучэнняў на Тоцкім палігоне ў 1954.***

ўдарнай хвалі.

Праз 3,6 с пасля выбуху паверхня светлавой вобласці пачала цямнець, на ёй з'явіліся асобныя меней яркія плямы, якія разрасталіся ў памерах і неўзабаве ахапілі ўсю паверхню светлавой вобласці. На гэтым скончылася развіццё светлавой вобласці і пачалося развіццё воблака выбуху. У канцы свайго развіцця светлавая вобласць мела гарызантальны памер ~714 м. Воблака выбуху набыло форму тараідальнай віхуры з паверхняй, якая клубіцца і скрозь якую прабіваліся языкі полымя. Услед за падымаўшымся ўгару воблакам з эпіцэнтральнай зоны выбуху пачаў падымацца велізарны пылавы слуп, які праз 4-5 с наблізіўся да воблака. Прыкладна праз 1 хвіліну воблака выбуху паднялося на ~ 4 км, а праз 7 хвілін - на вышыню ~ 15 км.

**Сітуацыя пасля выбуху**

Праз 5 хвілін пасля выбуху пачалася артпадрыхтоўка і ўдар бамбавальнай авіяцыі. Па заканчэнні артпадрыхтоўкі ў кірунку эпіцэнтра выбуху атамнай бомбы былі высланы дазоры радыяцыйнай выведкі, якія прыбылі ў раён эпіцэнтра праз 40 хвілін пасля выбуху. Яны ўстанавілі, што ўзровень радыяцыі ў гэтым раёне праз 1 г пасля выбуху складаў 50 Р/г, у зоне радыусам да 300 м - 25 Р/г, у зоне радыусам 500 м - 0,5 Р/г і ў зоне радыусам 850 м - 0,1 Р/г.

У 10:10 "усходнія" пачынаюць атакаваць пазіцыі ўмоўнага праціўніка. Да 11 гадзін падраздзяленні праводзяць пасадку асабовага складу на тэхніку і працягваюць наступленне ў парадках (калонах). Выведвальныя падраздзяленні сумесна з вайсковай радыяцыйнай выведкай рухаюцца наперадзе. Дым і пыл, паднятыя імітацыйнымі выбухамі з бочак з бензінам, абцяжарвалі арыентацыю. Войскі пераадольвалі раён атамнага выбуху з хуткасцю 5 км/г, а перадавы атрад мотастралковай дывізіі ў раёне эпіцэнтра хутчэй - 8-12 км/г.

Асобныя самалёты пры палёце для нанясення ўдару па наземных цэлях на 20-й хвіліне пасля атамнага выбуху змушаны былі перасекчы ножку "атамнага грыба". Дазіметрычны кантроль лётнага складу і самалётаў пасля прызямлення паказаў нязначны ўзровень заражэння. Так, ступень заражэння фюзеляжа самалёта склала 0.2-0.3 Р/г, усярэдзіне кабіны - 0.02-0.03 Р/г. Радыяцыйнай выведкай следу воблака, праведзенай з самалёта Лі-2, было ўстаноўлена, што вось следу радыёактыўнага воблака супадае з рухам паветраных мас на вышыні 7-9 км. У гарадках Махоўка, Елшанка-2, Іванаўка, Арлоўка гарэлі асобныя хаты. Войскі тушылі пажары, расчышчалі завалы дрэў.

Праз два дні - 17 верасня 1954 года - у газеце "Праўда" было надрукавана паведамленне ТАСС: *"У адпаведнасці з планам навукова-даследчых і эксперыментальных работ у апошнія дні ў Савецкім Саюзе было праведзена выпрабаванне аднаго з відаў атамнай зброі. Мэтай выпрабавання было вывучэнне дзеяння атамнага выбуху. Пры выпрабаванні атрыманы каштоўныя вынікі, якія дапамогуць савецкім навукоўцам і інжынерам паспяхова вырашыць задачы па абароне ад атамнага нападу".*

**Памяць**

У 1994 годзе на палігоне была ўсталявана стэла ў памяць пра ўсіх пацярпелых ад радыяцыі. 12 верасня 2004 года напярэдадні 50-гадовых угодкаў вучэнняў на Тоцкім палігоне насупраць гарнізонных могілак быў усталяваны гранітны памятны знак "У гонар і ў славу ўдзельнікаў стварэння ядзернага шчыта Савецкага Саюза". Ззаду помніка - два шчыты. На адным напісаны фундатары ўсталёўкі манумента. На другім можна прачытаць наступнае: *"14 верасня 1954 на Тоцкім палігоне Арэнбуржжа праведзена адзінае ў гісторыі Узброеных Сіл СССР эксперыментальнае вайсковае вучэнне з ужываннем ядзернай зброі. Аснову групоўкі войскаў складаў Берасцейскі гарнізон у складзе злучэнняў і частак 128-га стралковага корпуса. У 1961-90 гг. у лясах Берасцейшчыны несла баявое дзяжурства 31-я ракетная дывізія стратэгічнага прызначэння".*

**Крытыка**

Пасля зняцця грыфа "зусім сакрэтна" ў 1993 годзе ў СМІ і інтэрнэце з'явіліся сцвярджэнні, што ў выніку выпрабавання ядзернай зброі 14 верасня 1954 года 45000 салдат і 10000 мірных жыхароў былі падвергнуты ядзернаму апрамяненню ў якасці эксперыменту, мэтай якога з'яўлялася высвятленне таго, як радыяцыя ўплывае на чалавека. У выніку вучэнняў тысячы яго ўдзельнікаў атрымалі розныя дозы радыёактыўнага апрамянення. Адсутнічаюць пацверджаныя факты аказання вайскоўцам адпаведнай медыцынскай дапамогі. Усе ўдзельнікі далі падпіску пра невыдаванне ваеннай таямніцы на працягу 25 гадоў.

Пастановай Вярхоўнага Савета Расійскай Федэрацыі ад 27.12.91 г. № 2123-1 удзельнікі Тоцкіх вучэнняў аднесены да ветэранаў падраздзяленняў асобай рызыкі падпункт "а" з наданнем адпаведных выплат і палёгак.

***Вікіпедыя.***

# СТУДЗЁНСКІЯ ГІСТОРЫІ

## *У гэты час у гэтым месцы*
## *або*
## *Крыху пра аўтара*

Бадай, і месца, і час у Аляксандра Абрамовіча - гэта перш-наперш ягоны дом, родная вёска ды праца рабочага на Гарадзейскім цукровым камбінаце. Аднак, дзякуючы захапленню краязнаўствам, ён упэўнена рассоўвае звыклыя межы сваёй зайздроснай аселасці ў прасторы і часе. Жывучы ў Студзёнках, неўтаймоўна спасцігае, расшуквае, вывучае гісторыю вёскі, працярэбліваючы скрозь павуцінне часу сцяжынку існасці. Не ўсё канула ў лету, не ўсё зарасло-забылася.

- Калі ў вёскі ёсць свая гісторыя, свой адметны летапіс, тады і выстаяць ёй лягчэй, самазахавацца, застацца ў прасторы насуперак вятрам часу, - разважае краязнавец. Таму і трымае на асабістым кантролі гісторыю вёскі Студзёнкі, ведаючы, што ў кожнай дэталі, рысцы, узгадцы - яе душа і яе непаўторны лёс.

Трэба ж было апынуцца Аляксандру ў гэты час на гэтым месцы і тады, калі на вачах ішоў пад знос "дом Надсана" ў Гарадзеі. Выхапіў, як кажуць, з агню, дарагую рэліквію і гэтага звекавелага дома, і важкага, хоць парасцярушанага жыццяпісу вядо-



мага святара - школьную ведамасць за 4 клас з прозвішчам вучня Шуры Бочкі-Надсана. А перад гэтым даслаў яму ў Лондан некалькі фотаздымкаў хаты, каб айцец змог паглядзець на родныя сцены, будучы ўжо прыкаваным хваробай да ложка. Гэта быў сапраўдны лек для старога Надсана; здымкі, кажуць, ён падоўгу трымаў у руках, успамінаючы далёкія гады… І такім вось, лекавальна-гаючым, бывае краязнаўства.

## Пачатак

Нясвіжская вёска Студзёнкі пакуль не мае такой вядомасці, як знак паразы Напалеона - Студзёнкі на рацэ Беразіне. На мапе Беларусі амаль 30 падобных назваў. Ды вось нечакана выяўляецца ейнае багатае гістарычнае мінулае. А пачаткам стала знойдзеная на гарышчы старой хаты схованка з папер, фотаздымкаў і мап. У хаце памерлай былой знакамітай вясковай паштальёнкі Клаўдзіі Ільінічны Новік (у дзявоцтве Галубко) зазімаваў яе шалапутны сваяк. Разбіраючы на дровы столь у каморцы і знайшоў ён гэты скарб. То і пабачым, што там было, што ўсплыло ды якія таямніцы прыхаваны. Трэба ўзгадаць, што першая пісьмовая згадка пра Студзёнкі датуецца 1558-ым годам. Тады Мікалай Глябовіч падараваў маёнтак Студзёнкі Якаву Красуцкаму (ці Я. Красоўскаму).

Назва Студзёнкі, магчыма, звязана з аднакарэннай *студня* - калодзеж, а, мо, і з прыметнікам *сцюдзёны*, бо сцюдзёныя вясковыя крыніцы. Яшчэ чуў ад старых, быццам тое месца, дзе быў двор, звалася падобна *Ванда, Вандоў* ці *Вандлоў*. Цікава, што балцкае *VANDOU* азначае ***вада***. На гэтым месцы ў раку Вуша, амаль побач, уліваюцца бязыменны вясковы ручай ды рэчкі Гарадзейка з Вужанкаю (на цяперашні час каналізаваныя забойчай меліярацыяй). Яшчэ можна прыгадаць, што ў старажытнасці рэкі былі шляхамі зносін, як цяперашнія дарогі. Існуе версія, што патаемны гандлёвы шлях "з вараг у грэкі", які ў IX - XII стст. спалучаў Скандынавію з Візантыяй, праходзіў ад Балтыйскага мора па рэках Нёман, Вуша, Лань, Прыпяць, Днепр у Чорнае мора. Ва ўсякім разе, праз геаграфічнае размяшчэнне ёсць пэўныя падставы на глыбокую старажытнасць нашых Студзёнак.

# Помнік Віктару Каліноўскаму







На ўскрайку вёскі, каля плоту сядзібы Капыткаў, ляжыць вялікі надмагільны камень з высечаным па-польску надпісам: **"Wiktor Kalinowski . Spoczul w Bogu 13 Grudnia 1880 r"**. З дзяцінства памятаю зараснікі сліў уздоўж таго плоту, як вяртаючыся з лесу, сядалі адпачыць на гэты цёплы камень. Пэўна, камень быў павернуты надпісам уніз і ў плот, бо ў памяці засталіся б якія згадкі. Адвярнуў яго ўжо дарослым чалавекам, як пабачыў на тых знойдзеных планах маёнтка Студзёнкі пазначаныя крыжыкамі былыя могілкі, "панскія", як казалі старыя. Дарогу тую з вёскі праз лес да Завушша мая баба Вера звала гасцінцам. А спраўдзіў тое толькі цяпер у Вікіпеды і праз зесткі пра Юзафа Галоўню, былога ўладальніка маёнтка Студзёнкі: *"13 мая 1577 г. в Бродницах получил от Стефана Батория право на "корчму вольную в ыменью его Липовском… неподалеку р. Уши, пры дорозе великой, которая идеть з Несвижа до Исколъти"* (ЛМ 58. Лл. 269-269 об.). *"Обменял имение Липа на имение Задвея, принадлежавшее ранее Николаю Криштофу Радивиллу Сиротке. В 1588 г. Есиф Головня обменял имение Хотаевичи в Менском повете на имения Студёнки и Снов, принадлежавшие ранее Барбаре Яновне (Клочковне) Сновской, вдове витеб-*








*ского каштеляна Мальхера Жигимонтовича Сновского Гравж"* (1) .

Заспеў яшчэ распытаць старажылаў пра тыя "панскія" могілкі (заспеў, бо з тых апавядальнікаў, сведчанні якіх у маім нататніку, амаль нікога ўжо няма). Па ўспамінах, могілкі былі невялікія, зарослыя бэзам, з агароджаю. Пры дарозе высіліся таполі. І была там невялікая каплічка. На сайце "radzima . org https *:// radzima . org / ru / object _ comm /198. html ? fbclid = IwAR 1 oF 4 tg 3 u 9 zTuvh 1 DqZu _-QnE 8 YbMWWJfH 0 ecC 6 Bk - fSKoIMEl 9 PMnmzXw (2)* ёсць звесткі пра існаванне капліцы яшчэ ў 1848 годзе: *"W 1848 r. na terenie parafii Iszkoldz istnialy 4 kaplice, w miejscowosciach: Uzance, Zausze, Rudawka, Studzinki"*. Пэўна, так азначаны цяперашнія Студзёнкі, бо далей там: *"W 1863 r. kosciol parafialny z kaplicami: Uzanka, Zausze, Rudawka, Studziance o 1883-1905 - w cieniu prawoslawnej cerkwi*

*W XX w. r. to nadal cerkiew prawoslawna, katolicy nie posiadaja wlasnej swietyni, zamkniete zostaly rowniez 4 okoliczne kaplice (w miejscowosciach: Uzanka, Zausze, Rudawka, Studziance)*. Каталікі студзёнскія, пэўна, шляхта, былі ў Ішкалдскай парафіі, а праваслаўныя ў 1680 г. адносіліся да Гарадзейскай уніяцкай царквы Святога Спаса, а ў 1878 г. - да ліпаўскай Пакроўскай царквы.

У 1949 годзе ў Студзёнках быў арганізаваны калгас імя "Леніна". У 1959 г. ён у вайшоў у склад саўгаса "Гарадзейскі". Могілкі заміналі - трэба было браць жвір з кар'ера за лесам насупраць Крутога Берага на будаўніцтва цукровага камбіната, дый на тыя ж дарогі, якія былі разбіты машынамі. Панскія могілкі руйнавалі двойчы. Мікалай Камлач успамінае, як працуючы ў МТС, у 1947 годзе бульдозерам зносіў на могілках падмуркі агароджы. Капліцу знеслі недзе ў 1961-ым, дакладных звестак пакуль няма. Вольга Капытка згадвала, што руйнавалі акурат на Вялікдзень. Было шмат людзей, міліцыя, упаўнаважаны. Скачко Генадзь тады працаваў у калгасе на бульдозеры. Калі каўшом зачапіў мур, адкрылася сутарэнне з труной. Паміж сутарэннем і труной была хвоя, якая шчыльна запаўняла пустэчу. А ў труне была пані ў вэлюме, на нагах цяжкія, з вялікімі абцасамі пантофлі. Жанчына, якая некалі працавала ў двары, казала, што гэта маладая дачка пана. Была яшчэ невялікая дзіцячая трунка, якую нікуды не перамяшчалі, толькі пахавалі глыбей.

Мясцовыя вернікі паскардзіліся на старшыню калгаса Рулёва, прыгадалі, што апроч панскіх пахаванняў тут яшчэ і расстраляныя на пачатку вайны чырвонаармейцы. Косткі збольшага былі сабраны і перавезены на вясковыя могілкі, дзе

пазней была ўсталявана брацкая магіла. Мясцовыя кажуць, што туды палажылі і парэшткі пані, *"каб салдацікам не сумна было"*.

Пасля таго з "панскіх могілак" зноў бралі жвір на дарогу, і паўсюль валяліся чалавечыя косткі. Дзе падзеліся надмагіллі, дакладна не вядома. Магчыма, засыпалі ў рове, што быў ля пагорка (на мапе ён пазначаны). Хоць даводзілася чуць і такое, што нават на падмуркі іх бралі. Называлі імёны тых бязбожнікаў, што адважыліся на такі грэх. Яшчэ сведчаць мясцоўцы, быццам быў помнік з чорнага мармуру нейкаму Каліноўскаму. Але і ён знік, хутка і бясследна.

Ці цуд, ці нечая дбайнасць, але помнік Віктару Каліноўскаму захаваўся, адзіны. Паступова ўдалося даведацца, хто ж ён, той Віктар Каліноўскі. Дакладна ж пацвердзіла асобу Віктара - брата знакамітага Юзафа (Рафала) Каліноўскага - Юліта Нэйман. Яна жыве ў Польшчы, а бабка яе - з вёскі Макашы (загінула ў вайну ў Баранавічах). Спадарыня Юліта - вялікі адмысловец ў геніялагічных даследаваннях. Віктар Каліноўскі на яе геніялагічнай старонцы радзіны Лашук. Даты смерці Віктара Каліноўскага на помніку і ў геніялагічных звестках супалі: *"NazwiskoWiktor Kalinowski. Urodzenie 9 lip . 1833, Wilno, Plec Mezczyzna. Zgon 13 gru . 1880 ID osoby I 503212 Bulhakowie. Ostatnia modyfikacja 10 gru. 2016. Ojciec Andrzej Kalinowski, ur. ok . 1805, zm . 1878 (Wiek ~ 73 lat) Matka Jozefa Polonska, zm. 1835 ID rodziny F 501249. Arkusz rodzinny | Wykres rodzinny Zwiazek Maria Gruszecka, ur. 1834, Studzionki , zm . 1900 (Wiek 66 lat). Slub 1857. Ostatnia modyfikacja 16 paz. 2016 ID rodziny F 501255. Arkusz rodzinny | Wykres rodzinny"*.

Яшчэ спадарыня Юліта даслала запіс з метрычнай кнігі касцёла ў Ішкалдзі пра шлюб Віктара і Марыі Грушэцкай: *"1857 г. сентября восьмого дня в Ишкольдской приходской римско-католической церкви Игнат Дашкевич... благородных Виктора Калиновского юноши 25 лет губерни Виленской, прихода Беняконского и Марии Грушецкой девицы 22 лет из Студзёнок прихода Ишколдского...*

| N. | Число вѣнчанія | Когда? гдѣ? кто? и по коликократномъ оглашеніи вѣнчалъ бракъ? | Какихъ именно новобрачныхъ, какого состоянія, званія, возраста и прихода? | Кто по имени и прозванію родители новобрачныхъ? и кто поручители или свидѣтели? |
|---|---|---|---|---|
| 32. | 8. | [illegible] | [illegible] | [illegible] |

*благородных Андрея и Юзефы из Полонских Калиновских законных супругов сына, Андрея и Софии из Развадовских Грушецких законных супругов дочери... свидетели благородные Александр Развадовский, Мартин Узловский, Станислав Пусловский и многие другие"*. Аднак пра бацькоў Марыі - Андрэя і Сафію з Развадоўскіх-Грушэцкіх - у наступнай Студзёнскай гісторыі.

Бацька ж Віктара - Андрэй Каліноўскі - нарадзіўся ў Гародні, працаваў настаўнікам матэматыкі, пасля кіраўнікам Шляхецкага інстытута ў Вільні. Маці - Юзэфа Палонская - памерла ад сухотаў праз некалькі дзён пасля нараджэння другога сына Юзафа ў 1835 г. Віктар нарадзіўся ў 1833 г. У Віктара і Юзафа былі яшчэ зводныя браты і сёстры: Эмілія, Караль і Габрыэль (народжаныя ад шлюбу бацькі з Вікторыяй Палонскай), Марыя, Аляксандр, Моніка і Юры (пасля смерці Вікторыі бацька ажаніўся ў трэці раз з 19-гадовай Соф'яй, дачкой графа Лаўрэна Путкамера і Марылі з Верашчакаў). Соф'я - дачка той самай Марылі, якую кахаў і ўвекавечыў у паэзіі Адам Міцкевіч - стала для ўсіх дзяцей сапраўднай маці. *"Любая мама"*, - піша ў лістах Юзаф, хоць быў малодшы за яе толькі на восем гадоў. Віктар і Юзаф разам вучыліся ў Шляхецкім інстытуце ў Вільні, затым у Горы-Горацкім земляробчым інстытуце. Віктар пасля інстытута арандаваў маёнтак Студзёнкі.

Юзаф, зразумеўшы, што памыліўся ў выбары, пакінуў вучобу ў Горках і перавёўся ў Мікалаеўскую ваенна-інжынерную акадэмію ў Пецярбургу. Працаваў на будаўніцтве чыгункі Адэса-Кіеў-Курск. Летам 1860 года ён прыязджае ў Студзёнкі да свайго брата Віктара, які жыў у маёнтку сваёй жонкі Марыі (Масі) з Грушэцкіх. Пасля будаваў Берасцейскую цвердзь. У 1863 годзе выходзіць ў адстаўку ў чыне штабс- капітана і пераязджае ў Вільню. Не мог ён заставацца ў царскім войску, бо ягоныя браты далучыліся да Студзеньскага паўстання. З чэрвеня 1863 г. узначальвае ваенную секцыю Выканаўчага аддзела Літвы (галоўнага органа па кіраванні паўстаннем. Становіцца найбліжэйшым памочнікам Кастуся Каліноўскага. Перадае паўстанцам планы Бабруйскай і Берасцейскай цвердзяў.



*Віктар Каліноўскі*

На другі дзень пасля выканання прысуду адносна Кастуся Каліноўскага, 24 сакавіка 1864 г., быў арыштаваны і Юзаф Каліноўскі. За ўдзел у паўстанні ўжо былі пакараны браты Юзафа: Віктар, Караль і Габрыэль (3). Трэба зазначыць, што пра ўдзел у паўстанні Віктара - брата Юзафа - вядзецца ў шматлікіх крыніцах. Юзаф быў асуджаны на смерць. Па просьбе Соф 'і Каліноўскай за Юзафа хадайнічалі графы Путкамеры, нават камендант Вільні генерал Вяткін. Прысуд быў заменены на 10-гадовую катаргу, якую праз 5 гадоў замянілі на вольнае пасяленне ў Іркуцкай губерні. Там ён удзельнічаў з Бенедыктам Дыбоўскім ў навуковых даследаваннях Сібіры.

Пасля ссылкі яму дазволілі выехаць у Польскае Каралеўства, бо ў Літве і Беларусі жыць забаранялася. Ізноў захавалася сведчанне, што па дарозе да бацькоў Юзаф заехаў у Студзёнкі да свайго брата Віктара, якога называў духоўна блізкім. Яшчэ Вітаўт Чаропка ў нарысе "Юзаф Каліноўскі (1835-1907). Шлях да Бога" піша, як Марыя, жонка Віктара, карыстаючыся сваімі сувязямі,



***Юзаф (Рафал) Каліноўскі***

што дагэтуль ніхто не займаўся сур'ёзна генеалагічнымі даследаваннямі. Нават радавод самога Кастуся Каліноўскага мала даследаваны. Вядомы яго бацька Сымон і дзед Стэфан (Лідскі летапісец, № 3-4). Васіль Герасімчык у кнізе "Канстанцін Каліноўскі: асоба і легенда" падае радавод Каліноўскіх ад Амброзія Самойлава, які ў 1679 годзе на тэрыторыі Бельскай зямлі набыў маёнтак Калінава. Нашчадкі Амброзія атрымалі прозвішча Каліноўскія ад назвы радавога ўладання. В. Герасімчык падае імя і прадзеда Канстанціна Каліноўскага - Мацей. Пра сваяцтва Юзафа і Віктар а з Кастусём Каліноўскім распавядае адзіны знойдзены сайт https :// howlingpixel . com / i - be - tarask /% D 0%9 A % D 0% B 0% D 0% BB % D 1%96% D 0% BD % D 0% BE % D 1%9 E % D 1%81% D 0% BA % D 1%96% D 1%8 F _% D 0% B 3% D 0% B 5% D 1%80% D 0% B 1% D 1%83_% D 0%9 A % D 0% B 0% D 0% BB % D 1%96% D 0% BD % D 0% BE % D 0% B 2% D 0% B 0 (Каліноўскія гербу Калінава). На сайце пазначана, што прадзед Кастуся Каліноўскага Мацей - родны брат Анджэя (Андрэя) - бацькі Віктара і Юзафа.

У Вільні на гары Гедыміна былі знойдзены парэшткі, якія, меркавана, маглі належаць Кастусю Каліноўскаму. Спецыялісты шукаюць сваякоў Кастуся Каліноўскага, каб зра-

дабівалася вызвалення Юзафа з ссылкі.

У 1877 годзе Юзаф уступіў у ордэн босых кармелітаў і прыняў імя Рафал. Скончыўшы вывучэнне філасофіі і тэалогіі, у 1882 г. атрымаў святарскія пасвячэнні. Стаў прыёрам кляштара ў Чэрнай каля Кракава, пасля ў Вадавіцах. Памёр ад сухотаў 15 лістапада 1907 года.

Ян Павел II беатыфікаваў яго ў чэрвені 1983 года ў Кракаве і 17лістапада 1991 года ў Рыме абвясціў святым.

Юзаф пакінуў пасля сябе лісты, сібірскі нататнік, успаміны, канферэнцыі і аскетычныя тэксты - усяго больш за 2300 друкаваных старонак. Шкада, што няма гэтых перакладаў з польскай. Святы Рафал з'яўляецца патронам афіцэраў і жаўнераў, заступнікам у цяжкіх і безнадзейных справах, а таксама апекуном католікаў Сібіры.

У 2008 г. на Беларускім тэлебачанні быў паказаны дакументальны фільм "Аб св. Рафале". Вельмі раю паглядзець, там ёсць і пра Студзёнкі, і пра Віктара з Марыяй. Зноска на Yoe Tube https :/ / www . youtube . com / watch ? v = SryTcUgmGD 8

Ці былі Віктар і Юзаф сваякамі Кастусю Каліноўскаму? Выглядае, што так. Па-просту, дзіва,



***Святы Рафал (Каліноўскі)***



*Соф'я Каліноўская з Путкамераў*

біць генетычную экспертызу і ідэнтыфікаваць парэшткі. Як шкада, што былі знесены могілкі ў Студзёнках! Косці студзёнскіх Каліноўскіх на вясковых дарогах. А, можа, тая пані, што ў брацкай магіле - дачка Віктара Каліноўскага? Ці тая дзіцячая трунка Каліноўскіх? А калі тыя, засыпаныя ў рове помнікі раскапаць?

Цуд ці нейкая наканаванасць, што захаваліся і знайшліся на гарышчы дакументы, што захаваўся помнік Віктару Каліноўскаму. А, магчыма, яны чакалі свайго часу. Здаецца, настае і час аднавіць былую капліцу, вярнуць помнік на месца былых могілак, вярнуць памяць.

## Вайна, лютасць і спагада

Некалі даведаўся ад Генадзя Скачко пра палонных чырвонаармейцаў у Гарадзеі падчас Другой сусветнай вайны. Барак знаходзіўся пры Шашэйнай вуліцы, прыкладна дзе цяпер крама "У Лукомор'я". Палонныя капалі траншэю пад вадапровад на чыгуначную вадакачку. Былі яны знямоглыя, галодныя, хадзілі ў лахманах. Да аднаго з палонных прыязджала маці, спрабавала вызваліць сына, але дарма.

Яшчэ Фаіна Іванаўна Гацiцкая распавядала, як у тыя часы кожную раніцу брала карзіну і разам з іншымі дзеткамі хадзіла па хатах у Гарадзеі. Збіралі, што дадуць - яйкі, хлеб, малако, гародніну. Потым, хто з дарослых адносіў карзіну ахоўніку ваеннапалонных. Той забіраў яйкі, астатняе аддаваў зняволеным. Фаіна Іванаўна зараз жыве ў Клецку. У пяцідзясятыя гады мінулага стагоддзя працавала бібліятэкарам хаты-чытальні ў вёсцы Студзёнкі.

**Даведка:** лагеры ваеннапалонных галоўнай чыгуначнай дырэкцыі "Цэнтр" ст. Гарадзея, участак № 1, рота № 226 А - 200 чалавек, падпарадкаваліся шталагу № 337 *(НАРБ, ф. 378, воп.1, спр. 95, ст.1-4)*.

***Аляксандр Абрамовіч.***
*Студзёнкі.*

**Літаратура:**

1. Літоўскія метрыкі ЛМ277.Лл. 537-538 об., 539-540.

2. "radzima . org https :// radzima . org / ru / object _ comm /198. html ? fbclid = IwAR 1 oF 4 tg 3 u 9 zTuvh 1 DqZu _- QnE 8 YbMWWJfH 0 ecC 6 Bk - fSKoIMEl 9 PMnmzXw.

3. А. Куляха "Жыццё святога Рафала Каліноўскага".

***Ганна Байрашэўская,***
***малодшы навуковы супрацоўнік***
***ДУ "Музей гісторыі Клеччыны"***
***Андрэй Блінец,***
***старшы навуковы супрацоўнік***
***Нацыянальнага гісторыка-культурнага***
***музея-запаведніка "Нясвіж"***

# Іосіф Макрэцкі - дэпутат-беларус польскага Сейма *(вынікі аднаго пошуку)*

Некалькі гадоў таму ў рукі аднаго з аўтараў гэтага артыкула трапіў "Беларускі каляндар на 1929 год" выдадзены ў Вільні. Сярод разнастайнай інфармацыі асаблівую ўвагу прыцягнуў раздзел "Склад Беларускага Парлямэнтарнага Прадстаўніцтва", дзе змешчаны фотаздымкі і біяграфіі беларускіх паслоў і сенатараў, абраных на выбарах 1928 г. Акрамя пераліку прадстаўнікоў Беларускага Сялянска-Работніцкага і Беларускага Пасольскага клубаў (11 чалавек), Янкі Станкевіча, які *"не прыстаў ні да якога Клюбу"* [1], у раздзеле названы чатыры паслы-беларусы, якія прайшлі ў парламент ад Беспартыйнага блоку супрацоўніцтва з урадам: Язэп Лойка, Язэп Макрэцкі, Аляксандр Міхальчук і Ян Шчэрба[2]. Калі біяграфіі кожнага з 12 беларускіх паслоў і сенатараў, на сённяшні момант, у той ці іншай ступені вядомыя, то нікому з гэтай чацвёркі не прысвечана нават маленькай даведкі. У Музеі гісторыі Клеччыны, яшчэ з пачатку 1990-х гг. захоўваецца шэраг фотаздымкаў Іосіфа Макрэцкага - "былога пасла польскага сейма", пры гэтым аб ім самім да нядаўняга часу не было ніякай інфармацыі.

Той выпадак стаў своеасаблівым каталізатарам, які падштурхнуў да пошуку звестак пра Язэпа (Іосіфа) Макрэцкага, пра якога толькі было сказана, што ён паходзіць *"з в. Лявонавічы, Нясьвіскага павету"* [3]. Вынікі нашай працы і прадстаўлены ў гэтым артыкуле[4].

У даведніку "Sejm i Senat 1928-1933", выдадзеным неўзабаве пасля выбараў, дзе змешчаны




***Фота 1. Іосіф Макрэцкі падчас службы ў расійскім войску, 1914 г. Фота з архіва В. Раманоўскага.***

[1] Склад Беларускага Парлямэнтарнага Прадстаўніцтва //Беларускі каляндар 1929 год - Вільня: Бел. Выд. Т-ва., 1928. С. 163.

[2] Тамсама, с. 164.

[3] Тамсама.

[4] Першапачаткова матэрыял быў агучаны на навукова-практычнай канферэнцыі "Беларусь, Клецкі край і Эдвард Вайніловіч" арганізаванай Інстытутам гісторыі НАН Беларусі сумесна з Клецкім раённым выканаўчым камітэтам, Міжнародным дзяржаўным экалагічным інстытутам імя А. Сахарава і рымска-каталіцкім касцёлам у Беларусі. Канферэнцыя адбылася ў Клецку 21 верасня 2018 г.



***Фота 2. Сям'я Макрэцкіх. У цэнтры сядзяць Іван Іосіфавіч і Ганна Піліпаўна. З левага боку стаіць Іосіф Іванавіч, сядзіць яго жонка Алена, у цэнтры стаяць Вольга Іванаўна разам з мужам, з правага боку стаіць Канстанцін Іванавіч, сядзіць яго жонка. Фота з архіва В. Рамаsucc.***

сціслыя даведкі пра парламентарыяў, чытаем *"Макрэцкі Іосіф. Спіс № 1 (Б.Б.С.У.). Земляроб, Лановічы (Lanowice) Нясвіжскага пав. Народжаны 1.3.1888. Адукацыя - хатняя. Сябра павятовага самакіравання"* [5]. У каментарыях да мемуараў пасла Аляксандра Стагановіча згадваецца Язэп Макрэцкі (1888-?), ураджэнец в. Лявонавічы. *"Быў самавукам. Гаспадарыў на зямлі ў роднай вёсцы, браў удзел у працы мясцовых органаў самакіравання. Звестак пра лёс пасля роспуску Сейма не выяўлена"* [6].

Такім чынам, уся даступная інфармацыя ўкладалася ў 2-3 радкі, а нам хацелася б ведаць больш. Таму было вырашана прагледзець перыядычны друк, які асвятляў передвыбарчую кампанію 1928 г. У адным з нумароў газеты "Zycie Nowogrodzkie" змешчаны звесткі аб кандыдатах ад ББСУ (польск. абр. BBWR). Сярод іншага згадваецца Іосіф Макрэцкі, які *"нарадзіўся ў Грыцэвіцкай гміне Нясвіжскага павету, у сям'і незаможнага селяніна. Скончыў пачатковую школу і працаваў на бацькоўскіх чатырох дзесяцінах. Заўсёды актыўны, усведамляючы стан дробнага сялянства, энергічна ўзяўся за працу па арганізацыі сваіх землякоў, заснаваўшы сельскагаспадарчы гурток. Дзякуючы сваёй выбітнай дзейнасці быў абраны ў гмінную раду, якая, убачыўшы ў ім актыўнага і энергічнага прадстаўніка сялянскай супольнасці, выбрала яго ў павятовы сеймік, а сеймік - у павятовае самакіраванне, ацаніўшы такім чынам яго працу і ахвярнасць"* [7].

Гэтая інфармацыя з аднаго боку дапамагала, а з іншага заблытывала пытанне адносна месца нараджэння пасла. Вёска Лявонавічы, адкуль ён нібыта паходзіў, не належала да Грыцэвіцкай гміны. Але і вёскі Лановічы ў гэтай гміне ніколі не было. Пабудаваць сваю версію дапамагло знаёмства з мемуарамі грамадскага і палітычнага дзеяча Нясвіжчыны Генадзя Шыманоўскага, які гаворачы пра выбары 1928 г. адзначаў, што на іх у Сейм па пра-

[5] Rzepeccy, T. i K. Sejm i Senat 1928-1933. - Poznan, 1928. s. 125.
[6] Пашкевіч, А., Гардзіенка, А. Каментары // Стагановіч, А. Успаміны пасла. - Мінск: Лімарыус, 2014. С. 242.
[7] Dalsi kandidaci listy Nr 1 // Zycie Nowogrodzkie - 04.03.1928. s. 2.



***Фота 3. Кіраўніцтва пажарнай дружыны в. Янавічы. У цэнтры сядзіць Альгерд Яленскі, леваруч ад яго - Іосіф Макрэцкі. Фота з архіва В. Раманоўскага.***

тэкцыі Альгерда Яленскага, уладальніка маёнтка Янавічы, ад Грыцэвіцкай гміны трапіў селянін-беларус[8]. Прозвішча не названа, але можна быць упэўненым, што гаворка ідзе менавіта пра Макрэцкага. "Янавічы", у польскім напісанні "Janowicze", падчас складання даведніка "Sejm i Senat" лёгка маглі ператварыцца ў "Lanowice". У сваю чаргу ўкладальнікі "Беларускага каляндара", якія бясспрэчна карысталіся згаданым даведнікам, палічылі, што перад імі добра-такі перайначаная, але "блізкая да арыгіналу" назва вёскі Лявонавічы. Дадатковай праверкі інфармацыі не праводзілася, і яна трапіла ў друк.

Лагічным крокам было пашукаць сляды І. Макрэцкага ў Янавічах. Аказалася, што ён пахаваны, разам з жонкай, на могілках у суседняй вёсцы Капланавічы. Магіла захавалася. Больш за тое, у Лідзе жыве дачка былога пасла - Яўгенія Іосіфаўна Галуза (1937 г. нар.) Атрыманая ад яе інфармацыя дазволіла ўзнавіць старонкі біяграфіі земляка. Шэраг матэрыялаў перадаў далёкі сваяк І. Макрэцкага Валерый Раманоўскі.

Яўгенія Іосіфаўна паведаміла, што яе бацька сапраўды нарадзіўся ў Янавічах, 14 сакавіка 1888 г. у небагатай сялянскай сям'і Івана і Ганны[9]. Скончыў народнае вучылішча ў в. Грыцэвічы. Больш нідзе і ніколі не вучыўся, працаваў на бацькоўскай гаспадарцы. Падчас Першай сусветнай вайны Іосіф Макрэцкі быў мабілізаваны ў войска, служыў у канцылярыі аднаго з пяхотных палкоў. Пасля рэвалюцыйных падзей 1917 г. нейкі час жыў у Менску, працаваў пісарам, але ўрэшце рэшт вярнуўся на радзіму[10]. Ён старанна гаспадарыў на сваім надзеле, дбаў пра ўздым сельскагаспадарчай культуры і, відаць, гэтым звярнуў на сябе ўвагу мясцовага памешчыка Альгерда Яленскага, які прыкладаў шмат

[8] Szymanowski. G. Dwanascie lat - wspomnienia z lat 1927 - 1939. - Torun, 1998. S. 125.

[9] Цікава, што ён сам адзначаў дзень нараджэння па грыгарыянскім каляндары, у той час, як у польскім даведніку дата нараджэння прыведзена паводле юліянскага каляндара.

[10] Успаміны Я. І. Галузы захоўваюцца ў архіве аўтараў. Трэба мець на ўвазе, што пра падзеі 1930-х гг. яна распавядала на падставе пазнейшых расказаў бацькі, маці і іншых сваякоў.




***Фота 4. Паслы Сейма абраныя па Спісу № 1 па Наваградскай выбарчай акрузе ў сакавіку 1928 г. Фота з даведніка "Sejm i Senat 1928-1933".***

намаганняў для аднаўлення разбуранай вайной гаспадаркі[11]. Невядома, ці змог бы рэалізаваць сябе І. Макрэцкі без фінансавай і адміністрацыйнай падтрымкі А. Яленскага, але памкненні селяніна і пана супалі. У сярэдзіне 1920-х гг. І. Макрэцкі ўдзельнічаў ва ўсіх пачынаннях янавіцкага землеўладальніка: уваходзіў у склад кіраўніцтва мясцовай пажарнай дружыны (стваральнікам якой быў А. Яленскі), фарміраваў пры ёй духавы аркестр (сродкі на закупку інструментаў выдзеліў А. Яленскі), быў сябрам камітэта па арганізацыі сельскагаспадарчай выставы ў Клецку, першай пасляваеннай выставы, якая прайшла 28-30 жніўня 1927 г. (іні-цыятыва правядзення мерапрыемства належала А. Яленскаму)[12]. Па словах дачкі, яе бацька нібыта, быў адным з кіраўнікоў будаўніцтва шашы Клецк-Янавічы. Але пацвярджэння гэтаму пакуль не знойдзена.

Рашэнне балатавацца ў парламент І. Макрэцкі, хучэй за ўсё, прымаў з падачы ўсё таго ж А. Яленскага. Ён вылучаўся ад Беспартыйнага блока супрацоўніцтва з урадам, арганізацыі, створанай адмыслова перад выбарамі. Блок не меў выразнай палітычнай праграмы, але дэклараваў усебаковую падтрымку любых дзеянняў Юзафа Пілсудскага. Наваградская выбарчая акруга № 61, якая ахоплівала Баранавіцкі, Наваградскі, Нясвіжскі, Слонімскі і Стаўбцоўскі паветы, мела сваю спецыфіку. Гэта быў сельскагаспадарчы, пераважна праваслаўны рэгіён, дзе яшчэ зусім нядаўна былі моцнымі пазіцыі Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Уключэнне ў праўрадавы спіс І. Макрэцкага - праваслаўнага селяніна-беларуса, павінна было адцягнуць частку галасоў ад беларускіх нацыянальных аб'яднанняў. 3 лютага 1928 г. быў канчаткова сфарміраваны передвыбарчы спіс ББСУ па Наваградскай акрузе з 12 чалавек. Адметна, што Іосіф Макрэцкі заняў у ім трэцяе месца пасля Эдварда Таўрагінскага з Вільні і Канстанціна Рдултоўскага з Баранавіцкага павета[13], хаця іх вядомасць і актыўнасць былі несувымернымі. Э. Таўрагінскі ўваходзіў у кіраўніцтва шэрагу арганізацый, у прыватнасці, Аб'яднання гурткоў і земляробчых арганізацый Усходніх земляў. К. Рдултоўскі ўзначальваў Наваградскае ваяводскае земляробчае таварыства, а перад гэтым быў старастам г. Баранавічы. Абодва яны мелі вышэйшую адукацыю[14]. Побач з імі постаць селяніна без адукацыі і вопыту адміністрацыйнай работы, вядомасць якога наўрад ці выходзіла за межы гміны, выглядае некалькі дзіўна. Але, напэўна, у тых умовах праўрадаваму спісу і была патрэбна такая "звычайная" асоба.

На выбарах у сенат, якія прайшлі 4 сакавіка 1928 г., спіс № 1 у Нясвіжскім павеце атрымаў безумоўную перамогу. За яго было пададзена 16260 галасоў, на другім месцы апынуўся беларускі спіс № 39 "Змаганне за інтарэсы сялян і работнікаў", які набраў 3321 голас[15]. З усіх паветаў акругі менавіта ў Нясвіжскім перамога "адзінкі" была такой выразнай. У дадзеным выпадку мы пакідаем у баку

[11] Падрабязней пра дзейнасць апошняга гл: Блінец, А. Альгерд Яленскі - землеўладальнік, прадпрымальнік і грамадскі дзеяч 1-й паловы XX ст. // Acta anniversaria. Зборнік навуковых прац музея-запаведніка "Нясвіж". Т. 3. Мн. 2017. С. 203-217.

[12] Bialkowski, M. Wystawa-Pokaz Rolniczy w Klecku // Zycie Nowogrodzkie - 24.09.1927. s. 4.

[13] Lista Nr. 1 Bezpart. Bloku Wspolpracy z Rzadem // Zycie Nowogrodzkie - 04.02.1928. s. 2.

[14] Rzepeccy, T. i K. Sejm i Senat 1928-1933. s. 125.

[15] Oficjalne wyniki wyborow w Okregu Nr. 61 // Zycie Nowogrodzkie - 10.03.1928. s. 2.

пытанне аб тым, наколькі сумленна праходзілі выбары, і ў якой ступені ўлады задзейнічалі "адміністрацыйны рэсурс". У цэлым жа па акрузе большасць мандатаў атрымалі прадстаўнікі "Змагання…" (71706 галасоў), а за "Беспартыйны блок…" прагаласавалі 53926 чалавек. Усяго ад акругі ў Сейм прайшло шэсць паслоў: Аляксандр Стагановіч, Ігнат Дварчанін, Язэп Гаўрылік са спіса № 39, і вышэйзгаданыя тры асобы са спіса № 1[16].

Пра парламенцкую дзейнасць І. Макрэцкага звестак няшмат. Дачцэ ён у свой час аб гэтым не распавядаў. Толькі згадваў, што пасяджэнні праходзілі вельмі шумна, сваркі паміж пасламі былі звычайнай з'явай, а часам даходзіла і да боек. З паведамленняў прэсы вынікае, што неўзабаве ён увайшоў у т. зв. "Наваградскае пасольскае кола", а ў красавіку 1928 г. стаў сябрам камісіі, якая павінна была вывучыць пытанне развіцця беларускай асветы і падрыхтаваць з гэтай нагоды адмысловы рэферат. Рэферэнтам быў прызначаны пасол Казімір Акуліч, Іосіф Макрэцкі і Стэфан Бракоўскі - яго сурэферэнтамі[17]. 17 чэрвеня ў Наваградку адбылася нарада паслоў і сенатараў з удзелам наваградскага і віленскага ваяводаў, на якой, сярод іншага, быў агучаны рэферат К. Акуліча. Паланафільская газета "Беларускі дзень" адзначала, што гэта нарада можа мець важнае значэнне для развязвання беларускай справы, прынамсі ў галіне школьнітцва[18]. Але інфармацыі аб нейкіх зменах у дадзенай сферы нам не траплялася.






***Фота 5, 5-а. Пасведчанне пасла Сейма Польскай Рэспублікі Іосіфа Макрэцкага. Захоўваецца ў фондах ДУ "Музей гісторыі Клеччыны"***.

Калегі І. Макрэцкага па парламенце ацэньвалі яго дзейнасць негатыўна. Так, Аляксандр Стагановіч, згадвае пасла сярод *"янычараў беларускага паходжання ў радах BBWR"*, пры гэтым перабблытаўшы прозвішча "*з-пад Нясвіжа Чарноцкі (ці Чарнецкі)"* [19]. Генадзь Шыманоўскі, які з 1930 г. прадстаўляў Нясвіжчыну ў парламенце, таксама не лепшымі словамі адгукаўся пра свайго папярэдніка: *"У Сейме ён ні ў якую камісію не ўваходзіў, з трыбуны не выступаў і за ўвесь час свайго пасольства*

[16] Rzepeccy, T. i K. Sejm i Senat 1928-1933. s. 125-126.

[17] Posiedzenie poselskich Kol Regionalnych woj. Wilenskiego i Nowogrodzkiego // Zycie Nowogrodzkie - 03.05.1928. s. 2.

[18] Нарады ў Навагрудку // "Беларускі дзень" - 23.06.1928. - с. 9.

[19] Стагановіч, А. У абарону "Успамінаў" В. Рагулі // Стагановіч, А. Успаміны пасла. С. 159.



***Фота 6. Першы дзень пасяджэння Сейма, 27 сакавіка 1928 г. Здымак захоўваецца ў фондах ДУ "Музей гісторыі Клеччыны".***



***Фота 6-а. Пасол Іосіф Макрэцкі на першым пасяджэнні Сейма. Фрагмент агульнага фотаздымка.***

*не правёў ніводнага справаздачнага сходу"* [20]. У такой ацэнцы няма нічога дзіўнага. Як мы ўжо бачылі І. Макрэцкі не быў падрыхтаваны да ролі палітычнага дзеяча, а яго інтарэсы не ішлі далей роднай вёскі. Думаецца, што датэрміновы роспуск парламента, 30 жніўня 1930 г., не стаў для яго вялікай трагедыяй.

Былы пасол вярнуўся ў Янавічы і заняўся справай, якую сапраўды любіў і разумеў - сельскай гаспадаркай. Пры гэтым сярод сялян ён заставаўся прыкметнай постаццю. Дачка прыгадвала: *"Аднавяскоўцы яго паважалі. У той час адукаваных асоб было мала, і калі трэба было скласці заяву, напісаць афіцыйны ліст, разабрацца ў нейкіх юрыдычных паперах, ішлі да яго: "Пан Макрэцкі, дапамажыце!" Акрамя таго ў бацькі было многа кніг па медыцыне, жывёлагадоўлі і ветэрынарнай справе, на польскай мове. Калі ў некага хварэла карова ці конь, зноў ішлі да бацькі: "Пан Макрэцкі, паглядзіце ў кніжцы, што за хвароба? Як лячыць?" Ён быў інтэлігентным чалавекам, нікому не адмаўляў, стараўся з усімі сябраваць"* [21].

Восенню 1939 г. на Клеччыне ўсталявалася савецкая ўлада. Яўгенія Галуза ўспамінае: *"Аднойчы прыехалі з Клецка, як тады казалі, "таварышы". Хацелі паглядзець на польскага пасла. Тата выйшаў ім насустрач у простай ільняной кашулі, запрасіў у хату. Яны ўвайшлі, агледзеліся. "Ой, - гавораць, - ды вы ж звычайны чалавек. І жывеце так проста". "А якім я павінен быць, па-вашаму?" - гаворыць бацька. Тады ён доўга гутарыў з гасцямі. Пасля яны паехалі, і нас ніхто не чапаў"* [22]. Наўрад ці ўсё было настолькі ідылічна. Пэўна ў адпаведных органаў быў і кампрамат, і сродкі ціску на былога пасла, аднак рэпрэсіям ён не падвергся. Гэтак жа нейтральна прайшлі часы нямецкай акупацыі. Іосіф Макрэцкі не працаваў у акупацыйнай адміністрацыі, не меў сувязі з партызанамі, не ўдзельнічаў у нацыянальным руху. Пасля вайны, як і ўсе, уступіў у новаствораны калгас "Памяць Леніна", перадаўшы туды сваю маёмасць, жывёлу, зямлю. Яму застаўся толькі невялікі надзел каля хаты. У гумне Макрэц-кага спачатку зрабілі калгасны склад, потым - стайню. Сам былы пасол стаў улікоўшчыкам у калгаснай канторы - налічваў працадні і выплаты на іх. Яго жонка, Алена Антонаўна, працавала ў ільнаводчай брыгадзе. Савецкі працоўны стаж аказаўся невялікім і першапачаткова пенсія былога калгасніка Іосіфа Макрэцкага складала 8 рублёў, пазней пачаў атрымліваць 12 рублёў, а яшчэ пазней - 24. Тым не менш здолеў вывучыць дзяцей: дзве дачкі сталі настаўніцамі, старэйшы сын скончыў Лесатэхнічны тэхнікум, малодшы працаваў кранаўшчыкам. Памёр Іосіф Макрэцкі 21 студзеня 1971 года. Жонка перажыла яго на чатырнаццаць гадоў.

Біяграфія гэтага чалавека - гэта не біяграфія палітычнага ці грамадскага дзеяча. Хучэй, гэта жыццяпіс беларуса, які стараўся прыстасавацца да існых умоваў. Ён верыў, што праца на сваёй зямлі - адзіны годны занятак, а сяброўства з уплывовымі асобамі - лепшы шлях да рэалізацыі ўласных намераў. Калі воляй лёсу гэты селянін быў закінуты ў палітычнае жыццё, то не здолеў там знайсці сабе месца. Хаця… Магчыма мы памыляемся, і нас чакаюць новыя знаходкі і факты з біяграфіі праваслаўнага беларуса - пасла польскага Сейма.

[20] Szymanowski. G. Dwanascie lat - wspomnienia z lat 1927 - 1939. s. 125.
[21] Успаміны Я. І. Галузы (архіў аўтараў).
[22] Успаміны Я. І. Галузы (архіў аўтараў).

Вікторыя Жукевіч-Дзівота

# ДАНІНА ПАМЯЦІ*

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

## Анастасія і Вікторыя

### Сон аб Нясвіжы

Ад колькі год сніцца мне сон.
У ім стары дом між высокіх крон.

Я шукаю ў ім найдарожшых сваіх,
Былі недзе там, і люблю я іх.

Бачу прыгожае поле і квецень белых садоў,
Гэта толькі сон, сон мінулых гадоў.

У ім маладая кабета з букетам руж белых,
Гэта маці мая, мой Анёл - ахоўнік смелы.

А малады мужчына крочыць побач з ёй,
Не проста цень, гэта бацька мой.

Сёння няма тут слядоў тых дзён,
Сёння бляск возера толькі відзён.

Змянілася ўсё, даўніх сцяжын не хапае,
А ў сэрцы жаль, а з вока сляза сцякае.

Свіцязі чары і сонца бляск
Замілоўваюць нас.

Тут ветру шум і птушак спеў,
А ў сэрцы боль і часам гнеў.

Сніцца мне сон ад колькіх гадоў -
Пакінуты дом між прыгожых садоў.

Калісь мо вярнуся, мо прыеду сюды,
І будзе Нясвіж як са сну мне тады.

Бяру сёння жменьку зямелькі той
На магілу пад крыж матулі маёй.

Калісь мо вярнуся, мо прыеду сюды,
І будзе ўсё зноў, як са сну мне тады.

*Ліпень 2005 г., Нясвіж.*
*Пераклад Зоі Сілковай.*

### Туга

Аб чым тужыць маё сэрца,
калі б’ецца лішнім ударам,
адсланяецца каляровая стужка ўспамінаў,
з’яўляюцца найбліжэйшыя і найкаханыя,
хто нас даўно ўжо пакінуў.

Бачу ў снах іх, яны ўсюды са мной,
туга яны мая, мой жаль і мой боль,
шчасця і радасці ўспамін яны мой,
сумую па іх.

*Вікторыя,*
*студзень 2007 г., Лос Крысціянас.*
*Пераклад Станіслава Судніка.*

### “Няма тога жыцця, якое было толькі пылам на вуснах вечнасці”

Мама - удзячная ёй за ўсё, за жыццё, адукацыю і тое, якім я ёсць чалавекам - была моцнай асобай, любіла кніжкі, свет, жыццё і людзей. Любіла ўсё, што хоць трохі дыхала польскасцю, заўсёды верыла ў Вышэйшую сілу Бога - таму так стойка перанесла тыя гады нэндзы і паняверкі ў Сібіры.

Была пагодная, кемлівая, умела ўсё зрабіць, не было для яе нічога цяжкага. Вучылася ў школе хатняй гаспадаркі ў Гарбуноўшчыне і ўжо як 17-гадовая дзяўчына мела чатырох вучаніц у сваёй малой кравецкай майстэрні. Была прагная да ведаў і цікавая да свету - першая ва ўсёй ваколіцы купіла радыё “на крышталях”. Гэта была сапраўдная падзея.

Усе памяталі маму як элегантную, прыгожую жанчыну.

Віхры гісторыі, якія спачатку вывеялі яе ў марозныя абшары Сібіры, былі потым для яе ласкавыя - у чэрвені была ў Познані падчас “Познаньскіх падзей”, у снежні 1970 мы абедзве стаялі пад гарэўшым камітэтам партыі ў Шчэціне, была сведкам выезду савецкіх войскаў са Свінавусця... з радасцю вітала гэтыя адзнакі ўпадку камунізму. Была сапраўдным сведкам гісторыі.

Для мяне ў дзяцінстве была цэлым светам, а ў дарослым жыцці падпорай і найлепшым прыяцелем.

* *Пераклад Станіслава Судніка.*



***Дваццацігадовая Анастасія Жукевіч***

### “Там нарадзіўся час. Люстра, абуджанае ад сну, блішчыць маўчаннем”

Нясвіж. Яго ваколіцы, асабліва Лань, дзе бацькі Анастасія і Гжэгаж пасяліліся па шлюбе ў дзень Святых Пятра і Паўла 1940 г., сняцца мне начамі, нібы нейкая чароўная краіна.

Нядоўга цешыліся яны шчасцем.

Перад маладзенькай жанчынай, якая чакала дзіцяці, было 5 гадоў ссылкі, паняверкі, голаду і нэндзы.

У “Нясвіжскіх успамінах”, выдадзеных пад рэдакцыяй Барбары Петразалін-Скаўронскай, знаходзяцца фрагменты драматычнага апісання той асабістай трагедыі Анастасіі пад назвай **“І тут будзе ваша Польшча”**. Даю слова Анастасіі Жукевіч, маёй маме.

“... Мы пасяліліся ў доме Гжэгажа, які застаўся пасля яго бацькоў. Чатыры сястры павыходзілі замуж, брат Мікалай загінуў на вайне 1939 г. - забілі яго ўкраінцы. Дом быў выгадны, вялікі, зямлі было звыш 20 гектараў, у Ляхах - пару гектараў лугу, на якім капалі торф, гаспадарскія пабудовы, свойскія жывёлы, ну і мая карова Вішня, якая пазнала мяне пасля вяртання з побыту ў нялюдскай зямлі.

За домам быў сад. Выглядала, як у казцы. З аднаго боку - грозны лес, а побач - слодыч саду і лугу. Найпрыгажэй было вясной. Рана, калі выходзіш з дому, то як бы трапляеш на сімфанічны канцэрт - колькі птушак, столькі галасоў. Найпрыгажэй падаў гэта Ежы Гофман у “Знахары”, калі герой фільма ідзе палявой дарогай, а потым пад вечар падходзіць пад дом мельніка. Спеў птушак, шум збожжа і ветру пераходзіць у прыгожы і журботны спеў жанчын. Так было. Гэтага ніколі не забуду - гэта быў цудоўны свет, і сённяшні чалавек гэтага ніколі не зразумее (...).

Гжэгаж, мой муж, любіў коней. У войску здабываў шмат узнагарод у спаборніцтвах, шмат разоў яго камандзір з Баранавіч пасылаў яго на спаборніцтвы ў Варшаву. Сцены ў пакоі абвешаны былі дыпломамі, на паліцы стаялі кубкі. Дом размешчаны быў на горцы - відаць было, ці хто да нас ідзе або едзе. Вяла да яго дарога, абсаджаная ліпамі. Пасля вайны прыехалі з экскаватарамі і вывезлі тыя ліпы ў Менск.

Мы жылі там амаль год.

19 чэрвеня 1941 г. былі з Гжэгажам у Клецку. Пасля набажэнства былі ў маіх бацькоў на абедзе. Мама мая як бы нешта прадчувала, прасіла мяне. каб начавала ў яе, бо ішоў дождж, а я была на 7-мым месяцы цяжарнасці, але Гжэгаж запярэчыў. Мама прасіла Гжэгажа, але ён вырашыў, што вяртаемся дадому.

І так сталася. У ноч з 19 на 20 чэрвеня а 3 гадзіне пад раніцу застукалі ў наш дом шэсць бальшавіцкіх салдатаў, узброеных да зубоў, і двое цывільных. Калі Гжэгаж адчыніў дзверы, то адразу налажылі яму кайданы на рукі, а мне загадалі выйсці з пакоя. Перавярнулі ўверх нагамі ўвесь дом - зрабіліператрус, забралі ўсе здымкі, паперы, дакументы і дыпломы Гжэгажа з войска, усе ўзнагароды. Выкінулі ўсё на падворак і падпалілі, смяяліся і праклінал, забралі афіцэрскія боты, шаблю... Тых двух цывільных не ведала, але потым, калі ўжо вярнулася з высылкі, сказалі мне, што гэта былі яўрэі з Нясвіжа, тыя самыя, якія выдалі майго брата Сяргея, вывезенага ў Сібір 10 лютага 1940 года. Вярнуліся яшчэ потым у наш домік і забіралі, што хацелі.

З-пад будынка гміны павезлі нас на фурманках, людзі не хацелі нас везці, бо ведалі, што гэта ў ссылку.

Высадзілі нас на вакзале ў Гародзеі, раз была ў гэтым маленькім мястэчку на свяце на св. Юзафа,

а цяпер аказалася ў сітуацыі без выхаду.

А 4-й гадзіне пасля паўдня пачалі нас грузіць у таварныя вагоны на станцыі Гародзей. Вагонаў было 92. Від быў не самавіты - плач і таўкатня. Незлічоная колькасць энкэвэдыстаў - сабакі брахалі горш, чым на паляванні ў Радзівілаў у Нясвіжы. Вельмі шмат гаспадарскіх сямей, старых людзей, жанчын з дзецьмі. Гэтага нельга апісаць - гэта трэба было бачыць.

Пераважалі аднак людзі з сямей вайсковых, чыноўніцкіх. Загрузілі нас у вагоны. Мой вагон меў нумар 14. Было ў ім 54 чалавекі. Гарачыня амаль 30 градусаў - не было чым дыхаць. Калі глядзела на плакаўшых дзяцей, дзякавала Богу, што не мушу глядзець на пакуты сям'і, што еду адна.

### Вясна ў Нясвіжы

*Бацькам*

Белыя бэзы, што пахнуць моцна,
Белыя кветкі ў лузе пад сонцам,
Белых палотнаў над рэчкай палосы,
Белыя хмары ў белых нябёсах.

Белы голуб над белаю Фарай,
Белай мазуркі цнатлівыя пары,
Белы бусел гучна клякоча,
Белай бярозы голле траскоча,

Белае сонца ззяе ярчэй,
Што тут белае ўспомніць яшчэ...
Белыя гусі, белыя козы,
Белыя домікі, белыя лозы.

Беласнежная грэчка з "Пана Тадэвуша",
Белымі дзьмухаўцамі атачоная Уша,
Белым маляванае дрэва ліп і каштанаў,
Белыя пукі руж з песенькі ўланаў.

Белая, купчастая каліна,
У белай сукенцы дзяўчына,
Белыя рамонкі да грудзей туліць.
Белы арол і Белая Русь,
Гэта ўсё разам не абагуліць.

У белай кашулі мужчына
ноччу вырваны з дому,
У белай скукенцы
Дзяўчына з дзіцем пад сэрцам,
У вагоне для быдла
едзе ў Сібірскі край невядомы.

*Нясвіж, 2007 г.*
*Пераклад Станіслава Судніка.*

### І тут будзе ваша Польшча

Мы стаялі ў Гародзеі, я была распранута, у гальцы (жаночая кашуля) - мела чорную - бо ў сукенцы было горача. Каля восьмай знайшлі мяне зноў дзве сястры Гжэгажа - прынеслі мне тры кавалкі сала, коц, 50 рублёў. 5 кіло кашы-мукі, анічога больш энкэвэдысты не дазволілі падаць. Мяне ўжо з вагона, каб развітацца, не выпусцілі. Глядзелі - я на іх, а яны на мяне праз закратаваныя дзверы (...)

Каля 22-ой гадзіны прыехаў ксёндз - хадзіў ад вагона да вагона, дабраслаўляў і гаварыў вось такія словы: "Маліцеся і плачце, бо хмары набліжаюцца і ёсць што раз бліжэй". Тады я не ведала, што гэта абазначае, але было ўсё ж шмат людзей разумных, і калі мы былі ўжо ў Калузе, то доктар Пэнскі - можа трохі перакручваю прозвішча - патлумачыў мне, што немцы ўжо канцэнтравалі свае войскі над Бугам, і, быць можа, бальшавікі не здолеюць нас вывезці. Калі ён мне гэта апавядаў, я самлела. Доктар сказаў уступіць мне месца на верхняй паліцы, каб быў доступ да паветра. Сядзеў там малады хлопец - Юрак Смоліч з Пукелеўшчыны (...)

Вярнуся яшчэ ў Гародзей.

А 12-ай гадзіне ноччу - памятаю, бо гадзіннік на ратушы выбіў гадзіны - цягнік рушыў у невядомым нам кірунку. Калі даехаў да станцыі Пагарэльцы, затрымаўся і стаяў можа гадзіну, а можа даўжэй. Падалося мне гэта вечнасцю. Гэта была апошняя чыгуначная станцыя. На стаянцы НКВД праверыў усе прозвішчы і рушылі.

Ехалі вельмі хутка, нідзе не затрымваючыся.

Калі даехалі да Менска, ужо развіднялася і ў пэўны момант мы пачулі жудасны гук бомбаў з самалётаў. Праз акенца ўбачылі зарыва пылаўшага горада. Затрымалі нас на бакавой каляі. Зноў моцны гук - бомба з самалёта патрапіла ў нас, знішчыла лакаматыў, пачалі пылаць вагоны з людзьмі. Ніхто не адчыніў - згарэла 9 вагонаў. Сястра мужа, якая была ў Гародзеі, сказала мне, што ў вагоне нумар 9 едзе сям'я з Касмовічаў - прозвішча Касарэвіч - бацька і нявестка з 10-гадовым дзіцем. Пан Касарэвіч сказаў Эльжбеце, каб не перажывала, бо пасля прыезду далучыць мяне да сябе. Ведала іх добра, бо мелі каланіяльную краму, і я часта ў іх купляла. Ніхто ім не адчыніў. Не даехалі да мэты - згарэлі жыўцом. Я была ў вагоне 14, здалелі адчапіць і перавесці на бакавую каляю. Цяпер, калі гэта пішу, ведаю, што мы меліся ехаць на Смаленск, але каляі былі знішчаны, таму пераставілі транспарт на іншую, у бок Калугі (...)

Хутка нас везлі, не гледзячы на тое, што на

працягу добрай гадзіны ехалі пад абстрэлам самалётаў. Плач і паніка былі ў вагоне. Людзі крычалі, бо душыліся ад дыму. Я можа адна ў тым вагоне не плакала, калі ж ехала адна і калі ж бы згінула, то ніхто ў вагоне па мне не ўпаў бы ў роспач.

Да Калугі даехалі вечарам.

Бачыла праз акенца вялікі рух - беганіна і маса савецкіх войскаў. Адставілі нас на бакавую каляю, і так стаялі аж да раніцы. Рана ўбачыла праз акенца - на другой каляі стаў падобны да нашага транспарт, і мужчыны з нашага вагона, доктар Дылеўскі з Нясвіжа, войт з Лані Лукашэвіч і д-р Пэнскі, пацвердзілі, што там таксама палякі. Д-р Дылеўскі пачаў свістаць: “Калі рана ўстаюць зоркі”, - бо нельга было пагаварыць з увагі на мноства НКВД-ыстаў пры нашым вагоне. Таму настаўнік з Бухаўшчыны, па прозвішчы Скрыба, зляпіў шарык хлеба, закруціў у яго лісточак, перавязаў ніткай і спрабаваў перакінуць, але там не маглі злавіць. Калі савецкі салдат адвярнуўся і пайшоў у другі бок, кінуў так спрытна, што злавілі. Праз хвіліну пачалі спяваць: “Калі рана ўстаюць зоркі”. Яны таксама зрабілі перакід, але НКВД-ыст перацяў нітку штыком. Таму пачалі крычаць, што едуць з боку Ліды. Былі там адны мужчыны, паказвалі вайсковыя шапкі. Можа сярод іх быў мой муж? Бо забралі яго з дому перада мной, і ніхто не ведаў, што з ім далей стала.

Недзе каля 9-ай іхні транспарт рушыў у далейшую дарогу, каб, быць можа, ніколі не вярнуцца. Калі ад’язджалі, вельмі голасна спявалі: “Божа, што ж Польшча”. Быў гэта від сумны і страшны, людзі плакалі ў абодвух транспартах.

У пэўную хвілю пачулі, што адчыняюць вагон і пачалі выклікаць па-прозвішчах па дзве жанчыны і два мужчыны. Ніхто не хацеў выходзіць, але НКВД-ыст сказаў, каб не баяліся і ўзялі з сабой 4 вядры. Таму пайшла ад нас пані Крашэўская - настаўніца з Качановічаў, вучыла сясцёр Гжэгажа, выйшла таксама пані Смоліч, доктар Дылеўскі і яшчэ адзін малады чалавек - прозвішча не памятаю.

Прынеслі два вядры “кіпятку” - гарачай вады. і два вядры супу - “лапшы” - гэта такі суп з макаронамі.

У той час быў адчынены вагон, пару расійскіх жанчын падышло да нас. Я купіла слоік канфіцюр з белай ружы за 7 рублёў. Божа! - да гэтага часу чую пах і смак! За пазасталыя 40 дзён падарожжа нічога больш не купіла.

Праз пяць дзён рушылі ў далейшую дарогу.

У Туле былі на бакавой каляі адзін дзень - атрымалі 4 вядры гарачай вады на 56 чалавек. У вагоне было душна і панаваў неапісваны смырод - бо ўсе карысталіся кублам, які апаражнялі ад пастою да пастою, а на пастоях нават праз 24 гадзіны. Водар быў не найлепшы. Дзеці пачалі хварэць на панос.

З Тулы да Пензы, дзе стаялі вельмі коратка - змена паравоза і зноў далей да Куйбышава. Там стаялі два дні і мелі дэзінфекцыю вагонаў, і цяпер усе пачалі задыхацца. Праз нейкую гадзіну адставілі нас на бакавую каляю і адчынілі вагоны, каб праветрыць. Пры кожным вагоне стаялі 3 НКВД-сты з сабакамі. Стаялі цэлы дзень. Выехалі ноччу.

Было што раз смутней - памёр д-р Дылеўскі. Маці яго з роспачы вырвала сабе палову валасоў з галавы. Гэта быў яе адзіны сын. Муж яе - палкоўнік Дылеўскі - служыў у Пружанах, у тым самым палку, што і Гжэгаж.

Пазней, калі нас выпусцілі на балотах, размаўляла з паняй Дылеўскай. Гаварыла, што муж у савецкай няволі - злавілі на Валыні, каля Сарнаў. Атрымала ад яго два лісты і паштоўку з лагера каля Саратава. Прыгожая гэта была жанчына і моцная. Калі забіралі цела доктара Дылеўскага з вагона, пані Зубовіч, настаўніца, дала простыню, і ў ёй яго вынеслі. Што яны з ім зрабілі, дзе пахавалі - ніхто не ведаў. Маці ехала без слоў. З нікім у вагоне не размаўляла, не плакала. Сядзела, уціснуўшыся ў кут вагона, да самага Канска. Выглядала, як удава па паўстанцу 1863 г., апранутая ў чорную кашаміравую сукню з крэмавым шалем, зашпіленым брошкай у выглядзе павука. Я вельмі хацела, каб мяне размеркавалі разам з ёю, але яна была з Баранавічаў, і іхняя група была прызначана ў Іланскі раён. Наша група - Нясвіж і ваколіцы - у раён Канскі. Да канца нашага падарожжа памерла 11 чалавек, у тым ліку пяцёра дзяцей.

Пра гэтае падарожжа магла бы пісаць цэлыя тамы, але, мабыць, не вытрымала б псіхічна.

Колькі было чалавек у вагоне - столькі трагедый. Адзін момант асабліва засеў у маёй памяці. Калі затрымалі наш транспарт, каб прапусціць цягнік з войскам, адзін з працуючых вязняў - быў недалёка - 6 м ад нашага вагона, калі ўбачыў мяне ў акенцы, зрабіў знак крыжа са шпалы і нейкага кала і падняў яго некалькі разоў угару, пакуль НКВД-ыст не адагнаў яго ад нашага вагона Гаварыў нешта таксама, але цяжка яго было зразумець, такі быў галас на каляях. Можа гэта быў наш супляменнік. Не раз думала пра яго - можа ксёндз? - да сёння ў маёй памяці.

Ехалі, і ехалі, і ўжо ведалі, што ў бок Краснаярска.

У вагоне была трагедыя - вошы, клапы, бруд і смырод - усе былі брудныя - бо быў канец ліпеня, а выехалі 20 чэрвеня.

9-га жніўня ступілі нагой на “родную зям-

лю”, бо так сказаў начальнік НКВД Спірыдонаў, калі нас высадзілі на звалцы шлаку ў горадзе Канск.

Від, які адкрыўся на той звалцы - калі б быў зфільмаваны - атрымаў бы Оскара. Да сёння не магу таго забыць. Людзі падалі. Хто мацнейшы, дапамагаў вылезці слабейшым.

Калі ўжо ўсе высадзіліся, а цягнік ад’ехаў - можа, далей выконваць якую місію - той Спірыдонаў загадаў сваім падуладным, каб паставілі нас у шарэнгу.

Калі муштра закончылася, Спірыдонаў агучыў прамову. Памятаю яго словы: “Прыехалі вы на вольнае пасяленне, хто будзе спрабаваць уцякаць, будзем страляць. Вы ўжо не ўбачыце сваёй Польшчы, як левага вуха”, - у той момант даткнуўся да свайго вуха і далей гаварыў, - “здесь ваша Родина и ваша Польша”.

Пасля прамовы сказалі нам маршыраваць у бок грузавікоў, каб нас паразвозіць. Калі так праходзілі цераз платформу, дзе граў духавы аркестр - які ж гэта быў незвычайны парад. Адзін другога падтрымліваў, каб мог дайсці да транспарту, каб не застацца на тым шлаку - адчайваліся, плакалі, але бальшавікі не былі чулымі да людскіх пакутаў і здзекаваліся не горш за сваіх калегаў - гітлераўцаў.

Мы сядзелі на плошчы пад голым небам - брудныя, замурзаныя, галодныя, змучаныя і зняслаўленыя. Такая гэта была паездка да вольных народаў, назву якіх прыўлашчыў сабе пракляты сталінскі рэжым і бязлітасныя бальшавікі.

Пад’ехалі грузавыя машыны і пачалася пасадка - як селядцоў у бочку. Нагружаныя грузавікі завезлі нас у вайсковыя казармы.

На вялікім пляцы ўсіх высадзілі. Пачаў ісці дождж. Можна сабе ўявіць, як гэта ўсё выглядала! Брудныя, чорныя ад шлаку - але гэта была нашая першая купель пасля 40 дзён падарожжа ад 20 чэрвеня да 9 жніўня 1941 года.

Мы страцілі ўсялякія надзеі, але не страцілі польскага духу. Людзі былі так з’яднаныя - а былі ж з розных асяроддзяў, пачаўшы ад простых вясковых людзей да найвышэйшых аўтарытэтаў - лекараў, ксяндзоў, настаўнікаў, адвакатаў. Усе разам маліліся і спявалі набожныя песні. На другі дзень пасля высадкі пачалі нас сартаваць, куды каго выслаць. Я трапіла ў 111 лагер “Аманаш”.

Найперш нас везлі грузавікамі - было каля 170 чалавек, да калгаса 1-га Мая, а адтуль у 111 лагер “Аманаш” - паштовая скрынка нр. 10.

У самым сэрцы тайгі, наводдаль горы.

Мушу адпачыць - галава мне разбалелася ад гэтай краязнаўчай вылазкі.

Пішу далей.

Калі садзілі нас на грузавікі, адвакат з Нясвіжа дапамагаў мне сесці, гаворачы: “Проша, няхай пані абапрэцца на маё плячо”. Тады энкавэдыст падышоў і спытаў, ці я пані і праз хвілю сказаў:

- А алгебру ты знаеш?

Сказала, што не, тады ён смеючыся:

- Чорт пабяры, якая з цябе пані, што не знаеш алгебры!

Такія гэта былі туманы - на ўсім зямным шары мабыць большых дурняў і жывадзёраў няма, як бальшавікі. НКВД гэта быў найгоршы элемент! Яны патрафлялі давесці чалавека да смерці, не б’ючы яго, а вечнымі допытамі па некалькі гадзін на суткі. Пазней апішу, колькі разоў я была выклікана і заслухана НКВД.

У тым калгасе 1-га Мая чакалі на нас фурманкі - “тележкі”, мелі два колы, конік малы, стэпавы. Паклалі рэчы, а мы рушылі, канешне, пехатой.

Праз пару гадзін маршу я аслабела, і НКВДыст пасадзіў мяне на воз на клункі.

Праз пэўны час аказалася пад возам. Звалілася, бо зламалася адно кола, але нічога мне не сталася, бо жывая да сённяшняга дня. Тая фура ехала з тым адным колам каля 30 км. Калі прыехалі ў Аманаш, сонца набліжалася да заходу. Выглядала так, нібы прыгожы курорт (...)

У сярэдзіне той асады нас выгрузілі і пачалі дзяліць на малыя групкі. Мяне прыдзялілі да барака нумар 7. Са мной былі тры сям’і - Камлач Наталля з Вайнілавіч і яе дзве дачкі - 9 і 6 гадоў, другая сям’я са Слоніма, жонка войта Крачатоўская Марыя з дачкой - 5-гадовай Марысяй. З ёй разам былі дзве яе сястры - Вольга і Вераніка. Вольга мела каля 60 гадоў, была незамужняя. Вераніка была ў маім веку, мела закончаную гімназію. Так у суме нас было 8 чалавек, не лічачы цябе.

Хатка была малая, стаяла ў ёй злепленая з гліны печ, у якой можна было спячы бульбу і хлеб, калі была мука. Пасярэдзіне хаткі была бляшаная печка, на якой можна было спячы “ляпёшкі” рознага смаку - з травы, з марожанай бульбы, назбіранай на полі, з грыбоў, з баяркі - гэта такія ягады з церпкім смакам.

Калі падзел ужо скончыўся, пайшлі з Веранікай разгледзецца і паглядзець, што ёсць вакол. Заглянулі праз акенца ў адзін барак. Убачылі поўна сухой травы, трава пачала варушыцца, і з яе паказаліся дзіцячыя галовы і далей дзеці цалкам голыя. Потым аказалася, што маюць толькі адну куфайку і, каб выйсці па патрэбе, мусілі чакаць чаргі. Гэта было жудасна. Да сёння не магу забыць выгляд дзяцей - голых, брудных шкілетаў. Страшна гэта перажывала.

У апошнія гады майго побыту на курорце, ужо ў Канску, нічаму не дзівілася, бо я і мая дачка

былі падобныя на тыя дзіцячыя шкілеты.

22 жніўня адвялі мяне ў медыцынскі пункт, і там я нарадзіла сваю дачку. Ахрысцілі яе вадой і нехта сказаў, што трэба ёй даць імя Вікторыя, каб наперакор усяму заўсёды ў жыцці перамагала.

Я не мела нічога для дзіцяці, выратавала мяне фельчарка, Наталля Пятроўна, вельмі добрая жанчына, якая месяц трымала мяне ў пункце, там мела, прынамсі, прадуктовы паёк, таму што, "кто не работает, тот не кушает". Дачушку сваю карміла грудзямі вельмі, вельмі доўга... Недалёка ад нашага барака быў домік начальніка сплаву. Неяк сустрэла мяне жанчына з таго доміка. Была маладая, гадоў 30, называлася Дуся Карасталёва - мела маці гадоў каля 65, на якую гаварылі Пецярыніха. Запрасіла мяне да сябе. Я не магла туды ісці, бо мы мелі забарону размаўляць з цывільным насельніцтвам, але яна сказала, што яе сястра - жонка старшыні калгаса, і ён знае асабіста таго стралка, які нас пільнаваў.

Што аказалася - залатвіла мне пропуск у сваю лазню ці саўну, так распачалося маёзнаёмства з тымі людзьмі - пачалі мяне падкормліваць. Дуся мела каляжанку, якая працавала ў яслях, прынеслі мне ложачка з ясляў і паруануч, бо інакш таго нельга назваць.



Праз пару тыдняў, гэта было перад угодкамі рэвалюцыі, я сказала Дусі, што ўмею шыць, і так пачалося. Пашыла ёй прыгожую сукенку на кастрычніцкае свята. Усім падабалася, і пачалі за мяне прасіць - жонка старшыні калгаса, і жонка танго энкавэдыста, які нас пільнаваў.

Але я паставіла ўмову: магу шыць, але ў вас у доме і за харчаванне. Згадзіліся, і так я ператрывала зіму 41 на 42 год. Шыла за харчаванне. Энкавэдыст быў да мяне лепшы, ніколі не правяраў, дзе я ёсць, бо ведаў, што шыю яго жонцы і дачцы (...)

А ў Аманашы адкрылі прадпрыемства, дзе рабілі брынзу з авечага малака.

З Канска прыехала спецыялістка па той брынзе, і пачалася работа. Паколькі патрэбны быў у дапамогу яшчэ адзін чалавек, я папрасіла жонку старшыні, прозвішча Гарухін, каб туды трапіць, бо я не мела картак на хлеб. Залатвіла.

Ад сакавіка пачала працаваць, атрымала карткі на хлеб, ну і было авечае малако - можна было жыць. Пачала таксама дапамагаць сужыцелям. Прыносіла малако і брынзу, канешне крадком, каб стралок не бачыў.

Пані Жураўлёва - кіраўнік прадпрыемства - была добрым чалавекам. Нават напамінала - вазьмі сваім палякам, толькі каб цябе не злавілі. Працавала там да студзеня 1943 г. Але авечкі вымерлі, прадпрыемства закрылі, бо не было каго даіць.

Пачаліся клопаты - мусіла ісці пілаваць дрэва ў тайзе, бо не мела б картак на хлеб. Дзіця пакідала ў яслях, а сама вырушала ў "лесарубы" - пілаваць. Цяжкая гэта была праца па пояс у снезе. Не трымала да той пары ніколі пілы ў руках, а да таго ж пілавала з паняй Кулеш - нічога ў нас не выходзіла. Не маглі выканаць нормы і за пяць дзён спілаваць адну сасну. Плакалі абедзве - рукі і ногі апухлыя, мароз да 40 градусаў, ніколі не выконвалі нормы. Атрымоўвалі па 200 грамаў хлеба, бо на карткі не было пакрыцця.

У лес пайшла дабраахвотна толькі таму, што там давалі куфайку, цёплую шапку і рукавіцы, а таксама валёнкі, бо ўжо не мела ў што апранацца.

Працавала ў лесе да траўня.

Калі рака паплыла, тады прыставілі нас да сплаву дрэва, да спіхання з берага ў ваду, ну і калі з верху нешта плыло і чаплялася за бераг, то трэба было спіхваць доўгімі каламі ў ваду.

Калі цяпер думаю пра тое, то сэрца мне сціскаецца - магла ж утапіцца, і ніхто пра мяне не ўспомніў бы, не даведаўся б, а маё дзіця, што б з ім сталася?

Часта была прастуджаная, бо хоць была вясна, але ранкі і ночы былі халодныя, ну і амаль цэлы час чалавек быў мокры.

Цяжкія былі гэтыя хвілі, найгорш, што траціла сілы. Недаядала, а карміла грудзьмі дзіця, якое любой цаной хацела захаваць і прывезці ў Край, бо ніколі не траціла надзеі, што вярнуся. Упарта старалася пераадолець усялякія цяжкасці, каб перабыць гэтае пекла, не паддацца смерці, на якую нас прывезлі бальшавікі.

Вярнуся яшчэ ў 1941 год.

20 кастрычніка прыехалі ў Аманаш прадстаўнікі Польскага консульства, канешне, у суправаджэнні НКВД. Мы атрымалі дакументы на трох

мовах - англійскай, польскай і расійскай, што мы вольныя і можам перамяшчацца па ўсім СССР за выключэннем прымежнай паласы і некаторых гарадоў - Масква, Ленінград, Свярдлоўск і інш.

Не пакідала мяне думка, каб вырвацца як надалей з гэтай бязмежнай і суровай тайгі, дзе мароз даходзіў да -50 гр. С, а снег - да 3 метраў. Але мае мары лопнулі, як мыльная бурбалка, бо былі разарваны стасункі Сікорскага са Сталіным і ўсё прапала.

Забралі ў нас дакументы, выдадзеныя польскай амбасадай.

Я, аднак, не траціла надзеі.

Усімі каналамі старалася даведвацца, як тут найбліжэй дабрацца да чыгуначных калеяў. Прагнула абараніць сябе і дзіця ад грознай зімы, паразітаў і голаду. Нічога не мела, была што раз слабейшая, працавала па 12 гадзін у суткі, дзіця карміла грудзьмі, абы толькі выжыла.

Я пазнаёмілася са старшынёй селсавета Аманаша - называлася Ніна Лушчык, шыла ёй блюзку. У размове запытала, ці ёсць якая мажлівасць выехаць у Канск. Задумалася і сказала, што мы не маем права выезду, бо разарваны стасункі паміж Польшчай і Расіяй. Аднак абяцала мне што-небудзь даведацца.

Я звольнілася з працы пры сплаве. Наталля Пятроўна дала мне пасведчанне, што я не магу там працаваць. Ужо тады я мела моцна ахрыплы голас і не чула на правае вуха, што мне засталося назаўсёды. Наталлі Пятоўне дала сваю чорную гальку, у якой ехала. Пачала таксама прасіць старшыню сельсавета - Ніну Лушчык, каб мне дапамагла. Абяцала, як стане лёд на рацэ, можа нешта арганізуе.

Палякі, з якімі я жыла, не хацелі рухацца. Працавалі ў калгасе і мелі пшаніцу, не баяліся голаду.

Я сказала, што хачу памерці з голаду бліжэй да дому, чым у Аманашы.

Ведала, што павінна дабрацца бліжэй да чыгункі. Тады мог быць нейкі шанец. Зімой можна было выбрацца толькі на сабаках, а летам мошкі нас з'елі б (...)

У лютым 1943 года рака даўно ўжо стаяла, і я зноў пачала свае просьбы.

27 лютага прыйшла да мяне старшыня Ніна Лушчык і сказала, што будуць сані, 6 сабак і каб пакавалася. Пакаваць не было чаго. Ваўняную сукенку цаглянага колеру і бронзавыя пантофлі аддала пані старшыні.

Ноччу прыйшоў стары сібірскі чуваш, які кіраваў упражкай. Праводзіла мяне Марыя Крачатоўская са Слоніма і старшыня сельсавета. Калі



ўжо ўселася ў сані, агарнуў мяне страх, што еду невядома куды, але ў душы адчувала, што калі буду бліжай да чыгункі, тады рушу далей.

Рушылі 27 лютага па 9-й гадзіне вечара.

Ехалі цэлую ноч па рацэ Кан. Два разы мелі пастой, каб сабакі адпачылі. Перад світаннем была завея, сабакі блудзілі, пару раз мы пераварочваліся разам з санямі. Маё дзіцятка таксама раз выпала, вазніца ледзве затрымаў сані. Калі выдабылі маю дачку са снегу, вазніца прывязаў дзіця да саней, паехалі далей.

Да сёння памятаю выццё і брэх сабак, іхняе скавытанне, а да таго яшчэ пакрыкванне вазніцы. Сёння, калі гэта пішу, бачу і чую зноў гэтае ўсё. Забыць яго не магу.

Прывёз нас у Канск, на вуліцу Горкага, 172 да расейкі, з якой пазнаёмілася ў Аманашы пры вырабе той брынзы. Заплаціла вазніцы - дала маю апошнюю як бы адзежыну - коц (байкавай ці суконная коўдра). Можаце сабе ўявіць маю бяду - прыехала да чужых людзей, як потым аказалася вельмі кепскіх, якія мяне пазней абрабавалі з таго, што яшчэ мела. Жыла там два месяцы (...)

Удалося мне атрымаць працу ў шпіталі, была там усім - санітаркай, вартаўніком, прыбіральшчыцай на кухні (...)

3 траўня была выклікана ў НКВД, і цяпер

пачаліся мае няшчасці.

Пачаліся допыты, якія вёў НКВД-ыст Шчарбіцкі, яўрэй з Беластока. Вельмі баялася, каб у нічым не памыліцца. Пастаянна дапытвалі, дзе муж, чаму прыехала ў Канск.

Мой адказ быў адназначны, што ёсць пагадненне і мы - палякі - можам перамяшчацца па Расіі.

У шпіталі пазнаёмілася з кухаркай польскага паходжання, сасланай у 1933 годзе.

Напісала да яе запіску, у якой прасіла пару бульбін, але калі піса-ла, увайшоў палітрук, імгненна адабраў запіску. Кухарка атрымала наганяй за кантакты з палякамі, а мяне назаўтра выклікалі ў НКВД. Яшчэ сёння чую гук замыканых за мной дзвярэй.



*Стары Канск*

Пасля ўступнага допыту начальнік Шчарбіцкі паказаў мне запіску, якую пісала да кухаркі. Доўга мусіла тлумачыць, чаго і для чаго прасіла, каб давесці, што гэта не быў шыфр, і прасіла, каб мяне выпусцілі, бо маю малое дзіця, якое мушу забраць ад чужых людзей (...)

Перад святам рэвалюцыі выслалі мяне працаваць на чыгунцы.

Працавала на чыгуначных каляях. Папіхалі. куды хацелі - да ачысткі снегу, пераносу розных цяжараў. Калі ў студзені адмарозіла ногі, прыставілі мяне да вакзальнага буфета.

Жыць не мела дзе - з вуліцы Горкага мусіла выбірацца, два тыдні спала з дзіцем на вакзале ў буфеце. Дырэктар буфета, пані Дуся, дапамагла знайсці жыллё, але было гэта жыллё на тры сям'і. Калі прыйшла, то было ўжо там 6 чалавек. Была шчаслівая, што маю дах над галавой.

Пачала старацца пра дапамогу ад Саюза патрыётаў. Паехала ў Краснаярск, дзе было нашае прадстаўніцтва і там атрымала картачку на прадукты для дзіцяці - раз у месяц выдавалі 1 кг рысу, пачак малака і паўлітра алею. Атрымала трохі вопраткі, коц і валёнкі, але з парванымі пятамі, як у песеньцы: "Валенки, не падшыты задники".

Калі працавала на чыгунцы, магла раз на тыдзень паехаць з буфетчыцай на гандаль у Краснаярск з таварам. А быў гэта тавар-люкс - марожанае ў бочцы, хоць мароз быў у лютым 30 градусаў. Тавар хутка раскуплялі, і мы адразу вярталіся ў Канск, гэта была адлегласць 300 км. Дачушка мая заставалася ў бабулькі - маці буфетчыцы - вельмі добрай жанчыны (...)

Год 1943 - чэрвень. Вечарам нагадаў пра сваё існаванне афіцэр НКВД.

Назаўтра рана праводзілі мяне каля вакзала двое сяброў - буфетчыца і яе маці

Мяне выклікалі ў 3-ці аддзел пры чыгуначным вакзале, пакой нр 300. Чакала пару гадзін. Можа, чакала б даўжэй, але мая дачка пачала плакаць і на ўвесь голас. Адразу выйшаў афіцэр, і мяне выклікалі. Першае слова да мяне, гэта было пытанне, як імя маёй дачкі. Сказала яму: "Вікторыя", - задумаўся і сказаў, што гэта значыць "перамога". Пасля размовы са мной - як звычайна - на тыя самыя тэмы, дзе муж, што яго шукаюць і г.д. Сказаў, што ведае трохі польскую мову, бо меў 6 гадоў, калі яго бацькоў выселілі ў 1924 годзе з тэрыторыі Украіны, а ён трапіў на гэтую службу.

Сказаў мне вельмі важную рэч - каб ніколі шмат не гаварыла на допытах.

Ад гэтага спаткання мела спакой доўгі час (...)

Пачатак 1944 года быў цяжкі. Марозы даходзілі да 45 градусаў. Трэба было спаць у вопратцы і ва ўсім, у чым хадзіла днём.

Вясной была накіравана на працу на будаўніцтва аэрадрома, 5 кіламетраў ад Канска. Хадзілі пеша пад апекай НКВД і сабак. Было нас каля 60 чалавек. Было мне цяжка, бо мела прывязанай за плячыма дачку ў коцы - ніколі яе не пакідала, бо баялася, што можа прапасці. Там памяшчала яе ў канторку, палілася бляшаная печка, было цёпла, і заўсёды нехта нешта даваў (...)

Мая дачушка вельмі прыгожа танцавала і спявала па-расейску. Па-польску ўмела толькі "Ойча наш" і калыханку "А-а-а, каткі два". Не мела часу яе вучыць. Вярталася, карміла дзіця і ўкладвалася спаць, трымаючы яе блізка. Так працавала да жніўня 1944 г.

12 жніўня 1944 года перавялі мяне ў пякарнае прадпрыемства, уласна гэта быў млын. Там мела цяпло і магла заўсёды мець дзіця пры сабе.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Васіль Драгавец*

# Запозненае прызнанне

## *Біяграфічны споведь*

***Кніжка гэтая ў памяць аб маёй роднай вёсачцы Хадатавічы, дзе нарадзіўся і ўстаў на ногі, аб тым, як жылі нашы людзі, пакуль гаварылі на роднай мове і былі тутэйшымі, самавітымі і сваімі паміж сваіх. Хай то будзе мая надзяка ім за шчаслівае мілаванне побач з імі, ліцвінамі-беларусамі, найлепшыя юначыя дзянёчкі.***

***Мо, нанісанае тут стане яшчэ адным лісточкам на дрэве нашай гісторыі, адорыць шчымлівым успамінам тых, хто адчуе нястрымную позву свайго сэрца азірнуцца, ці здалёку, ці зблізку, на карані свае, на дзядзінец сваёй мінуўшчыны.***

***Усялякае будзе. Адно несумненна. Не ўявіць ні нам, ні тым, хто будзе насля нас, векаванне людзей нашых на роднай зямельцы без вясковых хат, без сялянскай долі.***

***Бацькам сваім, сялянам-беларусам Драгаўцу Мікалаю Васільевічу і Драгавец Зінаідзе Антонаўне, нрысвячаю.***




Драгавец, В.М. Запозненае прызнанне: біяграфічны споведь / Васіль Драгавец. - Мінск : Беларуская навука, 2018. - 501 с.



***Васіль Мікалаевіч Драгавец*** *нарадзіўся ў вёсцы Хадатавічы Нясвіжскага раёна Менскай вобласці ў 1952 г. Працаваў у раённай газеце "Чырвоны сцяг", вучыўся на факультэце журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, знаходзіўся на камсамольскай і партыйнай рабоце. Быў абраны першым сакратаром Менскага гарадскога камітэта камсамола, дэпутатам гарсавета, сакратаром ЦК камсамола Беларусі. Узначальваў партыйны камітэт Менскага станкабудаўнічага завода імя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Пасля вучобы ў аспірантуры Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС быў прызначаны галоўным рэдактарам Усесаюзнага часопіса для моладзі "Парус". З 1991 па 1994 г. працаваў у Савеце Міністраў Беларусі. Арганізаваў работу новастворанага Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей. У 1994 г. быў прызначаны Урадавым сакратаром. Кандыдат філасофскіх навук.*

### *Пра малую радзіму - з вялікай пашанай*

У кожнага з нас ёсць месца нашага маленства. Ёсць той куточак, які наймілейшы, найлепшы, які самы-самы... Бо там наша пупавіна закапаная. Там нашы ножкі ўпершыню адчулі цёплы дотык да зямлі. Зямліцы. Да роднай зямелькі. Маці-зямелькі. І менавіта яна, як і кожная маці, дала кожнаму з нас без выключэння сваё бласлаўленне на наш жыццёвы шлях. Доўгі ці кароткі, дабрадзейны ці складаны, насычаны добрымі справамі ці пазначаны змаганнем за месца пад сонцам - як каму на раду напісана. Так казалі на маёй роднай Нясвіжчыне і на яе зусім маленькім нават па беларускіх мерках куточку - на хутары Язавец, дзе я нарадзіўся.

Так, у кожнага з нас ёсць тое запаветнае і пашаноўнае месцейка, якое здаўна называецца малой радзімай. Праўда, да мяне доўгі час не даходзіла, чаму самае дарагое і памятнае мае назоў "малая". І толькі з гадамі пачынаю разумець, мто "малая" ніякім чынам не азначае памер, бо вядома ж нам, што і ў малюпасенькай кропельцы адлюстроўваецца вялікае

сонца, люструецца ўвесь свет з ягонай непаўторнай і найбагатай размаітасцю. А "малая", бо з часам мы ўсё болыа грунтоўна і яскрава ўсведамляем, што ёсць у нас, аказваецца, і вялікая, але гэтаксама дарагая і непаўторная Радзіма. А пасля да нашай свядомасці даходзіць, што і па-за межамі нашай любай Радзімы людзі цікавыя жывуць - свет жа такі вялікі і неабдымны. І ўсёгэта - наша Зямля. Наша. А за яе межамі, аказваецца, існуе яшчэ цэлы сусвет, якога мы мо і за ўсё наша жыццё ні разу не ўбачым, ды гэта ніякім чынам не азначае, што ён горшы, хоць і неспазнаны.

Але - усё пачынаецца з нашай малой радзімы. З нашага маленства. З роднага слова. З мамінай песні. З акрайчыка свежаспечанага хлеба. З кубка свежага малака. З усяго таго, што для кожнага з нас насіла паняцце "першы, першае". А першае, як вядома, самае дарагое, самае памятнае, самае незабыўнае, бо - самае-самае... Яно ёсць у кожнага. Але ці памятаюць пра яго ўсе? Ці памятаюць ўсё?

І як хораша, што ў нас з'яўляецца ўсё больш апантаных і неабыякавых людзей, якія запаўняюць гэтыя лакуны, гэтыя прагалы сваім бачаннем сваёй уласнай гісторыі. Гісторыі сваёй роднай мясцінкі. Свайго роду. Сваёй вёсачкі. Гэта вельмі добрае і карыснае памкненне. Гэта тое, чаго не сорамна прысабечыць, зрабіць сваім, каб пасля шчодра падзяліцца з іншымі. Бо не бывае гісторыя нацыі безаблічнай, безасабовай. Гісторыя кожнай пядзі зямлі, ачалавечаная гісторыя, дзе дзейнымі асобамі з'яўляюцца людзі, гісторыя кожнага паселішча, кожнага роду - гэта і ёсць гісторыя нашай беларускай зямлі. Наша беларуская гісторыя.

І калі б кожны з нас захацеў і здолеў увасобіць яе ў напісаныя радкі так, як зрабіў гэта адзін з руплівцаў на гэтай усё яшчэ малаўзаранай ніўцы Васіль Драгавец, ой як хораша было б і карысна. Я маю на ўвазе кнігу Драгаўца "Запозненае прызнанне". Ужо адна назва гаворыць сама за сябе. Не, не толькі за сябе, а і за нас. Бо мы - такія талерантна-памяркоўна-няспешныя, што можам і за ўсё сваё жыццё не зразумець, якімі не толькі справамі, але і словамі неабходна аддзячыць роднаму краю, роднай зямліцы, родным людзям, землякам-аднавяскоўцам. А калі не падзячыць, то хоць бы згадаць іхняе жыццё, без якога не было б і нашай доўгай дарогі з роднай хаціны да нашага дома, беларускага дома. Альбо, няхай сабе, да нашай роднай беларускай хацінкі. А мо, каб такое сталася, проста, як пісаў народны паэт Рыгор Барадулін, "трэба дома бываць часцей"? Трэба не забывацца, не выракацца, не быць ганарыстым і безуважным да свайго, роднага, да незабыўнапамятнага судакранання з роднай зямелькай, да першага кроку па ёй.

Гэтыя мае доўгія разважанні ўсяго з адной нагоды - сказаць шчырае і праўдзівае слова падзякі Васілю Драгаўцу за ягонае пераадоленне сябе: гэта ж якія трэба прыкласці намаганні, які здзейсніць над



сабой прымус, каб узяцца за пяро (праўда, цяпер ужо сесці за камп'ютар) і расказаць людзям пра сябе, пра свой род, пра сваю вёску, сваякоў, аднасяльчан, зрэшты, пра нас з вамі (ды не ў адным артыкуле, а ў цэлай аб'ёмнай кнізе). А што да мяне, то дакладна і пра мяне. Бо таму, што мы землякі. Што часта хадзілі па адных і тых жа сцежках. Што гісторыю роднай Нясвіжчыны і блізкай да яе Клеччыны спазнавалі па адных і тых жа падзеях і творцах гэтых падзей. Што дыхалі адным і тым жа вясковым паветрам. Што набіраліся моцы і сілы на неабдымных хутарскіх прасторах, дзе напраўду панавала сіла і моц яе вялікасці матухны-прыроды. Прызнаюся, на палях кнігі шмат маіх паметак кшталту: о-о, дак гэтак сама было і на маім хутары, о, дакладна гэтак жа і я захапляўся фатаграфічнай справай і нават здымкі рабіў дакладна так. Ды і па школьную навуку-прамудрасць нам даводзілася хадзіць за шмат кіламетраў: за тры - пяць.

Але вось з-за сваіх звычак адкладваць на пасля не здолеў я ўзяцца за сваё родапісанне, а Васіль зрабіў гэта. І зрабіў сапраўды ўдала, прыгожа, шчыра і даверліва, як толькі можа родны сын вышаптаць падзячныя словы сваім бацькам, тым дрэвам, якія баілі казкі-наказы, тым палявым кветкам-валошкам,





што цешылі вока і шліфавалі густ, той кудасе-завірусе, якая без спагады выпрабоўвала характар, таму жыццядайнаму сонейку, якое не стамлялася і дагэтуль не перастае лашчыць і пеставаць зямных рупліўцаў. А яшчэ надзвычай важна, што Васіль знайшоў менавіта той тон гаворкі, які выклікае давер, які ўцягвае цябе ў дзеянне, што адбываецца на старонках кнігі. І ты хоцькі-няхоцькі становішся саўдзельнікам усяго, што дзеелася ў тадышнім жыцці і што ажыўляе аўтар радок за радком.

Чытаў, разважаў думаў і так рупіла часам сесці за кросны, каб у няспынным руху чаўнака ўбачыць майстравіты клопат і маёй мамы, узяць у рукі касу і адчуць непаўторны перадсвітальны водар свежаскошанай травы, альбо, патрымаўшы разак, зноў акунуцца ў цягавітую і вельмі ж цяжкую сялянскую справу, калі ў глыбокім балоце рэзалі на зіму торф.

Таму, прызнаюся, у мяне было некалькі недаспаных начэй, калі разам з аўтарам хадзіў-блукаўпадарожнічаў па палях-лясах-балотах, па любімых ім сцежках-дарожках і маёй роднай Нясвіжчыны, па тых вёсках, якія згадвае Васіль, якія добра ведалі і мае бацькі. Не выключаю, што пуцявіны Драгаўцоў і Бутэвічаў перасякаліся.

Чытаю другаўцоў тэкст, сёе-тое выпісваю ілаўлю сябе на думцы: якія каларытныя, якія значныя і сэнсава ёмкія назвы нашых вёсак. Нашых - Драгаўца і маіх. Хадатавічы. Аношкі. Казлы. Малаеды. Кохавічы. Грыцькавічы. Жанкавічы. Доўкінды. Каменка. Нанюцічы. Малева. Карцэвічы. Сынгалы. Міцькавічы. Гусакі. Сноў. Даматканавічы. Арда. Жылічы... У іх, у гэтых назвах, і наша гісторыя, і людскія лёсы, і перыпетыі змаганняў і барацьба, і радасць, і прымус - усё тое, што адбывалася з нашай зямлёй і яе насельнікамі.

Дарэчы, мне прыйшлося даспадобы другое, вясковае прозвішча Драгаўцоў - Другаўцы. Вядома ж, другаўцы, бо хіба не найлепшы для чалавека чалавек - друг? Так, дарэчы, менавіта "друг, дружыць" казалі і на маім хутары, і ў маёй вёсцы Баяры. Зрэшты, такіх мясцовых слоўцаў у Васіля нямала. І гэта, падаецца мне, вельмі добра, бо захаваны, засведчаны яшчэ адзін найкарысны скарб, які, нажаль, усё больш знікае, адыходзіць у нябыт - наша родная (тая, што менавіта ад нашага нараджэння з ёй) мова. Дыялектная, але такая жывая і натуральна-дакладная, свойская, бо народная, мова.

Добра, што пільнае вока Драгаўца здолела засведчыць тыя, здавалася б, драбязінкі, якія, часам, ярчэй за цэлы мацярык сведчаць пра характар, звычкі, паводзіны, уклад жыцця беларусаў-землякоў. Гэтае бачанне датычыць як агульнавясковых традыцый, так і асабістай адметнасці бацькоў, родзічаў, іншых людзей, якія пусцілі Васіля не толькі ў сваю хату, на свой надворак, але і ў сваё асабістае жыццё. Таму і атрымліваюцца гэтыя апісанні не толькі дакладнымі, праўдзівымі, але і даверліва-спавядальнымі, часам вельмі ж шчымліва чуллівымі. А многае са сказанага ўдала дапоўнена здымкамі. Даўнімі, гістарычнымі, сённяшнімі - пра людзей, пра вёску і вясковы побыт, пра чароўную непаўторнасць прыроды.

І ўсё гэта - у адной толькі кнізе "Запозненае прызнанне". Захварэй і ты, шаноўны чытач, гэткім шчырым прызнаннем, хай сабе і запозненым, і ўсе мы разам пабагацеем, падабрэем, падужэем.

***Анатоль БУТЭВІЧ,***
*пісьменнік, ганаровы грамадзянін*
*горада Нясвіжа.*




# Думкі ў калядную ноч

## ЗАМЕСТ УСТУПУ

Празрыстая ноч за вакном. Чарнява-сіні купал неба зіхаціць зорачкамі, сярпасты месячык нетаропка плыве над сцішанай зямлёй. Срэбны вэлюм захіснуў неабсяжную прастору. Здаецца, гэта ён, месячык, з нябачнага гарлачыка распалаводзіў над палямі і рэкамі, снежнымі дахамі і вуліцамі гэтую срэбную замілаванасць, гэтую казачную заспакоенасць. Ноч, калі нарадзіўся Гасподзь Бог. Якія цудоўныя вобразы, якую неверагодную прыгажосць, які прастор для думак даруе прырода чалавеку! Нібыта просіць, запрашае: гляньце ж, паглядзіце на гэтае хараство, раздумайцеся над сваім жыццём...

Не ведаю чаму, але якраз у гэтую каляднуюноч, з шостага на сёмага студзеня 2010 года, мне захацелася ўзяцца за справу, аб якой думалася і да якой даўно кіраваліся мае памкненні. За немалыя свае гады давялося нешта пабачыць на гэтым свеце, пабываць у многіх мясцінах, пазнаёміцца з рознымі культурамі, адчуць адносіны ў людскім асяроддзі. І чым болей бачу, чым болей спазнаю і разумею, тым часцей кідаюся позіркам у сваё маленства, у нашу вёсачку Хадатавічы, што на Нясвіжчыне, у сваю хату. Ды па-новаму пранікаюся тым жыццём, тымі стасункамі паміж нашымі вясковымі людзьмі, адносінамі ў сям'і паміж бацькамі, пасярод радні. І ў роздуме прыходжу да высновы, што азначаны яны ўнікальным каларытам, які ўжо ніколі не паўторыцца, як не паўторацца тыя словы, тыя размовы, тыя падзеі.

Памруць апошнія вяскоўцы - і ці застанецца хоць слоўца пра тое, адышоўшае ў нябыт жыццё, так непадобнае на сённяшні дзень і яшчэ больш адрознае ад жыцця будучага. Не аднойчы, углядаючыся ў магільныя пліты, пад якімі ляжаць і дзед, і прадзед, засмучана ўзгадваў, што не засталося ад іх ніводнага лісточка ўспамінаў, ніводнага напісанага радка. Адным словам, нічога, каб хоць на імгненне ўявіць сабе іх думкі і клопаты, засмучэнні і радасці. Прачытаў бы зараз і мо лепей пазнаў сябе, свае сумненні, мо лягчэй рабіў выбар у тых ці іншых абставінах.



*Вёскі паміраюць, сыходзяць у нябыт*

На нашых вачах вёскі паміраюць, сыходзяць у нябыт, як і тое многае на гэтым свеце, што сышло, растварылася ў сваім часе. Такі выбар несупыннага зямнога руху. Але ж праз вёску нашы продкі паядналіся з зямлёю, выжылі ў стагоддзях, адтачылі найлепшыя свае чалавечыя якасці. Было ў тым жыцці нешта такое, што спрыяла чалавечай існасці. Хочацца яго расхіснуць, гэта "нешта", агледзець больш пільна, занатаваць для гісторыі.

Калі жывеш у сваім часе, то звычайна не спеважываешся думкай аб яго адметнасці ці гістарычнай вартасці. Прайшоў сабе дзень, ну і прайшоў - усё, як звычайна, нічога асаблівага. Недзе ваююць, узарвалася бомба, аслабеў рубель, падняўся долар, прайшлі выбары, падаражалі газ і электрычнасць...

Вартасць часу пазнаецца праз гады. Штодзённыя нашы клопаты, сустрэчы, размовы, думкі, уражанні, што здаюцца будзённай невыразнай мітуснёй, паўстаюць у зусім іншым адценні, у іншым знакавым выразе, калі аздобяцца часам, аддаляцца, пакрыюцца смугою адлегласці, якая ўсё імклівей раскручваецца за нашымі спінамі. Адтуль, здаля, азіраючыся на пеpажытыя дні, нечакана разумееш, што самае цікавае ў мінулым якраз тое, на што амаль не звяртаў некалі ўвагі. Ці хіба ж задаваліся мы калі пытаннем пасярод нашага вясковага калавароту, чаму, напрыклад, у таго ці іншага чалавека такое прозвішча, ці адкуль ён родам, кім былі яго бацькі і чаму ён вясёлы і працавіты, альбо, наадварот, хітраман ды казачнік; чаму з адным не можаш нагаварыцца, а другому, наогул, не ведаеш, пра што казаць...

З гадамі прыходзіць разуменне, што і прозвішча, і выраз твару, і паводзіны, і характар з'яўляюцца не самі па сабе. За імі цягнецца калейка перавязаных паміж сабою пакаленняў ды доўгая-прадоўгая аповесць збірання свайго, адрознага ад іншых, вобразу.

Гісторыя таксама, як і чалавек, становіцца іншай, жывой, напоўненай токамі, калі яна аздабляецца адмецінамі і рэаліямі, тымі самымі словамі, сутыкненнямі, адчуваннямі, якія меліся ў сваім часе. Адна справа ведаць аб тым, што 17 верасня 1939 года ў Заходнюю Беларусь прыйшло савецкае вызваленне ад польскай акупацыі, як вучыліся некалі мы, студэнты БДУ імя Леніна, па падручніку слыннага ўніверітэцкага гісторыка Абэцэдарскага, і зусім іншая - даведацца пра тое ж "вызваленне" інакш, праз вобраз, дэталь, адметнасць убачанага і перажытага.

*"Салдаты то рускія былі зусім худыя, ды й бяз ботаў, анучамі ногі абматаныя. Коні, як*



***Недзе там, далёка, родная вёсачка Хадатавічы***

*аглоблі, такія худэзныя, замест пастромкаў вяроўкі... І замуленыя, то ня дай Божа! А потым яны пачалі людзей забіраць..."*

Пасля такога сведчання, якое, дарэчы, мне давялося чуць ад жывых сведкаў, пафас палітычнага факта набывае іншы сэнс. Я, праўда, не збіраюся звяртацца да палітычнага ці гістарычнага аналізу свайго часу. Бо калі палітыка ці гісторыя, то гэта абавязкова свае і чужыя, адны лепшыя, другія горшыя, адны "за", другія "супраць". У жыцці не так. І з таго, і з другога боку будуць лепшыя і горшыя, добрыя і нядобрыя, тыя, хто "за", і тыя, хто "супраць". Таму самым пераканаўчым сведчаннем часу будзе сам той час у сваіх шматлікіх, незлічоных праявах. Мая мэта - якраз засведчыць мо хоць самы маленечкі яго кавалак, калі светла і бесклапотна жылося побач з маладымі бацькам і матуляй, бабай і дзедам, дый са сваім прыязным вясковым людам.

Здаецца, лепей, як тады, дык і не было ніколі... Мо з гэтай самай нагоды хочацца прыпомніць тыя цудоўныя дзянькі, той дараваны Богам час маленства ды пакінуць хоць якія ўражанні ад перажытага. Дакладней, ад перажытага ў тых мясцінах, дзе давялося нарадзіцца, вучыцца, пазнаваць свет.

Упэўнены я і ў тым, што чым больш чалавечых сведчанняў захаваецца аб сваім часе, тым больш жывым і непаўторным з'явіцца ён перад прыхільнікамі мінулага. Тым больш зразумелай стане тая ж самая яго палітычная і гістарычная вартасць.

А яшчэ хочацца пакінуць дзецям сведчанне жыцця, якога ніколі болей не будзе, якое раствырылася назаўсёды ў гістарычным космасе. То быў час, калі існаванне вясковых людзей вызначалася натуральнасцю, а вытокамі чалавечых паводзін была зыходзячая ад зямлі існасць. Светаразуменне, сэнс жыцця, адносіны між сабою людзі ладзілі ад прыроды: *бязлітасны, як воўк, ці хітры, як ліса, глухі, як пень, ці ўпарты, як баран, худы, як жэрдка, ці тонкі, як націна*, - дакладна, проста, без аніякага другаснага сэнсу. Сэнс, увогуле, быў адзін - зямлязямелька! На ёй нараджаліся і паміралі, карміліся і весяліліся, цешыліся і смуткавалі, аб ёй марылі і яе праклінялі. Продкі нашыя, вясковыя людзі, бацькі і прадзеды, і самі былі, што тая наша беларуская зямля: непаўторнымі ў выразе, даверлівымі ў словах, адкрытымі ў пачуццях. Дзеці зямлі, натуральныя людзі... Яны не гасцявалі на панскіх балях і дыпламатычных прыёмах, не шпацыравалі з парасонамі пад ліпамі, а штодня "гасцявалі" на полі і на сенажаці, у хляве каля скаціны і на таку са снапамі, альбо "шпацыравалі" з вінтоўкай ці аўтаматам перад нямецкімі кулямётамі.

Ва ўсе эпохі сялянамі карысталіся, патрабавалі дзякло і чынш, гвалты і зборы, мёд і ніткі, курэй і гусей. Яны і сёння такія далёкія ад "откатов" і "переделов", "корпоративов" і "рейдеров", ад "шестисотых" і "восьмисотых"... Яны - ніжэйшая прыступка чалавечай іерархіі і адначасова яе недасягальны, чысты і высокі маяк.

У пахіленых хатках, без пенсій і бальніц яны не згінулі ў навальніцах і завірухах, выжылі пад уладным прыгнётам.

З гэткімі думкамі і памкненнямі рабілася кніжка. Рабілася з вялікімі перапынкамі, апраўданымі і не зусім апраўданымі, з сумненнямі і пытаннямі, з вяртаннямі ў пачатак і перапісваннем, з удакладненнямі і знаходкамі. Ды неяк зрабілася...

...Але ж якая марозная ноч! Быў непаразумелы снежань з дажджом і макратою, ды спраўдзілася даўняе: зіма і маразы прыходзяць на Каляды. Углядаюся ў празрыстую срэбную неабсяжнасць за шыбамі. Застылая цішыня. Абсалютны спакой. За гарадскімі дахамі святлее палоска неба, шырэй расхінаецца над снежнай прасторай. Радасць вялікай навіны сыходзіць на казачную зямную цвярдыню: гэтай ноччу нарадзіўся чалавечы збавіцель, сын Божы Ісус Хрыстос...

...Далёка за снягамі, у чужой Германіі, мо бачыцца цудоўны сон старэйшай дачцы Машы. Праз сцяну ад майго пакойчыка салодка спяць малодшая дачка Надзейка і жонка Галіна. За дале-



***Адзінока табе, мама, у неабсяжнай начной прасторы...***

чынёю, больш чым за сотню кіламетраў адсюль, ад сталічнага Менска, на нясвіжска-радзівілаўскай зямлі суцішылася і туліцца долу пад купалам калляднай марознай ночы мая родная вёсачка Хадатавічы. Там сумна цямнеюць пахіленыя хаты, не скрыпнуць анідзе дзверы, не пачуецца, як бывала, звонкае дзіцячае многагалоссе, дзявочы смех ці людскі говар. Глуш, цемра і стылая адзінота. Там маці. Адна. У роднай хатцы. Не хоча з яе анікуды: ні да сыноў, ні да братоў...

...Мо холадна табе, мама, у калядную ноч?! Хутка выстывае старая, зробленая пасля вайны з дзедавага гумна, наша хата. І бацькі няма разам з табою, мама. Спіць ён на вясковым пагосце, не прыходзіць дадому ўжо трэці год. Як ты там адна, у гэтай неабсяжнай начной прасторы?

Праз тры дні я прыеду да цябе, на твае восемдзесят два. "Калі ты нарадзілася, мама?" - пытаўся некалі. І ты казала: "На трэці дзень пасля Каляд, сынок. Так мне матка мая гаварыла... Але прабегла ўсё..."

Сапраўды, прабегла ўсё. Толькі памяць яшчэ трымае ў сваіх глыбінях адбіткі нашага былога жыцця...




# В ё с к а

У нашай хатцы ў добры мароз наскрозь прамярзаюць шыбы ў маленькіх ваконцах. Ды не проста пакрываюцца марозным інеем, а нібыта які разумнік размаляваў іх цудоўным алоўкам - вытыкаюцца на шкле розныя ўзоры: ці то сарваныя з дрэва лісточкі, ці яловыя галінкі, ці снежныя мроіны... Прыгледзішся, чаго толькі не ўбачыш! Але запылае на золку ў печы агонь, паплыве па хаце цяпло і заплачуць слязьмі, адтаюць пасля пранізлівай ночы шыбы, знікнуць цудоўныя малюнкі. Шкада трохі іх - ды каб не было большага гора! Прыцісне вечарам холад, і зноўку праступяць на шкле непаўторныя творы яго вялікасці Дзеда Мароза.

Гарадскія дзеці не ведаюць такіх цудаў. Вокны зараз іншыя, не прамярзаюць. Мо і шкада, што не ведаюць. А тады, у калядную ноч, самае цікавае пачыналася з вакон. Пакуль на калядаванне выберуцца вясковыя жанчыны-жартаўніцы ды муж-

чыны пабайчэй, мы, дзеці, не знаходзілі сабе спакою, кучкамі шугалі ад хаты к хаце, поўнячы то адну, то другую вясёлую хеўру. Каб папоўніць свой калаўрот ды выцягнуць з цёплай хаты на вуліцу паплечніка, у будынак не заходзілі - няма часу тлумачыць нешта дарослым. Рабілася ўсё проста. Прыхіснешся да марознай шыбы губамі, раздзьмухаеш цёплым паветрам шкло, і вось на ім, як круглякі ад акуляраў, вытаялі чысцюткія празрыстыя плямы - добра відаць, што робіцца ў хаце. Стук-стук па шыбе. Адтуль крык:

- Во, ужэ ўсе хлопцы сабраліся, а вы мяне дома дзержыця! Усё, я пайшоў...

Бацькі, вядома, у такіх абставінах зрабіць нічога не могуць - іх жвавы сынок толькі мільгане пятамі, вылятаючы з хаты да жаданага гурта.

Ды падыходзіць галоўная дзея. Ужо сышліся ў каго на хаце дарослыя калядоўнікі. Завадатарам, як склалася, Зіна Твароўская, удава забітага на вайне мужыка, маці траіх дзяцей. Высокая і худая, са шчарбатым ротам, заўжды ў кірзавых ботах і фуфайцы, але вясёлая, з гарэзлівымі агеньчыкамі ў вачах жанчына. Напінае на сябе вывернуты аўчыною наверх кажух, падпяразвае яго вяроўкаю, на галаву які-небудзь воўчы каптур, вочы падмалёўвае чорным вугольчыкам з печкі, бярэ ў рукі сукаватую палку... Падобным чынам меркаваліся да яе яшчэ дзве ці тры спакусніцы-жанчыны, пераадзяваўся хто з мужчын. Пачыналіся незабыўныя калядныя забавы.

Віруючы гурт, аздоблены рухам, звонам, жартамі і смехамі, рушыў па вуліцы, заварочваючы то ў адзін, то ў другі двор. Стукаліся ў дзверы. Хеўра заціхала, чакаючы кульмінацыі. Гаспадар ці хто з дому прычынялі дзверы на ганак і ледзь не трацілі мову ад выгляду неспадзяваных прышэльцаў:

- Каб вас бягунка пабрала! Эта ж трэба, так напалохалі...

Распачыналася размова, падобная да тэатральнай дзеі: мы вось здалёку, з лесу прыйшлі, а ці можна ў гаспадара пераначаваць, а ці запросіць ён у хату, а ці пачастуе з нагоды Каляд, мо нальле чарачку, а мо і цукерак дзецям дасць, не пашкадуе...

Цукерак у тыя часы асабліва не перападала, а з ежы і выпіўкі што-небудзь абавязкова даставалася, бо каляднікаў нельга не пачаставаць. Малыя спявалі калядныя песні, нешта танчылі, жартавалі, палохалі ў цемры якіх небаракаў. Весела і цікава было да ўпаду. Назаўтра заходзіліся ад смеху, прыпамінаючы калядную ноч, жарты, прыгоды ды іншыя неспадзеўкі.

Але тое было пасля, а каляднай раніцай я прачынаўся ад смачных пахаў з кухні. Бацька ў белай кашулі стаяў перад люстэркам з намыленымі шчокамі, раз-пораз правіў сваю трафейную нямецкую брытву аб шырокую салдацкую скураную папругу. Брытва здатная, паблісквае цьмяным стальным лязом, тронкі пакрыты жаўтавата-белымі, слановай касці, планачкамі, па канцах аздоблены фашысцкай свастыкай. Відаць, належала важнай асобе. Любімай маёй справай было дабрацца да брытвы, калі бацька на рабоце, і вастрыць ёю алоўкі. Бацька брытву бярог, гневаўся на мяне, што псую дарагую рэч. Вось і зараз ён кажа маці:

- Затупіў хлопяц зноў брытву... Як палена стала... От дастычны, не ўберагчы...

Я чую бацькаў голас, чую, як патрэскваюць у печы дровы. Адкрываю вочы. Чырвона-залацістыя промні зыркага марознага сонца прабіваюцца праз маленькія акенцы нашай хаткі. Ад печы ідзе гаючая цеплыня. Бацькі не бягуць на работу, ніхто не грукоча вёдрамі і не стукае дзвярыма. Спакойна, утульна ў хаце. Да асалоды, да замілавання пранізліва пахне хлебам і пірагамі, што падыходзяць у выпаленым прыпеку. Мяўкае за дзвярыма кошка, просіцца ў цёплы дом. Маці пытаецца ў бацькі:

- Калі эта, Коля, хлопяц прышоў учора?! Ты чуў ці не? Мусіць, гойсалі недзе ўсю ноч. Будзі ты яго, хай устае, я на стол накрываю. Памаліцца трэба.

Бацька падыходзіць да ложка, бачыць мае адкрытыя вочы, гаворыць:



***Нібы ў калысцы, паміж лесам і пагоркам, умясцілася наша вёсачка***

- Так ён ня спіць ужэ, прачнуўся...

Потым звяртаеццада мяне.

- Уставай, Вася, будзем снедаць разам. Свята сёння вялікае...

Я саскокваю з ложка, бягу на кухню, набіраю з вядра на восілцы кубак халоднай, нядаўна з калодзежа, вады. Паліваю на рукі, твар, шыю, вушы, пырскаю сабе ў вочы, чышчу зубы.

- Давай палью табе, складвай рукі,- кажа бацька.

- Ня трэба, я сам...

У вясковай хаце мыліся не па-гарадскому. Ні кранаў, ні ракавін мы не бачылі. Вядро калодзежнай вады падвешана за восілку каля печы на жалезным пруце, што прыбіты ў бэльку вялікім цвіком. Вось і ўся цывілізацыя. Бацька чэрпаў кубкам ваду з вядра, набіраў яе ў рот так, што раздуваліся шчокі, складваў далоні кошычкам і з роту ручайком, патроху выпускаў ваду ў гэты кошычак, абмываючы твар, шыю, грудзі. Ці то на фронце ў акопах ён налаўчыўся ад каго так рабіць, ці то была даўняя сямейная завядзёнка, я не ведаю, але, як і бацька, я таксама прызвычаіўся да такога мыцця. Напачатку толькі кошык з далоняў атрымліваўся ў мяне дзіравым. Ды настроіўся. І дагэтуль часам на лецішчы дэманструю дзецям дзеля забавы такі незвычайны спосаб абмывання.

...Усе памыліся, адзеліся ў чыстае. Стол устаўлены лепшымі прысмакамі, што прыгатавала маці. Пад ручніком астывае залацісты пірог. Купкай на талерцы жаўцее курыца ці качка, у місцы гусцічца смятана ад сваёй кароўкі, яшчэ ў адной - каўбаса і паляндвіца, прыхаваныя да свята. Важкім стажком падняліся бялюткія аладкі, каля іх засалоджаная макавая поліўка...

- Станем, памолімся на ікону...- кажа маці.

Мы становімся ўчатырох у рад: бацькі і я, ім па пояс, малы Толя, брат, я трымаю яго за руку, засяроджваемся. Бацька хрысціцца першы, потым маці. Вучыць нас, як хрысціцца і глядзець на ікону. Іконка невялічкая, у бліпшчастым акладзе, на покуці, вышэй нас, абраная свежымі, вышытымі ільнянымі ручнікамі. З іконкі пільна пазірае на мяне Маці Божая з маленькім дзіцем на руках. Бацька кажа непаразумелыя словы: "Отчэ наш, іжэ есі на небясах... Дай нам хлеб наш... Да свяціцца імя тваё..." Наша хатка поўніцца сонейкам, і мне здаецца, што ў вачах Багародзіцы на іконцы вялікае задавальненне за нас усіх...



*"Станем, памолімся на ікону..." Гэты абразок усё жыццё аберагаў нашу сям'ю*

***"ХАДАТАВІЧЫ - вёска ў Казлоўскім сельсавеце. Вядома з XVI стагоддзя. У1552-1555 гг. Хадатавічы - сяло Клецкага павета Навагрудскага ваяводства Вялікага Княства Літоўскага. Уладанне каралевы Боны. Сяло налічвала звыш 13 валок зямлі (валока - прыкладна 24,6 га), з якіх на цяглай службе лічылася 6 валок 15 маргоў зямлі, а па чыншу - 5 валок 8 маргоў. Сярод жыхароў сяла былі Івановічы, Сцепановічы, Багдановічы, Хадановічы..."***

Гэта вытрымка з архіўнай даведкі пра гісторыю нашых Хадатавічаў. І калі жыў з бацькамі, і



*Могілкі відаць адусюль*




***Хадатавічы, Малаеды, Гусакі, Кохановічы, Даматканавічы – мае каардынаты***

пазней, калі з'ехаў з вёскі ў сталічны Менск, не раз думалася, асабліва ў прыезды дадому, як удала продкі нашыя выбралі некалі месца пад жытло. Вёсачка, нібы ў калысцы, затаілася пасярод пагоркаў ды нізінак. Калі глядзець на яе ад сонца, то з правага боку, за Грудзінавай хатай, вясковая вуліца крута ўздымаецца на пясчаны ўзгорак і знікае ў цёмным лесе. Гэты ўзгорак расцягнуўся вакол вёскі, як падкова, ажно да самога небасхілу. А там, дзе дарога западае ў цёмны лес, ён самы высокі. Там вясковыя могілкі. Яны відаць адусюль і раніцай, і днём, і ўвечары. Што б ні рабіў хто з вяскоўцаў, куды б ні ішоў, ні ехаў, ніяк не абміне позіркам могілкі. А кінецца туды вачыма, то падумае пра родных і блізкіх, суцешыцца ў роспачы ды адзіноце, а мо, наадварот, - зажаліцца, зальецца горкімі слязінкамі...

А яшчэ могілкі для нас, дзяцей, нібы геаграфічны досвед. Неабсяжная прастора расхінаецца перад вачыма. Убок Нясвіжа віднеюцца Гусакі, нашы суседзі - вунь веерам разбегліся



***Дуб Якуб. Пад ім тапталі сцежачкі ды любаваліся яго раскідзістай шапкаю бацькі і прадзеды. Фота Віктара Альшэўскага, 2004 г.***



***Далей, за Аношкамі, дарога на Сноў і Баранавічы, Нясвіж і Менск. Гэта далёкі свет, дзе зусім іншае жыццё***

пасярод іржышча іх пафарбаваныя хаты з прысадамі. Справа, ніжэй, Міцькавічы, хаты радочкамі. Калі прама, на поўнач, то былыя Якубавічы. Тут ужо не адвесці вока. Бо Якубавічы, хоць зараз там ніводнай жылой будыніны, гэта перш-наперш дуб Якуб. Колькі яму гадоў - то адны здагадкі, кажуць, пад трыста. Пад дубам тапталі сцежачкі ды дюбаваліся яго раскідзістай шапкаю мае бацькі і прадзеды, узіраліся і мы, малымі, у яго магутныя галіны ды шапатлівую лістоту. Хадзіла чутка, што спачываў пад яго шырокаю кронаю сам Напалеон, ідучы на Маскву. Неяк я паказваў дуб Якуб сябрам, дык увасьмярых мы ледзьве абхапілі яго шурпаты магутны ствол.

Вышэй, за дубам, віднеюцца выбеленыя вапнай будыніны калгасных фермаў. Далей відаць толькі абрысы - наша Казлоўская школа, сама вёска Казлы, потым Аношкі, дзе старшыня, кантора, клуб. За Аношкамі дарога на Сноў, на Баранавічы. У Снове -дзядзька Тонік, у Баранавічах - Вечык. Далей за Гарадзеяй - шаша з усходу на захад, з Масквы да Брэсця, так называлі ў нас Брэст. Гэта ўжо зусім далёкі свет, дзе іншае жыццё, гарадскія людзі, электрычныя лямпачкі, брукаваныя сцежкі, нейкія бульвары і тралейбусы, каўбасы і начальства на легкавушках...

Павернеш галаву трохі лявей - Малаеды, там баба Волька і дзед Антось, яшчэ ўбок - Коханавічы, Жылічы і Арда, там таксама радня. За Жылічамі хаваецца сонца ўлетку. Арду не відаць, яна за пагоркамі і за краем леса.

Зноўку, ужо з другога боку, вяртаюся позіркам на могілкі. Яны ва ўсе гады для нашых хадатаўскіх людзей, як сімвал пачатку і канца, прасторы і часу. За могілкамі, на зваротным баку - круты схіл, невялічкі сасоннік і адразу трохі жахлівы прыцемак ад высачэзных ялін. Дарога прападае ў гушчары, перамыкаецца вялізнымі лужынамі, гразкімі каляінамі, патыхае халоднай непрыемнай макротай і слізговіцай. Але праз колькі хвілін раптам разбяжыцца змрок, засвятлее неба і акрэсляцца ўдалечыні раскіданыя на пагорках пабудовы. То Даматканавічы - блізкая і добра вядомая хадатаўцам вёска-суседка. Пасля вайны нас раздзялілі: мы ў Нясвіжскім, а яны, даматканаўцы, у Клецкім раёнах. А былі некалі, як сведчаць архівы, адзіным Клецкім паветам.

Вокнамі нашыя хаты ставіліся ў бок да лесу, на поўдзень, туды, дзе Даматканавічы. Адтуль, з-за лесу, ад левага яго ўскраю штодня выхінаецца сонца на ранку, птушкі ў балоце сустракаюць яго радаснай балбатнёй ды посвістам. Праз лес праходзіць граніца двух раёнаў. Сам Клецк, старажытны і знакаміты, усяго ў кіламетрах дзесяці ад нашых Хадатавічаў. Ёсць у тым боку наша радня па бабе Наташы. Напрасткі нам бліжэй да Клецка, чым да Нясвіжа. Гуртам на роварах па лясной сцежцы, праз Даматканавічы на Лукаўцы, дзе чыгуначная станцыя, а там і Клецк. Вялікі і незнаёмы, з багатымі крамамі і дзіўнымі назвамі "універмаг", "гастраном". З марожаным і цукеркамі, з нячутымі дагэтуль і таму запамінальнымі на ўсё жыццё пахамі сшыткаў, алоўкаў, кніг у "Канцылярскіх таварах". Купіць, што трэба, пакаштаваць



***Мох балота каля Маланкі, падобнае на пацеркі. Здымак 1979 г.***

марожанага - і дадому. Ды так прабрацца, асабліва ў Даматканавічах, непрыкметна, каб не нарвацца на мясцовую хлапечую хеўру, бо могуць пераняць, будуць чапляцца, можа ўтварыцца бойка і дадому вернешся пашматаны. Самае крыўднае, што адбяруць каштоўнае гарадское прыдбанне...

Ніяк не ўявіць нашы Хадатавічы без балота, што пачыналася за платамі гаспадарак ды круглым люстэркам уляглося ад вёскі ў бок лесу. Вясною, у разводдзе, балота станавілася возерам, залівала палі, нашы соткі за хлявом. Талаю вадою пакрываліся паплавы і пашы. Праз тыдзень-другі вада сыходзіла і немаведама адкуль падымаліся сцяною багатыя травы, густа зацвіталі кветкі, а над імі цвірчэлі ў лагодным небе жаўрукі. Улетку на золку ды абедам мы стаялі каля балотных канаваў з вудамі і цягалі карасёў; вечарамі, апантаныя ад гульняў і забаў, не маглі накрычацца ды нагукацца, стараючыся перасіліць магутнае, неабсяжна-бясконцае жабіна кваканне. Узімку балота пакрывалася ледзяною падлогаю, на якой да цямна забаўляліся пасля ўрокаў нашы вясёлыя дзіцячыя кучкі.

У канцы сяла было яшчэ адно балота, людзі казалі, што вельмі старое, каля Івана Пятрушчыкавага. Называлі яго Круглавам. Мо таму, што было круглым па свайму зямному малюнку. Недзе ў чэрвені, адсеяўшыся па вясне, туды збіралася ўся вёска, каб накапаць торфу на зіму. Незабыўнае відовішча і незабыўная сама па сабе дзея. Я раскажу аб ёй пазней.

Ды яшчэ не ўсё пра балоты. За вясковымі паплавамі ўлесе схавалася таксама балотца, падобнае на пацерку, перавітае парослымі выспачкамі ды вастраўкамі. Не ведаю чаму, але вада ў ім адбівалася сінявата-чарнявымі водблюскамі, накшталт зыркай бліскучай сталі. Балота называлі Мох, бо вакол імхі, ці балота за Маланкаю - там, ля балота, у пахіленай хатцы жыла гаротная жанчына па вясковай мянушцы Маланка. Толькі яно адно і засталося дагэтуль - Маланчына балота. Вясковае асушылі на пачатку гарбачоўскай перабудовы, каб павялічыць плошчы пасяўнога кліна, а старое, што каля Івана, перасохла само па сабе: з усіх бакоў перарэзалі яму вытокі і ручаіны, як чалавеку вены і артэрыі. Аказалася, што ўсе балотныя мясціны звязаны паміж сабою, дзяліліся вадою напрадвесні, перацякалі ручаямі ў большыя рэкі і рачулкі. Я і сам толькі зараз, на старых картах, скмеціў, што канаўка за Грудзінавым плотам некалі была танюсенькай рачулкай Дунайкай (афіцыйна Дунай), запляталася нітачкай з-пад нашага балота да Малева, адтуль у больш вядомую Ушу і далей на поўнач, у Нёман, у Балтыйскае мора.

Рэчкі тут, на нашых землях, дзяліліся па водастоку. Недалёкая ад нас Лань ужо кіравалася на поўдзень, у Прыпяць і Днепр. Ды парвалі падчас меліярацыі гэтыя Дунайкі-капіляры па-жывому, змагаючыся за вялікія ўраджаі і высокія дасягненні. Павысыхалі невялічкія азярыны, што акружалі вёску з заходняга і паўночнага бакоў. Адны жэрдкі, нібы шкілеты, засталіся ад стромкіх ялін у Цыгане, так зваўся лясок з круглым, як міска, возеркам паміж Коханавічамі і Жылічамі; знікла балота перад Малаедамі за Высокаўскім лесам у нізіне, перад дзедавай сядзібай...

А ў той час, калі не дайшло яшчэ да здзекаў над зямлёю, сяло наша ўдала хавалася паміж балот і ўзгоркаў. З поўдня прыкрыта шчыльнаю і працяглаю, канца не відаць, паласою лесу, з поўначы - разложыстым узвышшам. Таму, якія б страшэнныя ні налятаі буры ці навальніцы, а хаты не шкодзіліся. Усюды быў рух, кіпела праца, гаманілі людзі. Вядома ж, не да любавання зямною красою селяніну, а ўсё ж калі-нікалі збяруцца, бывала, у



*Тут каля Высокай была цэлая чарада курганоў*

нядзельку пагаварыць мужчыны, дый скажуць: "А што?! Добраё месца некалі выбралі пад сяло людзі..."

Ніхто з вясковых нічога не ведаў пра мінулае. На пытанні пра колішняе жыццё адказ заўжды быў адзін: "Цяжка жылося..." Самымі свежымі ўспамінамі былі канец радзівілаўскіх часоў, польскае ўладанне, прыход бальшавікоў у 1939-м, нямецкая акупацыя ў вайну, "парцізаншчына", загон у калгасы. Аб гэтым гаварылі і прыпаміналі часта, бо самі былі сведкамі тых падзей. Каралева Бона, уладарніца сяла ў далёкай мінуўшчыне, не пакінула аніякага следу ў свядомасці простага люду. Забыліся пра той час. Бо колькі пакаленняў перавярнулася, колькі вады перацякло ў балотах! Ды яшчэ бязглуздзіцы колькі нарабілася за гісторыю! Пры "саветах", як называлі бальшавіцкую ўладу, пабурылі фальваркі і маёнткі, цэрквы і касцёлы, трактарамі парастрасалі і парэзалі старажытныя курганы - жывыя кнігі нашай гісторыі. Пра курганы хочацца сказаць асобна.

Пасля вайны мы, хадатаўскія дзеці, хадзілі ў пачатковую школу ў Якубавічы. Так называлася мясціна з некалькіх хат недалёка ад дуба Якуба. Хатак аніякіх не захавалася на тым месцы - адзін дуб Якуб, помнік рэспубліканскай каштоўнасці, стаіць там дагэтуль. Школка наша заснавалася ў колішняй сядзібе пана Смоліча. Вялікі драўляны дом, абапал калідора два прасторныя пакоі, дзе мясціліся класы. І захапляльнае відовішча навокал. На правы бок ад дома - бярозавы гай, на левы - арэхавы падлесак і прыгожы сад, пасаджаны панам пры паляках. А ў наваколлі гарошынамі раскінуліся добра бачныя старажытныя курганы, бо панскі дом стаяў на падвыссі. За арэхавым ляском перад Гусакамі, за бярозавым гаем перад Малаедамі і Коха-



*Да нашых дзён захаваліся курганы каля вёскі Аношкі*

навічамі чарнелі, уразаючыся ў небасхіл, пасярод курганоў авечую ферму, перакалашмацілі зямлю. Потым перасталі трымаць авечак, бо нібыта ваўкі абнадзіліся, а хутчэй дык людзі не прамінапі дзіркі ў плоце. На пакінутых пабудовах паправальваліся стрэхі, пакруціліся сцены без дагляду. Так і бурэлі яны дзесяцігоддзямі на самой гісторыі, на памяці нашай. Нарэшце гэты раздрай прыбралі, а курганныя насыпы парэзалі бульдозерамі і зраўнялі з зямлёю. Зрабілі палігон для арганікі зжывёлагадоўчых фермаў. Як жа інакш, не знайшлося, бачыце, другога месца ў калгаса, куды гной з фермаў звозіць, акрамя курганных засновак?! І там, дзе былі меціны перамог ці жалю продкаў нашых, высяцца насыпы з гною і саломы. Таксама помнікі, але нашага невуцтва. Такія мы людзі, што тут яшчэ скажаш...

А месца гэтае, Высокая, не простае, адметнае. Маюцца пэўныя гістарычныя звесткі, што некалі на лясным узгорку адбылася моцная бойка з татарамі. Было тое ў жніўні 1506 года, калі татарская армія крымскага хана Менглі-Гірэя на чале з яго сынамі ўчыніла чарговы напад на Вялікае Княства Літоўскае. Татары падышлі да Навагрудка, асадзілі Слуцак, палілі і рабавалі паселішчы, забіралі людзей у палон. Літоўскае войска выйшла супраць ворага з Ліды ў кірунку Клецка, дзе стаялі асноўныя сілы татар, пераймаючы іх групоўкі на сваім шляху. Татараў пабілі за Ішкальдзю, а таксама на рацэ Уша каля вёскі Круты Бераг. Сутычкі з імі былі і ў нашых мясцінах. Дарэчы, на начлег войска прыпынілася ў вёсцы Ліпа перад Малевам. Там адбылася важная і адначасова трывожная падзея. Камандуючы, маршалак Станіслаў Кішка, занямог. Замест яго гетманам на бітву абралі маршалка Міхаіла Глінскага, 36-гадовага князя, які ўшчэнт разбіў татар на рацэ Лань пад Клецкам. Палонныя татары з цягам часу рассяляліся па наваколлі, засновалі сваё паселішча і каля нашых Хадатавіч. Людзі празвалі яго Ардою. Гэтак вёска Арда ўвайшла і ў афіцыйныя дакументы.

Вучоны-археолаг з Менска У.С. Астапаў у








***Памятны знак на месцы разгрому татарскіх войск пад Клецкам у 1506 г.***




1952 годзе налічыў каля Хадатавічаў сем курганоў, а ў 1977 г. іх засталося толькі два. Аб гэтым пішацца ў гісторыка-дакументальным выданні "Памяць", прысвечаным Нясвіжскаму раёну. Між тым археалагічныя раскопкі, праведзеныя даследчыкамі, пацвярджалі гістарычную каштоўнасць курганных насыпаў. Вялікае селішча XVII-XVIII стагоддзяў было адкрыта каля вёскі Коханавічы, што суседнічае з Хадатавічамі. Там знойдзена ганчарная кераміка, іншыя цікавыя рэчы. Каля Мацылёўшчыны, суседняй вёскі ў бок Клецка, археолагі адкрылі буйны курганны могільнік дрыгавічоў. Ён налічваў шэсцьдзясят два насыпы вышынёю да двух метраў.

Ад дрыгавічоў і цягнецца гісторыя нашых продкаў. Яны ўтварылі першыя пасяленні, заклалі пачаткі дзяржаўных высноў, вучыліся супольна бараніць сваю зямлю. Іх паселішчы захоплівалі менскі князь Глеб, чарнігаўскі і тураўскі князі. Яны пастаянна пакутавалі ад ворагаў, пакуль нарэшце не ўтварылася Вялікае Княства Літоўскае. То было сведчанне сталага розуму і магутнай волі тагачаснага люду і яго павадыроў. Але бацькі і прадзеды нашыя, простыя сяляне з Хадатавічаў, нічога толкам пра гэтую даўніну не ведалі. Хоць і не сказаць, што не цікавіла яна іх. Але ж якіх-небудзь адметных паданняў пра гісторыю сваёй зямлі не чуваць было ў гаворках. На афіцыйным узроўні, з боку ўлады, школьнікам ды студэнтам укладвалі ў галовы адно - гісторыя Беларусі толькі і пачалася з Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года; аб тым жа трубілі сродкі прапаганды, радыё ды газеты. Разбірацца ў сваім мінулым ці сядзець у бібліятэках, перабіраць архівы - не селяніну.

Жыццё бедалагі-селяніна падпарадкоўвалася аднаму закону: выжыць, вытрываць, выстаяць! Не пагінуць з голаду, не скалець у лютую зіму, падняць на ногі дзяцей, перацярпець варожую навалу. Адзіная прыяцелька ў селяніна ва ўсе часы і ва ўсіх яго бедах - зямелька родная. Хоць кавалачак, хоць палоска, а выратуе, не дасць марна згінуць. Таму не разгіналіся на ёй з рання да ночы. Усё астатняе не мела для селяніна значнага сэнсу. Кожная хвіля, кожная гадзіна павінны быць аддадзены нястомнай працы. Такі закон, пакінуты продкамі. Хто яго парушаў, той не мог разлічваць на міласціну ні людскую, ні божую.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Алесь Краўцэвіч***

# Фрагмент з яшчэ непублікавай кнігі "*Дзяржава волатаў. Дуумвірат Альгерд-Кейстут ў Вялікім Княстве Літоўскім (1345 - 1377 гг.)*"

## З гнязда Гедыміна

**Біяграфічныя даведкі:**

***Альгерд Гедымінавіч*** *- адзін са старэйшых сыноў вялікага князя Гедыміна, нарадзіўся каля 1303 - 1305 г., памёр у 1377 г. Пры жыцці бацькі быў удзельным князем Віцебскім і Крэўскім. Стаў вялікім князем літоўскім у канцы 1344 - пачатку 1345 г. Стварыў дуумвірат з малодшым братам Кейстутам. Меў тытул вялікага князя, спецыялізаваўся ва ўсходняй палітыцы. Практычна завяршыў палітычнае аб'яднанне беларускіх земляў (адносна самастойнай заставалася адно Смаленшчына). Апрацаваў і паспяхова рэалізоўваў праграму аб'яднання ўсіх усходнеславянскіх земляў пад уладай Вялікага Княства Літоўскага. Далучыў да дзяржавы большую*



**Альгерд Гедымінавіч**

*частку Украіны, амаль усю Смаленшчыну і Браншчыну.*

*Упершыню ў гісторыі нанёс паразу татарам на іх тэрыторыі, у бітве ля Сініх Водаў у 1362 г. Пры ім Вялікае Княства Літоўскае здабыло лідарства ва Усходняй Еўропе.*

*Бацька Ягайлы - пачынальніка дынастыі польскіх каралёў Ягелонаў.*

***Кейстут Гедымінавіч*** *- малодшы брат Альгерда, нарадзіўся каля 1308 - 1310 г., загінуў у 1382 г. Асноўныя ўладанні - Трокскае і Гарадзенскае княствы. Таксама валодаў Падляшшам. Галоўная*



**Кейстут Гедымінавіч**

*рэзідэнцыя ў Троках. Быў фактычным выканаўцам замаху стану ў канцы 1344 - пачатку 1345 г. У дуумвіраце з Альгердам адказваў за заходнюю палітыку. Паспяхова кіраваў абаронай ад Ордэнскай дзяржавы.*

*Пасля смерці Альгерда не змог працягнуць супрацу з яго сынам вялікім князем Ягайлам, скінуў таго з пасаду, займаў вялікакняскі пасад у 1380 - 1382 г., аднак прайграў Ягайлу ў міжусобнай вайне. У тым жа годзе задушаны ў вязніцы Крэўскага замка. Бацька двух вялікіх князёў літоўскіх: Вітаўта і Жыгімонта Кейстутавічаў.*

Даты народзінаў Альгерда і Кейстута гісторыкі вызначылі толькі прыблізныя: першага - каля 1303 - 1305; другога - блізка 1308 - 1310 г. Пра дзяцінства абодвух нічога не вядома, але можна не сумнявацца, што атрымалі выхаванне, належнае князям манаршага дома, найперш і найбольш засвойвалі рыцарскую навуку. Несумненна, прайшлі суворую школу - шмат часу праводзілі ў сядле, дасканала валодалі зброяй. Ёсць звесткі, што Кейстут у дарослым веку асабіста прымаў удзел у баявых сутыкненнях. Тое ж можна сказаць і пра Альгерда, які на чале войска хадзіў у далёкія ваенныя паходы.

Акрамя індывідуальнага валодання зброяй і канём, княжычы вучыліся кіраваць вайсковымі аддзеламі. Навука была няпростая, прафесія ваяра небяспечная (Альгерд кульгаў на правую нагу, верагодна, пашкодзіў у баі ці шкаленні). Каб камандавац ваеннай выправай мала было княскага паходжання, патрабаваліся яшчэ асаблівыя здольнасці і асабісты аўтарытэт, уменне кіраваць і весці за сабой. Прайсці з войскам далёкую выправу, выбраць месца для адпачынку, арганізаваць варту, выведку, здолець неспадзеўкі ўвайсці на варожую тэрыторыю. Ці наадварот, пралічыць, выведаць маршрут варожага атрада і засланіць яму дарогу, зладзіць засаду, арганізаваць пагоню. Княжычам дапамагалі, асабліва напачатку, вопытныя ваяводы, прыстаўленыя бацькам.

Умелі чытаць і пісаць па-русінску (старабеларуску), Альгерд ведаў нямецкую мову, пра што ёсць прамое сведчанне сучасніка. Можна меркаваць, што і Кейстут мог паразумецца па-нямецку, бо шмат гадоў сутыкаўся з ордэнскімі рыцарамі на полі бою і вёў з імі перамовы. Аднойчы падчас уцёкаў з палону, пераапрануты ва ўбор рыцара-крыжака, ён сустрэў сапраўднага ордэнскага брата, павітаўся з ім, а той не распазнаў чужога. Вядома, што Кейстут гаварыў па-беларуску, нават захавалася задакументаваная ягоная фраза на гэтай мове, якую на слых, не разумеючы сэнсу, запісаў венгерскі храніст.

На час смерці бацькі Альгерд і Кейстут, у адрозненне ад малодшага брата Яўнута, былі ўжо дасведчанымі і вядомымі дзяржаўнымі мужамі - удзельнымі князямі і вайсковымі правадырамі. Мелі таксама вопыт сумесных паходаў, што напэўна прыдалося пры звяржэнні Яўнута.

Захаваліся два апісанні іх знешнасці сучаснікамі. Абодва паходзяць з Тэўтонскага ордэна, дзе дуумвіраў добра ведалі і з увагай сачылі за іх дзейнасцю, бо ад яе часта залежаў лёс Ордэнскай дзяржавы.

Пра Альгерда ордэнскія дыпламаты (і адначасова разведчыкі) паведамлялі свайму кіраўніцтву ў 1357 г.: *"Мае велічную паставу, ружовую скуру, твар даўгаваты, нос выступаючы, вочы блакітныя, вельмі выразныя, бровы густыя, светлыя, барада доўгая светла-русая, трохі сівая, як і валасы на галаве, спераду выпаўшыя, высокі лоб. Росту вышэй сярэдняга, а ні занадта худы, а ні тоўсты. Гаворыць голасна, выразна, прыемным для слыху голасам. Выдатна ездзіць верхам, але калі ходзіць, кульгае на правую нагу. Таму звычайна абапіраецца на кій, або на плячук збраяносца. Добра разумее нашу мову і можа гаварыць па-нямецку, але заўсёды пры размовах з нашымі мае пры сабе перакладчыка."* (Апошняе можа сведчыць пра асцярожнасць і разважлівасць - гаспадар хацеў мець больш часу на абдумванне сваіх словаў).

Апісанне знешнасці Кейстута пакінуў таксама ордэнскі аўтар, які ў 1361 г. убачыў палоннага князя, калі таго прывезлі ў Мальбарк: *"Кейстут быў высокі, статны, прамяністыя вочы гарэлі на бледным твары, доўгія валасы пакрывалі яго галаву, сівая барада спадала на грудзі. Скупыя былі яго вусны, але кожнае слова шмат значыла. Калі ён пагражаў, то на ілбе ўздуваліся вены. Увесь выгляд яго будзіў страх."* Апошняе не дзівіць, бо Кейстут Гедымінавіч дзесяцігоддзямі даваўся ў знакі крыжакам, мяркую, у Прусах нямецкія маткі палохалі ім дзяцей.

Браты следавалі тагачаснай модзе - насілі доўгія валасы і бароды, як і самі тэўтонскія рыцары.

Пра асаблівасці характару Альгерда напісалі летапісцы Паўночна-Усходняй Русі - будучай Расеі - там яго ведалі яшчэ лепш, чым на захадзе. *"Гэты Альгерд быў вельмі разумны, гаварыў на многіх мовах і ўсіх пераўзышоў уладай і маестатам. Быў вельмі ўстрыманы, адвернуты ад усіх мітуслівых спакусаў, пацехаў, гулянняў і іншых такіх не ўспрымаў, але думаў пра дзяржаву ўдзень і ўночы. І п'янства не прызнаваў, віна, і піва, і мёду, і ўсялякага піцця п'янага. І ад таго набыў вялікі розум і сэнс, і вялікія задумы меў і такім каварствам заваяваў многія краіны і землі, і гарады і княствы сабе забраў і трымаў вялікую ўладу і павялічыў княжанне сваё больш за ўсіх, за бацьку і дзеда"*. Разам з тым, летапісцы маглі абзываць Альгерда *"злаверным"*, *"бязбожным"*, з-за ягонай прыхільнасці да веры продкаў - язычніцтва.

Асабліва адзначалася вайсковае майстэрства вялікага князя: *"Быў жа ў Альгерда Гедымінавіча такі звычай, ніхто не ведаў, куды збіраецца ісці ў паход, навошта збірае вялікае войска, бо і самі ваяводы і ўсё войска не ведалі, куды ідуць - ні свае, ні чужыя, ні госці-прышэльцы. Усё тварыў у вялікай таямніцы, каб не пайшла вестка ў зямлю, на якую хоча ісці вайною. І такой хітрасцю захапіў многія землі, заняў многія гарады і паланіў краіны, не столькі сілаю, колькі мудрасцю ваяваўшы. І быў ад яго страх на ўсіх і многіх пераўзышоў княжаннем і багаццем"*. Тут усё зразумела, Альгерд скрупулёзна выконваў галоўную ўмову паспяховай ваеннай выправы - фактар нечаканасці. Значных пастаянных войскаў тады не было магчымасці трымаць у адным месцы з-за цяжкасці іх пракармлення, большасць ваяроў жыла па ваколічных вёсках і іх збор займаў прынамсі некалькі дзён. Адсюль у сярэднявечны заўсёдная вялікая

ўвага да выведкі намераў ворага, каб мець час на падрыхтоўку абароны.

Пра характар і чыны Кейстута больш можна даведацца з хронік заходняга суседа - Тэўтонскага ордэна. Там яго ведалі гэтаксама добра, як Альгерда на ўсходзе. Асобу Кейстута крыжацкія крыніцы падаюць у двух розных, супярэчлівых між сабой ракурсах. Першы - стандартныя, можна сказаць, дзяжурныя фразы, якія заходні храніст-хрысціянін (гэтаксама, і як усходнеславянскі хрысціянін-летапісец) лічыў патрэбным устаўляць у апісанне асобы язычніка. Менавіта, прыніжаць яго вербальна і тым самым падкрэсліваць ніжэйшасць у параўнанні з хрысціянамі. Адсюль такія выразы ордэнскага храніста пра Кейстута, як *"шалёны сабака"* са *"сваім д'ябальскім народам"*. (Усходнеславянскія летапісцы адносна ліцвінскіх уладароў або татарскіх ханаў ужывалі эпітэты *"няверны", "бязбожны", "акаянны"*.)

Другі ракурс праяўляўся, калі храніст апавядаў непасрэдна пра асобу князя Кейстута Гедымінавіча. Тут ужо відная вялікая павага ордэнскіх рыцараў да грознага ліцвіна, не меншая, чым да любога хрысціянскага манарха: *"Кейстут быў вельмі мужным чалавекам і заўжды трымаў слова. Калі збіраўся ў паход на Прусы, то інфармаваў пра свой намер маршала і абавязкова прыходзіў, а калі заключаў мір з Ордэнам, дакладна яго трымаўся. Калі пазнаваў якога брата* (рыцара-крыжака - *А.К.*), *што ён моцны і адважны, аказваў яму вялікі гонар"*.

Ордэнскі храніст апавядае, як у 1378 г. Кейстут не дазволіў сваім воям-язычнікам прынесці ў ахвяру багам (спаліць на вогнішчы ў поўным узбраенні і верхам на кані) рыцара-крыжака, які здаўся ў палон. А вось даволі красамоўнае апісанне няшчаснага выпадку з маладым князем - сынам Кейстута. Той падчас паходу ў Прусы шукаў броду і пачаў тапіцца ў бурлівай рацэ. Убачыўшы тое, мясцовы крыжацкі комтур (камандзір акругі), паслаў сваіх людзей яму на паратунак, а потым адправіў да бацькі, бо *"хацеў спадабацца каралю Кейстуту"*.

Напэўна найлепшая характарыстыка і ацэнка асобаў Альгерда і Кейстута - сам факт узаемнай вернасці і палітычнай лаяльнасці на працягу больш трыццаці гадоў. Такое не часта сустрэнеш у сярэднявеччы, (як і ў любыя часы) сярод палітыкаў. Вось як пра гэта напісаў наш летапісец: *"І ўчынілі ўмову паміж сабою вялікі князь Кейстут і вялікі князь Альгерд, што ўсе іх браты павінны слухацца вялікага князя Альгерда, што здабудуць, горад ці воласць, усё дзяліць напалам. І прысягнулі яны адзін аднаму быць да канца жыцця ў любові і дружбе і ніколі не задумваць нічога благога. І захавалі яны клятву да канца жыцця свайго."*

А пасварыць братоў-дуумвіраў спрабавалі не раз і не два! З усіх бакоў - і суседнія манархі і нават германскі імператар ды папа рымскі! Ведалі, чым спакушаць - самай прывабнай для палітыкаў нажыўкай - адзінаасобнай уладай. Але браты на гэтую прынаду не трапляліся, інтрыгі разгадвалі, а часам і паварочвалі на сваю карысць. Падыгрывалі, удавалі, што клюнулі, напэўна, яшчэ і пацешваліся пры гэтым.

У 1348 г. Кейстут прыкінуўся, нібыта згодны хрысціцца ў каталіцтва і прыняць каралеўскую карону асобна ад Альгерда, чым нямала парадаваў польскага караля Казіміра III, праўда ненадоўга. Ускосныя звесткі пра гэтую "нязгоду" нават трапілі ў пісьмовыя крыніцы і сталі падставай для дыскусіі між сучаснымі гісторыкамі - была яна ці не. Дыскусія без сэнсу, бо далейшы ход падзей паказаў, што ніякага канфлікту не было, дуумвіры яго імітавалі, каб выйграць час і адвесці пагрозу вайны ад сваёй дзяржавы.

Абодва браты былі доўгажыхарамі, а па тагачасных мерках увогуле жылі неверагодна доўга. Сярэдняя працягласць жыцця ў сярэднявеччы нават у лепшыя часы рэдка перавышала трыццаць гадоў, а Альгерд памёр на восьмым дзясятку, Кейстута пазбавілі жыцця прыблізна ў такім жа ўзросце. Прычына княскага доўгажыхарства ў тым, што князі не мелі такой праблемы з харчаваннем, як простыя людзі, якія елі адзін раз у дзень і пастаянна галадалі. Дадаць яшчэ актыўны лад жыцця, пастаянныя фізічныя практыкаванні ў экалагічна чыстым асяроддзі, і ўсё стане зразумелым.

Натуральна, былі пладавітымі і мелі здаровае патомства. Гісторыкі налічылі больш дваццаці дзяцей ў Альгерда ад двух шлюбаў, а Кейстут ад адной жонкі меў каля дзесяці.

Альгерд упершыню ажаніўся па волі бацькі яшчэ ў юнацкім (калі не хлапечым) узросце з віцебскай княжной. Мясцовы князь, які не меў мужчынскага патомства, узяў яго да сябе ў Віцебск: *"а к тому князь витебскии сынов не мел, толко дочку, и он за Олкгирда дал дочку свою и прынял его у землю Витебскую"*. Праз некалькі гадоў пасля смерці цесця Альгерд стаў віцебскім князем. Другі раз ён ажаніўся, як памерла першая жонка (каля 1349 г.), з цверскай княжной Юллянай (яе родная сястра пайшла за маскоўскага князя).

З вядомых звестак пра жаніцьбу Кейстута вынікае, што ягоны шлюб быў не палітычным, а, хутчэй рамантычным. Праўда, ягоная абранніца так не лічыла, прынамсі напачатку, бо была жрыцай і замуж увогуле не збіралася. Як занатаваў летапісец: *"... імем Бірута, якая багам сваім, паводле звычаю паганскага, паабяцала дзявоцтва захоўваць, і саму яе людзі лічылі за багіню"*. Кейстут узяў яе ў жонкі сілай (у сярэднявеччы тое, нажаль, было хутчэй нормай). На вяселле сабраліся браты, бацька сярод гасцей не згадваецца, адсюль выснова гісторыкаў, што яно адбылося ўжо пасля смерці Гедыміна, сама раней - каля 1342 г. Шлюб аказаўся багатым на дзеці...

*Віктар Дземеш*

# КАБ І СЛОЎЦАМ НЕ ЗГРАШЫЦЬ
## альбо маё бачанне Сымона Буднага

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

**Частка II**

**Вер у Бога і ў сябе павер**

Ці ж оды Буднаму пісаць?
Ды буду, буду доўга
Яго настырна ўспамінаць,
Бо ў Бога з рога многа

Ўсяго. Скажу, каб несці ў свет
І свой - хоць нейкі - погляд.
Раўняйся на яго паэт -
Не на якую погань!

Кідайся ў ногі да яго
Смялей, ды не саромся,
Настаўніка ў жыцці свайго,
Пакуль цябе не зрокся,

Пакуль дае табе ён шанц
Падняцца над сабою,
Навесці на сумленне глянц,
Падрыхтавацца к бою

З несправядлівасцю, са злом,
У боль, у стогн закуты,
Каб жыць з надломленым крылом,
Перамагаць пакуты.

Ён быў раней, ён ёсць цяпер,
У гэтым падаплёка:
Вер Богу і ў сябе павер,
І пойдзеш ты далёка.

**Жыцця святога знак**

Вартуючы наўкола
Нясвіжскай волі ціш,
Ля Фарнага касцёла,
У скверы ты стаіш.

І з Біблiяй, каб зналі:
Без Бога аніяк!
Каб Слова ўсе чыталі,
Жыцця святога знак;

Каб жыць, але й няблага,
Каб ведаць Шлях і Род.
Расце да веры ўвага,
І моліцца народ.

Глядзіш ты ўдалеч. Лісце
Пад промнем зіхаціць,
Як і раней калісьці
На дол з галля ляціць.

Калі дажджы налягуць
З гайнёй сварлівых хмар,
Каб збіць зямелькі смагу,
Суняць дыхання жар,

А восень залатыя,
Апалыя лісты
Змяце ў грудкі крутыя,
Каб вока лашчыў ты.

**Асцярожнасць**

Знаць трыгер свой геройскі,
І з ім быць заадно!
А Фарны - гэта свойскі,
Прыходскі - ўсё адно.

Без ордэна манахаў,
Раўніцеляў Хрыста,
Прыхільнікаў паста,
Што галаву на плаху
З любога, як з куста.

За ўсім сачылі нізка:
За норавам людзей,
Хто з кім, наколькі блізка,
Хто ў гушчыні падзей.

Паліцыя маралі.
І толькі пікні ты -
Адразу ж і каралі,
Хоць будзь ва ўсім святы

Раней. О, езуіт падступны,
Памучыў ты яго,
Што ледзве вымкнуў Будны
Ад ворага свайго,
Ад часу ад таго.

І потым асцярожнасць
Яго вяла заўжды,
І абмінуў ён рожны
І вілы злыбяды.

**Даводзіў справу да канца**

Сярод часоў прыязных, хіжых
Каторы век вунь з году ў год
Зара касцёл і плошчу ліжа
І сыпле промні над Нясвіжам,
Крыляе радасці ў палёт.

Ды ўсё ж ізноў на месца стала:
Касцёл, царква - ідзі туды,
Куды госпадзь пакліча стала,
Дзе дабравесце боль зламала,
Твой лёс акрыўшы ад бяды.

Грашыць не трэба на Сымона,
Злаваць, панове, як - ніяк
Ён - рэфарматар, мяў заслоны,
Мяняўся сам ажно да скону,
Свяціў наўкол, нібы маяк.

Гарэў ён Верай і Асветай,
Чаго ў ім больш было - не ўзнаць.
Слыў Гуманістам і Паэтам,
Маглі за гэта галаў зняць,

На вогнішчы спаліць, як Гуса,
Джардана Бруна, як ... Ды вось
Цярпелі неяк беларуса,
Не загараліся спакусай
На розум гнуткі, весялосць.

Шумлівы быў, быў энергічны,
Жыло ў ім нешта ад хлапца,
Да цяжкасцей любых прывычны,
Не імпульсіўна-істарычны,
Не хаатычны, а лагічны,
Даводзіў справу да канца.

**З табой мой лёгкакрылы верш**

У цэнтр Нясвіжа, нібы промнем цэлячы,
Каб стаць скразной артэрыяй яго,
Як сімвалічна - вуліца Міцкевіча
Цябе аберагае, як свайго.

Цябе сталёвы шум зусім не кратае,
Ад гукаў ты сталееш і расцеш,
Бо - воля, столькі волі - не за кратамі,
Ды і з табой мой лёгкакрылы верш.

Мой верш, цябе люляючы ахутвае,
Схіляецца перад табою ніц,
Заслуга ў тым, вядома, не мінутная,
Бо да вякоў прыкутая - пакутная,
Вялікая, суворая, магутная
Твая душа, што з сонца, з навальніц.

**Ідэі ён вялікай мужны волат**

О, не зважай, што прозвішча ў Сымона
Зусім не панскае - глыбей
Зірні ў карэнне, з іх выходзіць крона,
Ну а пад ёй і шляхціцу цяплей.

Які б ні быў ты горды - холад лезе
Пад кажушок, пад воўну рукавіц -
Аж застаецца скура на жалезе.
О, холад, ён дужэй ад навальніц.

Прыродны холад - гэта катаклізмы,
А іх мы прыручылі - я і ты,
Ёсць людзі, мы глядзім на іх скрозь прызмы,
Іх шарму непадробнае харызмы,
Сымонавай святое катэхізмы,
І кожны з іх - шчаслівa непахісны,
Душэўны холад - вось бяда з бяды.

... Ён перажыў залевы, холад, голад,
Каб быць прад Богам чыстым, як сляза.
Ідэі ён вялікай мужны волат,
Ішоў заўжды па вастрыні ляза.

Ён - воін беларускай мовы свежай,
Якая выспявала неўпрыкмет;
Ён - зубр апошні сховаў Белавежы,
Цнатлівасці нясвіжскай. Ён - Паэт!

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Ігнась Адамскі*

# КОТ, ПА ЯКІМ СУМУЮЦЬ ПАРЫЖ І НЯСВІЖ

Маё сяброўства з Жан-Полем Мішарам пачалося падчас знаходжання на Нясвіжчыне гурту навукоўцаў, адмыслоўцаў і студэнтаў з Бельгіі і Францыі. Яны ў рамках арганізаванай Еўразвязам праграмы вывучалі, як на Беларусі вырабляюць цукар.

Нясвіж быў абраны месцам міжнароднага лагера таму, што тут знаходзяцца адзін з найбуйнейшых цукровых заводаў краіны, навуковая станцыя па даследаваннях у галіне вырошчвання і селекцыі цукровых буракоў, а таксама спецыялізаваны саўгас са сваім заводам для апрацоўкі насення.

Да таго ж замежным гасцям было вельмі цікава пазнаёміцца з велічным замкам Радзівілаў ды іншымі гістарычнымі славутасцямі наваколля.

Наступным прыездам Жан-Поль папрасіў мяне паказаць яму Берасцейскую цвердзь, Белавежскую пушчу і Гародню. Адчуўшы маю неўтаймоўную цікавасць да Францыі, ён запрасіў мяне наведаць Парыж, а пазней дапамог арганізаваць удзел беларускіх дзіцячых і юнацкіх каманд па хакеі і баскетболе ў міжнародных турнірах, якія праводзіліся ў сталіцы Францыі і яе прыгарадах. Жан-Поль знаходзіў спонсараў, уладкоўваў гульцоў і трэнераў на начлег, арганізоўваў экскурсіі. А што да мяне, то я неаднойчы меў магчымасць узняцца на Эйфелеву вежу, праплыць на караблiку па Сене, прайсціся па Манмартры ды Елісейскіх палях, пабыць у самым слынным пасля Амерыкі Дыснейлэндзе.

Самай жа першай кропкай, куды была скіравана мая найвялікшая цікавасць, сталі могілкі Sainte-Genevieve-de-Bois. І не могілкі наогул, а магіла найвялікшага, на маё перакананне, рускага пісьменніка Івана Буніна. Ніякага помніка, адзін толькі высечаны з белага каменя крыж ніжэй сярэдняга чалавечага росту, на якім выбіты імя і прозвішча, гады жыцця і смерці. Памаліўшыся перад ім некалькі хвілін, я адчуў невытлумачальную палёгку, быццам зрабіў нейкую вельмі патрэбную ды карысную справу.

Абышоўшы мноства сцежак і агледзеўшы шмат розных помнікаў, у большасці вайскоўцам ад паручніка да генерала, з надпісамі спрэс на рускай мове, мы з Жан-Полем на хвілінку прыпыніліся ля шыкоўна аздобленай магілы балетнага танцоўшчыка Нурыева. Я ўслых заўважыў, што калі б усё жыццё збіраў свае заробкі ды не меў ніякіх выдаткаў, то наўрад ці сабраў бы суму грошай, якая пайшла на гэтае надмагільнае хараство... Мой сябар, крыху падумаўшы, сказаў, што, магчыма, змог бы заказаць сабе нешта падобнае.

Працаваў ён у адным з найбуйнейшых банкаў Францыі не на вельмі высокай, як мне здаецца, пасадзе, але вёў выключна сціплы лад жыцця. Раніцаю ён ніколі не снедаў, а, прыйшоўшы на працу, піў каву, праз некалькі гадзін гарбату, потым зноў каву, зноў гарбату. З ежы пры гэтым была якаянебудзь канапка ды пара пячэнікаў. Толькі пасля рабочага дня Жан-Поль заходзіў у недарагі рэстаранчык і там вячэраў.

Я ж як спадкаемец галоднага дзяцінства, застаўшыся адзін падчас абеду, не мог дачакацца вечара і абавязкова заходзіў у кітайскую крамку, якая месцілася на першым паверсе суседняга дома.

Вясёлы і радасны позірк маладой прадаўшчыцы прымушаў мяне думаць, што яна ўсё сваё свядомае жыццё марыла пра сустрэчу не з Аленам Дэлонам ці цёзкаю майго сябра Жан-Полем Бельмандо, а з жыхаром беларускай вёсачкі пад назвай Карцэвічы. Я зусім не хваляваўся, калі заказваў не больш, як пяцьдзясят грамаў розных салацікаў, бо не баяўся, што ўслед пачую: "Ну што вы, мужчына, будзеце дзяўбці, як верабей, бярыце ўжо грамаў дзвесце!"

Кухня ў кватэры Жан-Поля Мішара была прытулкам дагэтуль невядомай мне цывілізацыі. Што там казаць пра газавую пліту ці халадзільнік. У той час я такія словы толькі чуў: блендар, тостар, мікрахвалёўка, але насамрэч ніколі іх не бачыў сваімі вачыма. У халадзільніку з маразільнікам была поўная Антарктыда, толькі без пінгвінаў, белых мядзведзяў ды цюленяў. А вось што да харчоў, то ў кутку стаяў толькі мех з камбікормам для двух катоў. У казачна прыгожай хатцы пастаянна жыла пара пушыстых пестуноў: яе звалі Мінота, а яго - Фелікс.

Дзеля мяне Жан-Поль звычайна мог адхіліцца ад сваёй працы не больш як на пару дзён, не лічачы суботы ды нядзелі. Каб мне было не надта адзінотна ў астатнія тры дні, ён пазнаёміў мяне з суседкай па лесвічнай пляцоўцы. Гэта была

Аляксандра Іванаўна Выдрына, руская жанчына, родам з-пад Варонежа, якая апынулася ў Францыі ў гады Другой сусветнай вайны. Аляксандра Іванаўна запрасіла мяне ў госці, пачаставала смачным абедам. На дэсерт, яна паставіла талерку з невядомымі для мяне на той час ківі і паказала, як можна спрытна спраўляцца з імі з дапамогай ножыка.

Я не памятаю сёння, як выглядала ўбранне кватэры... Не памятаю нават рысаў твару і знешнасці самой гаспадыні. Па маіх разліках, ёй павінна было быць далёка за семдзесят, але выглядала яна значна маладзей.

Самае незабыўнае ўражанне засталося ад яе мовы. Яна была, на першы погляд, самая звычайная, але без аніякай прымесі французскіх слоў ці набытага акцэнту, без сучасных модных слоўцаў ці выразаў. Мой слых успрымаў яе з такім жа замілаваннем, як зрок стомленага гарадскім тлумам чалавека ўспрымае ціхую, чыстую рэчку, у якой плёскаюцца непалоханыя рыбкі.

Наша з ёй размова пачалася з Буніна, бо гэта было першае, чым мне хацелася падзяліцца. Затым Аляксандра Іванаўна перайшла да ўспамінаў пра тое, як ёй заўжды хацелася сустрэцца з рускамоўнымі людзьмі, як моцна хацелася і як цяжка было ўладкавацца на працу ў шматлікія савецкія прадстаўніцтвы. Там пераважна наймалі французаў ці французжанак, якія гаварылі і пісалі па-руску праз пень-калоду, а толькі не сваіх "былых". Баючыся прычыніць боль гэтай добрай жанчыне, я, хоць мне і карцела гэта зрабіць, не задаў пытанне, чаму ёй прыйшлося назаўсёды пакінуць радзіму. Мы развіталіся з узаемнай надзеяй, што яшчэ не аднойчы зможам сустрэцца разам, але, калі праз пару гадоў я зноў патрапіў да Жан-Поля, ён сказаў, што яго руская суседка прадала кватэру пасля смерці мужа, які доўга і цяжка хварэў і не пакідаў сценаў шпіталя, і перабралася ў іншае месца.

Ёсць у жыцці паляўнічых няўдалыя стрэлы, якія памятаюцца ўсё жыццё, а ў пісьменніцкім лёсе здараюцца сустрэчы, якія не маюць жаданага працягу. Для мяне гэта, напэўна, адна з такіх няўдач.

Нельга не ўспамянуць пра тое, што паміж мною і Жан-Полем амаль з першых дзён знаёмства ўзнікла своеасаблівая гульня, сутнасць якой заключалася ў тым, што я называў яго "chat-gras", а ён мяне - хоць і не вельмі ахвотна, але пад маім няспынным ціскам - "chat-maigre". Першае азначала "тлусты кот", а другое - "худы кот". Па маёй жартоўнай, зразумела, класіфікацыі ў разрад тлустых катоў траплялі жыхары Нямеччыны, Аўстрыі, Швейцарыі, а таксама іншых краін, якія раскатваюць на "мерседэсах" і больш дарагіх легкавіках, адпачываюць на моры летам, катаюцца на горных лыжах зімой. Жан-Поль напачатку падкрэсліваў, што не мае дачынення да ўсіх названых пародаў тлустых катоў, спасылаючыся на тое, што ніколі не сядзеў за рулём аўтамабіля і тым больш не стаяў на лыжах. На што я яму сказаў:

- Пачакай, мон шэр шагра, ты ж не можаш не пагадзіцца, што кожны свядомы насельнік нашай планеты хацеў бы хоць раз у сваім жыцці прайсціся па лепшым горадзе свету Парыжы, а рэальную магчымасць зрабіць гэта маюць толькі асобныя тлустыя каты?

- Магу дапусціць, што ў гэтым ты маеш рацыю, - пагадзіўся Жан-Поль, - але ж я…

- Якія могуць быць "але", мон шэр шагра, ты ж па гэтым горадзе ходзіш штодня. Колькі ўжо чаравікаў ты стаптаў на яго вуліцах?

...Мае першыя асляпляльныя ўражанні ад вялікага горада, які я заўжды лічыў і працягваю лічыць сталіцаю ўсяго цывілізаванага свету, крыху сцерліся, улегліся, і сёння, спрабуючы вылучыць штосьці найбольш яркае і незабыўнае, я ўспамінаю першы позірк на Нотр-Дам, паблізу якога я выйшаў з турыстычнага аўтобуса, каб упершыню сустрэцца з Жан-Полем.

Хараство гэтага будынка прыхавалася за шэрай сеткай, бо на той час ішоў вялікі рамонт фасада. Як сёння не прыгадаць, што зусім нядаўна сабор быў моцна пашкоджаны агнём, а спрытныя дзялкі пачалі неадкладна прадаваць апаленыя камяні на сувеніры. Кажуць, што гандаль ідзе выключна ўдала. Не здзіўлюся, калі праз гады мы даведаемся, што колькасць прададзеных камянёў перавысіла рэальную вагу ў дзясяткі разоў. Нешта падобнае даўно ўжо адбываецца з мінеральнай вадой "Баржомі".

З высачэзнай вежы Монпарнас, вышынёю больш за дзвесце метраў, Парыж падаўся мне вынікам гульні казачнага волата, які сапхнуў са свайго месца велізарную вапняковую гару, разбіў яе сваім молатам на кавалкі самых розных адценняў белага і шэрага колераў ды склаў па сваёй неўтаймоўнай фантазіі непадобныя адзін да аднаго дамы і палацы, не забыўшыся на вуліцы, плошчы, масты праз Сену і яе прытокі, а таксама скверы, паркі, фантаны...

А вось Эйфелева вежа паўстала перад маімі вачыма стройнай маладой дзяўчынай у лёгкай ажурнай сукенцы, а не жалезнай пачварай, як тое здарылася напачатку, калі супраць яе ўзняліся многія з вялікіх сучаснікаў Жана Эйфеля. Мне

падаецца, што сённяшнім сваім хараством самая славутая вежа ў свеце абавязана ў вялікай ступені пакаленням іншых творцаў: архітэктараў, скульптараў ды будаўнікоў, якія геніяльна аздаблялі прыгажуню сваімі сродкамі і гэтым самым удасканальвалі прастору вакол яе, стваралі вартую аправу для дарагога дыямента.

Незабыўнымі застаюцца мае ўражанні ад наведвання самых розных мясцін Парыжа. На Манмартры мне здавалася, што я дыхаю адным паветрам з вялікімі імпрэсіяністамі, чую іх галасы і смех і думаю, як гэта пры сустрэчы не паблытаць Клода Моне з Эдуардам Мане. У той час я не задумваўся пра тое, што па правілах беларускай мовы абодва прозвішчы трэба пісаць праз літару "а" - Мане.

На востраве Сітэ Жан-Поль паказаў мне на дом, дзе ў свой час жыў славуты на ўвесь свет і добра вядомы ў Савецкім Саюзе спявак і кінаактор Іў Мантан, але мяне чамусьці нястрымна цягнула на самы ўскраек, туды, дзе гарэў адзін з самых яркіх кастроў у чалавечай гісторыі. 14 сакавіка 1314 года на ім быў спалены Жак дэ Мале, магістар ордэна тампліераў. Не вытрываўшы катаван-няў, былы сябар караля Піліпа IV Прыгожага і хросны бацька яго дачкі прызнаўся ў тым, што пляваў на святое распяцце. Услед ён паспеў публічна заявіць аб сваёй невінаватасці і ўсё ж на наступны дзень быў жыўцом спалены на вогнішчы. Ахоплены полымем, ён пракляў Піліпа і ўсіх яго нашчадкаў да трынаццатага калена, а напрыканцы заклікаў караля і Папу Рымскага паўстаць разам з ім перад судом Госпада не пазней, як праз год.

Сапраўды, не прайшло і месяца, як сканаў папа Клімент V. У лістападзе памёр і Піліп IV Прыгожы, як мяркуецца, ад кровазліцця ў мозг. Збыўся таксама праклён у адрас Гіёма дэ Нагарэ, які кіраваў арыштамі тампліераў і асабіста катаваў іх правадыра.

Ад думак пра прачытаныя некалі радкі Марыса Друона я нечакана перанёсся да "Архіпелага" Аляксандра Салжаніцына, гэтага гіганцкага збору яго асабістых успамінаў ды ўражанняў, а таксама сведчанняў велізарнага натоўпу людзей, адзінай віной якіх было тое, што ім выпала нарадзіцца менавіта ў той час ды менавіта ў той краіне, дзе ўлада апынулася ў руках - адна з якіх была высахлая - недарослага дэмана і параноіка.

Там я ў думках перагарнуў не адну старонку гэтай кнігі былога воіна - мужнага абаронцы роднай краіны, а потым палітычнага вязня і яшчэ пазней - змагара за гістарычную справядлівасць і ажыццяўленне прынцыпа "жыць не па ілжы", не шукаць сваіх крыўдзіцеляў, не помсціць, не ставіць іх да сценкі, не пазбаўляць ваенных пенсій, а заклікаць да пакаяння…

Тыя першыя ўражанні ад вялікага горада з цягам часу крыху сцерліся, улегліся, і сёння, спрабуючы вылучыць штосьці найбольш яркае і незабыўнае, я часцей за ўсё вяртаюся ў двухпакаёўку Жан-Поля з невялічкай вітальняй ды галоўным пакоем, які фактычна складаўся з чатырох злучаных у адно цэлае частак. Першая, якая адгаліноўвалася ў правы бок, служыла гасцёўняю з сталом, некалькімі крэсламі, шафай для посуду ды кніжнымі паліцамі. Другая знаходзілася крышку далей, злева ў нішы стаяў кампутар, на сцяне зноў жа віселі кніжныя паліцы.

Наступная частка пашыралася ў правы бок. Тут стаяла канапа, насупраць яе - тэлевізар, а калі глядзець прама, увагу прыцягвала да сябе вялікая шафа для адзення. Яна вылучалася сярод астатняй мэблі даволі старым і дарагім выглядам. Таксама нельга было не спыніцца позіркам на некалькіх выключна прыгожых карцінах з гарадскімі выявамі, выкананымі ў стылі імпрэсіянізму. За канапаю быў праход у невялічкі калідорчык, з якога можна было трапіць альбо проста ў ванны пакой, альбо налева - у спальню.

Не памятаю дакладна, падчас якога з маіх прыездаў Жан-Поль не начаваў дома, а мне прапанаваў свой ложак. Упершыню расчыніўшы дзверы гэтай спальні, я стаў на парозе і ледзь не аслупянеў ад убачанага. Адразу ж амаль у парозе ляжаў матрац. І не гэты матрац быў прычынай майго, як сёння кажуць, "культурнага шоку", і не адсутнасць іншай мэблі: там не было ні тумбачкі, ні крэсла, ні зэдліка, ні абавязковых для кожнага з папярэдніх пакояў кніжных паліц... Затое амаль уся падлога ад ложка да акна, уздоўж правай сцяны, была завалена - чым бы вы думалі? - усё тымі ж кнігамі... Да акна заставаўся толькі вузенькі праход уздоўж левай сцяны.

Калі назаўтра я заўважыў майму сябру, што ніколі ў жыцці не праводзіў ноч у такім нечакана цікавым месцы, ён сказаў, што ягоная спальня ёсць найвышэйшая каштоўнасць халасцяцкай волі, абсалютна не звязаная са шлюбнымі абавязкамі ды іншымі акалічнасцямі, якія ім спадарожнічаюць.

Далей Жан-Поль патлумачыў, што пару разоў на тыдзень ён наведвае тую ці іншую кніжную краму і звычайна купляе там якую-небудзь кніжку. Кола сваіх чытацкіх інтарэсаў ён і сам не змог бы вызначыць у некалькіх словах. Гэта магло быць каняводства ў Манголіі, знікненне дзікіх жывёл у

самых розных кропках зямлі, існаванне іншых розумаў у космасе, зразумела, банкаўская справа ды фінансы, але ўсё ж найбольш цікавілі яго гісторыя ды палітыка.

Прыйшоўшы дадому, калі не было няскончанай за дзень неадкладнай працы і не трэба было садзіцца за кампутар, ён глядзеў навіны дня ці якінебудзь фільм па тэлебачанні. Спаць ён клаўся як мага раней, каб пабыць сам-насам са сваімі найлепшымі сябрамі - кнігамі. Звычайна найперш ён раскрываў кнігу, якую набыў у той дзень. Чытаў змест, прадмову, праглядаў найбольш цікавыя раздзелы. Калі гэта былі мастацкія творы, часцей браўся за самыя кароткія апавяданні, і яму амаль адразу шмат чаго вызначалася з мовы, стылю, асноўнай тэмы аўтара.

Ход далейшых падзей мог быць самым розным. Кніжку, што зацікавіла яго, Жан-Поль мог пачаць чытаць тут жа. Мог пакласці яе побач з ложкам - прабачце за недакладнасць - матрацам, каб спачатку закончыць папярэднюю. Прачытаную ён мог пакласці на адлегласці выцягнутай рукі альбо крыху далей - з намерам перачытаць яе ў наступны раз. Зрэдку здаралася і такое, што іншую ён шпурляў у дальні куток, каб болей ніколі не вяртацца да яе нават ва ўспамінах. Адзінай прыкметай беспарадку Жан-Поль лічыў тое, што ніяк не збярэцца сабраць усе непатрэбныя кніжкі ў адзін стос, перавязаць шпагатам і аднесці да букініста альбо пакінуць унізе ля кансьержкі, каб тая разабралася з імі сама.

Памятаю, як, распрануўшыся, я найперш дацягнуўся да начнічка, уключыў яго, потым націснуў на выключальнік асноўнага святла і ўлёгся на пасцель, прадчуваючы прыемнасць начнога чытання, якому ніхто і нішто не можа памяшаць - асабліва думкі пра неабходнасць ранняга пад'ёму. Я адразу ж пачаў няспешна перабіраць адна за другой кнігі, нібыта баючыся парушыць іх звыклую цішыню і нерухомасць.

Даволі хутка на вочы трапіў загаловак на чырвона-белай вокладцы "Развал савецкай імперыі". Я не адразу надаў увагу таму, што словы тыя былі напісаны па-ангельску. Мне дагэтуль здавалася, што мой сябар не так вольна валодае ангельскай мовай, каб чытаць напісаныя на ёй кнігі ці газеты. Перш за ўсё я пачаў шукаць год выдання. Адна справа глядзець блокбастар пра гібель "Тытаніка", а другая - чытаць прыгодніцкі раман, які быў напісаны за два дзесяцігоддзі да падзеі і які ўтрымлівае апісанне неверагодна падобных да рэальнасці дэталяў ды фактаў.

Што мяне адразу найбольш уразіла, дык гэта тое, што кніжка была выдадзена за гадоў пяць да жнівеньскіх падзей ля Белага дома ў Маскве. Я міжволі сціснуў яе ў руках, нібыта спалохаўшыся, што хто-небудзь сочыць не толькі за тым, што гэта за кніжка, але і з якой цікавасцю я стаўлюся да яе. Успомніўшы, што за шыбамі акна тоіцца сцішаны начны Парыж, які ў пэўны час даваў надзейны прытулак Буніну, Дзянікіну, Шаляпіну і шмат іншым уцекачам ды выгнаннікам, я супакоіўся і пачаў шукаць звесткі пра самога аўтара, які прадугледзеў гібель такога звыштытаніка, як Савецкі Саюз. Тое, што аўтар быў англічанін, прайшло па мне, як канёк па лёдзе, а вось тое, што ён быў роўна на дзесяць гадоў маладзейшы за мяне, тым жа карьком балюча рэзнула па нейкай частцы маёй душы. Я адчуў сябе старым мурашом, а аўтар англічанін падаўся мне маладым вучоным, які праз свой мікраскоп вызначыў прычыны і час разбу-рэння ці, дакладней сказаць, самаразбурэння майго муравейніка.

Маё пачуванне было адначасова чымсьці сярэднім паміж зайздрасцю і крыўдаю на тое, што асабіста я ніколі не мог прыйсці да падобных высноў, хоць заўжды лічыў грамадства, у якім мне прыходзілася існаваць, ненармальным і наскрозь ілжывым.

Сапраўды, каб ведаць смак булёна, неабавязкова быць куранём, згатаваным у гэтым булёне, - успомніў я недзе пачуты дасціпны выраз.

Услед я ўспомніў выпадковую сустрэчу з адным інжынерам-будаўніком. Пасля пэўнай колькасці выпітых чарак нашая гаворка ад працы і апошніх футбольных поспехаў менскага "Дынама" неўпрыкметкі перайшла да палітыкі.

- Паслухай, - сказаў мой суразмоўца, - ты, напэўна, заўважаў, едучы ці ідучы каля якой-небудзь будоўлі, што стрэлы кранаў часцей за ўсё стаяць нерухома, рабочыя сядзяць, сярод іх лёгка заўважыць нецвярозых?

Я кіўнуў галавою. Навошта спрачацца, калі чалавек кажа, што зімою халадней, чым летам.

- А каб ты ведаў, які там ідзе крадзеж. Цягнуць усё, што пад руку трапіць. Дык вось, я табе скажу адно: гэта не можа працягвацца бясконца...

Я зноў з гатоўнасцю кіўнуў.

- Самае сумнае, - сказаў далей мой суразмоўца, - і вялікая бяда ў тым, што ўвесь гэты бардэль разваліцца вельмі хутка.

Тут ужо нешта раптам зрабілася з маёю шыяю, я не змог варухнуць ёю, а толькі падумаў пра сябе: вось гэта ўжо занадта, пэўна чалавека моцна пакрыўдзілі на службе, таму ён і распальваецца.

Каб перавесці гаворку ў жартоўны тон, я

прыгадаў любімы выраз аднаго майго сваяка: нічога страшнага, народ крадзе - краіна багацее...

Мой суразмоўца прыкра ўсміхнуўся і сказаў:

- Сапраўды, ці варта за гэтым сталом рашаць такія пытанні? Давай лепш яшчэ па кілішку...

Я хуценька прабег вачыма першыя раздзелы і пачаў уважліва чытаць старонкі, на якіх ішла гаворка на вельмі простай, не абцяжаранай мудрагелістымі навуковымі тэрмінамі мове пра бязглуздыя парадкі ў эканоміцы накшталт безгаспадарчасці і поўнай асабістай незацікаўленасці людзей. Аўтар, выкрываючы памылкі савецкай улады ў галіне фінансаў ці планавання, не "адкрываў Амерыкі".

Але ягоны сістэмны аналіз многіх бакоў савецкага ладу, у якім была звернута сур'ёзная ўвага нават на анекдоты пра партыю ды непарушнае сяброўства савецкіх народаў як на вельмі характэрны і небяспечны сімптом для камуністычнай сістэмы, няўмольна даводзіў: перспектыў гэтая краіна не мае.

* * *

Ужо больш за чвэрць стагоддзя ў Беларусі не сціхаюць спрэчкі пра тое, што мы страцілі пасля разбурэння СССР ды што набылі ад дзяржаўнай самастойнасці, якая будучыня нас чакае.

Літва пусцее, бо вялікае маса людзей з'язджае на Захад.

У суседняй Украіне льецца кроў. Хто б мог некалі сабе ўявіць, што прычынай можа стаць мова, на якой хочуць ці наадварот не хочуць размаўляць асобныя групы людзей?

Шмат хто звыкаецца з думкаю, што Парыж - гэта горад, у якім калісьці жылі французы. Яны таксама пачынаюць разумець, што дэмакратыя нясе ім не толькі салодкія ды жаданыя плады, але і праблемы, якіх ніхто не чакаў, і нават пагрозы.

Няўжо сапраўды так імкліва збываецца прароцтва Новага Запавету: "Усё ідзе да свайго канца"?

* * *

Цела майго сябра Жан-Поля дзесяць гадоў таму знайшло сабе апошні прытулак ля сцяны каталіцкага сабора ў Нармандыі побач з вёсачкаю, дзе нарадзілася і намерана таксама быць пахаванай яго жонка Жызель. З ёю мой сябар быў у шлюбе менш, чым два гады. Кватэра ж у пятнаццаці хвілінах няспешнай хады ад Эйфелевай вежы фактычна належала не яму, а яго старэнькай маці, якая на момант смерці адзінага сына знаходзілася ў хоспісе. Яна пазбавілася памяці і была прызнана лека-рамі цалкам неправадзейнай. Мадам Мішар памерла годам пазней за сына, а кватэра яе стала ўласнасцю пляменніка, які ў прынцыпе ніколі не разлічваў на спадчыну, але пасля рашэння натарыяльнага суда дазволіў Жызель узяць на памяць толькі некалькі карцін, якімі я потым любаваўся ўжо ў яе кватэры. Напярэдадні сваёй канчыны Жан-Поль папрасіў Жызель перадаць мне тры новыя гальштукі, якія ён не паспеў ніводнага разу завязаць. Калі праз шмат гадоў я апранаўся, каб існці ў атэлье сфатаграфавацца на партрэт для вокладкі маёй кніжкі ўспамінаў, я, не задумваючыся, пацягнуўся рукою да аднаго з іх.

Магіла Жан-Поля, якую я здолеў наведаць праз некалькі гадоў пасля яго смерці, аблямавана дарагім чорным каменем, на помніку выбіты золатам прозвішча, імя і гады жыцця. З такога ж чорнага каменя зроблены невялічкія пано з рознымі выявамі і выразамі спачування. На адным з іх выбіты партрэт нябожчыка. На другім, які прыцягнуў самую вялікую маю ўвагу, была выява ката, што сядзіць на падаконніку і глядзіць у сад. У фігуры гэтай жывёлы адчувалася такая пранізлівая туга і адзінота, што я не мог не падумаць: ну вось і скончылася і ніколі ўжо не паўторыцца прыдуманая мною гульня для двух сталых мужчын: гэты сумны кот - не Фелікс і не Мінота, а я сам...

Да скону дзён я буду ўспамінаць майго сябра Жан-Поля, які непарыўнаю стужкаю звязаў мой маленькі Нясвіж і горад маіх дзіцячых мараў Парыж.

# МЕТКІ

# НЕПЕРАМОЖНАЙ РУСІЗАЦЫІ Ў НЯСВІЖЫ

## Хто навязвае дыскусію пра дзвюхмоўе, той прыкрывае свае відавочныя паслугі "рускаму міру"

Што Нясвіж русізаваны, лёгка пераканацца – прайсціся па вуліцах, пачытаць шыльды, паказальнікі, рэкламныя шчыты...

Тым часам працэс працягваецца. Мяняюцца першыя асобы ў будынку на Ратушнай плошчы, 1, але ніякім чынам не мяняецца ў лепшы бок моўнае аблічча гарадскіх вуліц. Нават наадварот, русізацыя не здае баявых пазіцый, набірае абароты і моц. Выснова: узяты "надзейны" курс. І калі нехта гаворыць, што, маўляў, у краіне намецілася "мяккая БЕЛАрусізацыя", – той хлусіць або памыляецца. Ён не быў у Нясвіжы…

Апошні прыклад. Дзень Перамогі 9 мая (хоць ёсць і 8 мая - дзень памяці і жалобы па ахвярах вайны 1939 - 1945 гг., які адзначаюць дзяржавы-чальцы ААН). Аднак, няхай. Тут прынцыпова іншае. Я не рабіў адмысловага рэйду, каб пераканацца, на якой мове зроблены/напісаны святочныя расцяжкі на вуліцах горада. Я ў гэтыя дні (дні так званага святкавання) проста жыў сваім, нібыта "мірным жыццём": хадзіў, праязджаў цэнтральнымі вуліцамі - і нязменна, штораз чытаў тое, што для мяне напісалі. Таму сведчу і выказваю свой грамадзянскі пратэст: **чаму – ПА-РУСКУ?** Дамінуючы элемент на дэманстрацыйным плакаце - руская мова. Нібыта і не чужая, аднак зусім не вызначальная для тытульнай нацыі, **НЕ**каштоўнасць… Толькі збоку, у невыразным варыянце, можна прачытаць беларускае "Са святам!". Якая знявага!

Ах, ты не ведаў? У нас жа дзвюхмоўе!.. Ведаю, ведаў. Але даўно вядомая рэч: хто нам сёння навязвае «дыскуію» пра дзвюхмоўе, той прыкрывае свае відавочныя паслугі "рускаму міру".

Не будзем расслабляцца. За небяскрыўднымі меткамі ў старажытным беларускім

> « **Мы жывём у рэальным часе, і расцяжкі вешаюцца для таго, каб трансляваць каштоўнасці. Не толькі знакі пашаны тым, хто перажыў навалу, але і знакі годнасці нашчадкаў.**



Здаецца, на роднай мове святочны "агітпроп" уладных афарміцеляў не выглядаў бы такім безаблічна затупленым савецкім штампам.

**1 Тэкст на расцяжцы: (злева):**
**«Поклонимся великим тем годам...»**

**2 Тэкст на расцяжцы:**
**«Спасибо солдатам Победы за то, что не знаем войны»**

**3 Тэкст на расцяжцы:**
**«Помним. Гордимся. Живем»**

Фота: Валер Дранчук

горадзе – хіба не злавесны цень Сталіна (тым больш у такі, нібыта "пераможны" дзень) і хітрая ўсмешка Пуціна з ягоным збіраннем земляў: Расія канчаецца там, дзе канчаецца руская мова. У Нясвіжы НЕ КАНЧАЕЦЦА?..

Пытанне да каго? Вядома ж, не да простых жыхароў Нясвіжа ці ягоных ваколіц. Гэта ў калідорах мясцовай улады квітнее ўсё той жа НЕПЕРАМОЖНЫ савок - не толькі што да формы (мовы), але і зместу (тэксту на расцяжках). Адно дапаўняе другое. Здаецца, на роднай мове святочны "агітпроп" уладных афарміцеляў не выглядаў бы такім безаблічна затупленым савецкім штампам.

Аднак, вярнуся да формы – то бок мовы, на якой нібыта ўшанавана Памяць пра мінулую вайну. Мы жывём у рэальным часе, і расцяжкі вешаюцца для таго, каб транславаць каштоўнасці. Не толькі знакі пашаны тым, хто перажыў навалу, але і знакі годнасці нашчадкаў. Гэта прынцыпова. Хіба не за Бацькаўшчыну-Беларусь ваявалі нашы землякі. Вяртаючыся з франтоў дахаты, хіба не родную беларускую мову неслі яны з перамогай?

Прынамсі, мой бацька ў дзень Перамогі няраз і наракаў, маючы на ўвазе акурат каштоўнасці. Ідучы на "пераможную" ўрачыстасць, любіў казаць: *"Дык дзе тое ўсё, на што мы спадзяваліся - ні волі, ні зямлі, ні мовы сваёй не маем... Хай толькі дадуць мне слова, я ўсё ім скажу, рубану праўду-матку".*

У кішэні свайго святочнага касцюма хаваў цыдулку з тэзісамі "разгромнага" выступу. Аднак слова яму не давалі і не далі...

Выходзіць, не так ад свайго, як ад ягонага імя я пішу гэтыя радкі. Бо памяць шчыміць. Бо добра ведаю, якой хацеў бачыць сваю Айчыну-Беларусь мой бацька, салдат сапёрнага палка, ветэран Айчыннай. Не дагледзеў, сышоў у іншы свет. Але з «непераможнай» надзеяй - **што ўбачаць, дагледзяць унукі.**

Валер Дранчук

« – Куды ж цяпер твой дзень імчыцца? – Вучыцца, Верасень, вучыцца»

# Ярык Еўдакімаў пойдзе ў беларускую школу

**У яго ўжо не толькі старанна сабраны ранец. З бабуляй Стасяй – былой настаўніцай геаграфіі Карцэвіцкай школы Станіславай Георгіеўнай Вальчык – ён яшчэ вывучыў добры вершык пра свой першы школьны верасень**

На дзень нараджэння 22 чэрвеня бацькі падаравалі Ярыку ці не поўны школьны камплект, найперш сабралі будучаму вучню-першакласніку ягоны партфель.

Час ад часу Ярык туды заглядвае, правярае, ці не забыліся што.

Тое, што сын і ўнук ідзе ў беларускую школу, радуе ўсіх, асабліва бабулю. Спадарыня Станіслава працавала ў той жа школе, дзе будзе навучацца Ярык. Заўжды пільнавалася абавязку - выкладала на роднай мове. На пасадзе завуча не адступалася ад правіла: выхаваўчы працэс мусіць жывіцца роднай мовай. Сёння яна актыўны сябар ТБМ, у дзіцячым садку ў Нясвіжы вядзе заняткі «Роднае слоўка». Радуецца і за дзяцей, якія ахвотна далучаюцца да ўсяго роднага, і за бацькоў, якія па-грамадзянску ўсведамляюць свае абавязкі.

«Мне радасна бачыць, як Ярык рыхтуецца да першых заняткаў, як хоча падаць добры прыклад, расказаць беларускі верш, які ён вывучыў напамяць» - кажа шчаслівая бабуля.



*Яраслаў Еўдакімаў з сябрам (злева направа)*

## ЧОРНАЯ РАМКА

### Рускамоўныя маркеры ў беларускіх школах выглядаюць натуральным дзікунствам

Гэтае папярэджанне з”явілася на асфальтавым пакрыцці каля ўваходу ў беларускамоўную сельскую школу (не называючы, скажу толькі, што размешчана яна побач жывога стара-свецкага шляху - з Нясвіжа на Стоўбцы).

Вядома, клопат пра дзяцей варты ўдзячнага слова. А вось моўны знак засмучае і насцярожвае, больш за тое, заслугоўвае сур”ёзнай адміністрацыйнай прапясочкі за парушэнне ўнутрышкольнага распарадку і выклік грамадзянскай супольнасці.

Карацей, трафарэт мусіў адпавядаць статусу беларускай школы: «БУДЗЬ УВАЖЛІВЫ».




## SOS! Лічбы, якія шакуюць




**90%** беларускіх дзетак выхоўваюць у яслях і садках на расейскай мове

**86%** беларускіх школьнікаў навучаюць на расейскай мове

**99,9%** беларускіх студэнтаў ВНУ навучаюць на расейскай мове